I-5085
301.3
6502

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

## Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

## ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

№ 10 (37) Кастрычнік 1928

№ 10-12

ГОД ВЫДАНЬНЯ ЧАЦЬВЕРТЫ

бл 13835
Инв. 1953



ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК — 1928

# ПАСТАНОВА

**Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту і Савету Народных Камісараў Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспублікі аб рэорганізацыі Інстытуту Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук.**

Інстытут Беларускае Культуры, утвораны Савецкім урадам у мэтах скарыстаньня навуковых дасягненьняў для соцыялістычнага будаўніцтва, за кароткі час існаваньня разгарнуў шырокую навуковую працу ў справе разьвіцьця беларускай культуры і іншых нацыянальнасьцяй БССР і вывучэньня яе прыродных багацьцяў. Інстытут Беларускае Культуры сваёй працай мобілізаваў лепшыя навуковыя сілы Беларусі і правёў значную працу па фармаваньні кадраў маладых навуковых працаўнікоў. Навуковая дзейнасьць усіх гэтых кадраў вучоных асабліва інтэнсыўна выявілася ў апошнія гады, калі Інстытут Беларускае Культуры перайшоў на працу па акадэмічным статуту і паказаў поўную магчымасьць праводзіць досьледы ва ўсіх важнейшых галінах гаспадаркі і культуры Савецкай Беларусі. Вынікі навуковае дзейнасьці *Інстытуту Беларускае Культуры* далі яму магчымасьць устанавіць трывалую *навуковую* субязь і супрацоўніцтва з цэлым шэрагам навуковых установ Саюзу ССР, саюзных савецкіх рэспублік і замежных краін. Навуковы аўторытэт Інстытуту Беларускае Культуры ўсё больш павялічваецца як сярод шырокіх колаў працоўных мас, так і культурных працаўнікоў нашае краіны. Бяручы ўсё гэта пад увагу і маючы на мэце далейшае паглыбленьне навуковай працы ў мэтах соцыялістычнага будаўніцтва, а таксама стварыць магчымасьць яшчэ больш інтэнсыўнага разьвіцьця навуковай дзейнасьці ў галіне беларускае культуры і дасьледчае працы ў БССР, яшчэ большага згуртаваньня ўсіх вучоных, якія гатовы аддаць свае веды на карысьць рабочых і сялян, стварыць найбольш спрыяючыя ўмовы падрыхтоўкі новых кадраў вучоных з шэрагу рабочых і сялян,—Цэнтральны Выканаўчы Камітэт і Савет Народных Камісараў Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі ПАСТАНАЎЛЯЮЦЬ:

1) Рэорганізаваць Інстытут Беларускае Культуры ў Беларускую Акадэмію Навук.

2) Рэорганізацыю скончыць да першага студзеня 1929 г. (да юбілею дзесяцігодзьдзя стварэньня БССР).

3) Утварыць Урадавую Камісію ў складзе т. т. Хацкевіча (старшыня), Ігнатоўскага, Баліцкага, Некрашэвіча і Аршанскага, якой даручыць да 15-га лістапада 1928 г. падаць у Савет Народных Камісараў на зацьверджаньне сталы склад Прэзыдыуму і асабовы склад правадзейных членаў Беларускай Акадэміі Навук, а таксама тыя зьмены ў статут Акадэміі, якія патрэбны і выцякаюць з гэтай пастановы.

Старшыня ЦВК БССР *А. Чарвякоў.*

Старшыня СНК БССР *М. Галадзед.*

Сакратар ЦВК БССР *А. Хацкевіч.*

г. Менск, 13-га кастрычніка 1928 г.

---

# Ад Цэнтральнага Бюро Краязнаўства.

Пачатак чацьвертага году выданьня нашага часопісу прыпаў у найвыдатнейшую пару гісторыі беларускае культуры. Вышэйшая навуковая ўстанова Беларусі—Інстытут Беларускае Культуры пастановаю ўраду рэорганізаваны ў Беларускую Акадэмію Навук. Беларуская навука і беларускае краязнаўства пад ідэёвым кіраўніцтвам Комуністычнай партыі і пры поўным падтрыманьні Савецкае ўлады сваімі пасьпехамі ў справе дасьледваньня Беларусі і распрацоўкі агульнанавуковых проблем цалкам падрыхтавалі магчымасьць адчыненьня Беларускай Акадэміі Навук. Далейшае разьвіцьцё навуковай працы бясспрэчна апраўдае надзеі шырокіх працоўных мас і ўраду, якія яны пакладаюць на Акадэмію ў справе дапамогі перабудове жыцьця на соцыялістычных падставах. Мы спадзяемся, што наш часопіс і ў далейшым будзе ў меру сваіх сіл дапамагаць як разьвіцьцю беларускае навукі, так і практычнаму савецкаму соцыялістычнаму будаўніцтву.

Рэдакцыя часопісу ў першым нумары яго ў 1925 годзе, адзначаючы канечную патрэбу „ў спэцыяльным краязнаўчым журнале, за дапамогаю якога краязнаўчыя організацыі і асобы, зацікаўленыя краязнаўствам, маглі-б абмяняцца сваімі ведамі, пазнаёміцца з новымі краязнаўчымі працамі і знайсьці інструкцыі для сваёй дзейнасьці“,—лічыла, што „пры дапамозе акруговых таварыстваў краязнаўства і падтрыманьні вучоных беларускіх краязнаўцаў гэты часопіс дапаможа популярызацыі краязнаўчых ідэй у шырокіх колах працоўных мас“. Разам з рэдакцыяй часопісу і Цэнтральнае Бюро Краязнаўства спадзявалася, „што на старонках нашага часопісу знойдзе свой адбітак праца ўсіх беларускіх краязнаўчых організацый“ і заклікала „ўсіх культурных працаўнікоў Беларусі—вучоных, настаўнікаў, аграномаў, дактароў, савецкіх працаўнікоў на адміністрацыйнай і гаспадарчай глебе—стаць у шэрагі супрацоўнікаў нашага выданьня і ўнесьці сваю частку ў справу выведваньня нашага краю“.

У 36 нумарох часопісу, якія вышлі на працягу апошніх трох год, гэтыя надзеі рэдакцыі і Цэнтральнага Бюро Краязнаўства цалкам спраўдзіліся. За гэты час у часопісу друкавалі свае працы—88 аўтараў, з якіх—навуковых працаўнікоў—42, настаўнікаў—35, мэдычных працаўнікоў—3, аграномічных і інш. сельска-гаспадарчых працаўнікоў—1, савецкіх працаўнікоў—6 і іншых—1. Прац агульнабеларускага маштабу зьмешчана—64 і прац датычных паасобных краёў Беларусі—94. Артыкулаў з галіны мэтодолёгіі і гісторыі краязнаўства часопіс даў за гэты час 51, а програм, інструкцый і анкет для вывучэньня мясцовага краю—каля 100. Інформацый аб працы мясцовых краязнаўчых організацый друкавалася 129, у якіх высьветлена дзейнасьць больш 170 організацый. Разам з апошнім часопіс інформаваў чытачоў аб працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства, вышэйшых навуковых інстытуцый на Беларусі, у СССР і аб замежным кразнаўчым руху, а таксама—

аб чыннасьці музэяў і інш. установ, зьвязаных з вывучэньнем мясцовага краю.

Але гэтымі дасягненьнямі часопіс, бясспрэчна, абмежавацца ня можа. Рэдакцыя асабліва заклапочана далейшым павялічэньнем ліку супрацаўнікоў з месц. Кожная вёска і кожнае мястэчка павінны мець сваіх супрацоўнікаў нашага часопісу, якія-б паказвалі на яго старонках мінулае і сучаснае жыцьцё сваёй мясцовасьці ў самых розных яго праявах. Разам з тым рэдакцыя зацікаўлена ў спэцыялізаваньні сваіх супрацоўнікаў у першую чаргу па асноўных разьдзелах краязнаўчай чыннасьці: прыродна-географічнай, грамадзка-экономічнай і культурна-гістарычнай. Гэта значна палепшыць якасьць самой працы.

Пачынаючы чацьверты год выданьня ў пачатку акадэмічнага году і ў асабліва цікавую пару для разьвіцьця беларускае культуры, рэдакцыя часопісу спадзяецца, што агульнымі сіламі шматлічных беларускіх краязнаўцаў яна зможа і ў далейшым пасьпяхова выконваць правільна вызначаныя рэдакцыяй задачы часопісу ў першым нумары яго.

---

# Будова Асінаўскай электрастанцыі.

*(Паводле дакладаў тт. Карпа і Алейнікава на 3 сэсіі ЦВК БССР VIII скліканьня 19 верасьня 1928 г.).*

Адказваючы на даклады аб будове Асінаўскай электрастанцыі, на прывітаньні работнікаў Асінбуду на апошняй сэсіі ЦВК БССР, старшыня ЦВК т. Чарвякоў ад імя ўраду вызначыў наступныя пажаданьні:

Першае—каб кожны рабочы, кожны селянін—і ўсе працоўныя Савецкай Беларусі наогул—ведалі аб тэй вялікай пабудове, якая ідзе ў Асінаўцы, каб кожны працоўны ўяўляў і разумеў значэньне гэтай пабудовы ў соцыялістычным будаўніцтве Савецкай Беларусі.

Другое—каб прамысловасьць і сялянская гаспадарка суседніх з электрастанцыяй раёнаў і акруг былі падрыхтаваны да скарыстаньня электраэнергіі Асінбуду.

Гэтыя пажаданьні высоўваюць прад усімі грамадзкімі і асабліва краязнаўчымі організацыямі чарговую задачу вывучэньня і высьвятленьня пытаньня аб Асінбудзе сярод шырокіх працоўных мас, бо да гэтага часу ня ўся савецкая грамадзкасьць добра ведае значэньне Асінбуду і месца, дзе праходзіць гэтая пабудова.

Хоць пастаноўка гэтага пытаньня на сэсіі ЦВК, папярэдняя падарож членаў ураду на самае месца пабудовы і зьвязаная з гэтым кампанія ў нашых газэтах садзейнічалі правільнаму высьвятленьню Асінбуду і выклікалі вялікую зацікаўленасьць рабочых, сялян і наогул усіх працоўных, але гэтая справа не павінна зыходзіць са старонак пэрыодычнага друку, пакуль ня будзе скончана пабудова.

Аб гэтым Старшыня Саўнаркому, т. Галадзед, заявіў на сэсіі, што трэба, каб увесь беларускі народ поэтызаваў будаўніцтва Асінаўскай станцыі, каб кожны рабочы, кожны селянін у сваіх думках апяваў Асінбуд.

У 1921 годзе па ініцыятыве геніяльнага правадыра рабочае клясы Ў. І. Леніна камісіі буйнейшых спэцыялістых Саюзу было даручана

распрацаваць плян электрыфікацыі Савецкага Саюзу. Да распрацоўкі пляну было прыступлена ў гады гаспадарчага заняпаду. У тыя гады, калі мы перажывалі цэлы шэраг крызісаў у нашай гаспадарцы, геніяльны правадыр ужо прадбачыў неабходнасьць пабудовы сталага пляну электрыфікацыі Савецкага Саюзу дзеля пасьпяховага разьвіцьця соцыялістычнага будаўніцтва.

На працягу 10 год рэволюцыі маюцца значныя дасягненьні ў ажыцьцяўленьні пляну электрыфікацыі Саюзу: пушчаны ў ход Волхаўстрой, Балахна, Шатурка, Штэраўка, Чырвоны Акцябр і інш.; дадаткова ўключаны ў плян электрыфікацыі: Днепрабуд, Асінбуд, Іванава-Вазьнясенская і інш.

У дарэволюцыйныя часы ў царскай Расіі ў 1913 годзе спажывалася на адну душу насельніцтва ўсяго 12,3 кілёуат гадзін; ужо ў 1926/27 годзе ў Савецкім Саюзе вырабляецца і спажываецца на адну душу насельніцтва 24 кілёуат гадзін.

У справе электрыфікацыі Савецкі Саюз яшчэ значна адстаў ад цэлага шэрагу заходня-эўропейскіх і амэрыканскіх краін. У нас у сучасны момант вырабляецца электраэнэргіі для фабрык і заводаў у 16 разоў менш чым, у Амэрыцы і ў 10 чым,—у Англіі. Такім чынам, перад Саюзам у галіне электрыфікацыі стаяць вялізарныя задачы— ня толькі дасягнуць узроўню заходня-эўропейскіх краін і Амэрыкі, але і перагнаць гэты ўзровень.

Тым больш востра, тым больш выпукла зьяўляецца задача электрыфікацыі ў Савецка-соцыялістычнай Беларусі. Беларусь ня была ўключана ў плян электрыфікацыі Саюзу, бо ў тыя часы, калі складаўся гэты плян, Беларусь зьяўлялася пляцдармам вайсковых дзеяньняў. На тэрыторыі Беларусі ў тыя гады адбывалася ўзброеная барацьба і бандыцкія налёты.

Беларусь атрымала надзвычайна цяжкую спадчыну ад царскага ражыму: саматужную, адсталую прамысловасьць і вельмі нізкі ўзровень разьвіцьця сельскае гаспадаркі. Царскі ўрад, які праводзіў сваю нацыянальную політыку, не даваў разьвівацца на Беларусі тым вытворчым сілам, якія тут меліся на месцы. Ён праводзіў політыку тармажэньня экономічнага разьвіцьця краю. І ў выніку гэтага цэнзавая прамысловасьць, якая падпарадкавана Вышэйшаму Савету Народнай Гаспадаркі Беларусі, мела асноўны капітал усяго ў памеры 30 мільёнаў рублёў. Таксама і ў сельскай гаспадарцы застаўся надзвычайна нізкі ўзровень разьвіцьця сялянскіх гаспадарак, нязначная ўраджайнасьць і нізкі ўзровень дабрабыту працоўных.

Яшчэ вялізарнай цяжкасьцю на Беларусі зьяўляецца аграрная перанасялёнасьць і беспрацоўе, як вынік спадчыны ад старога жыцьця. На вёсцы каля 20% лішняй свабоднай рабочай сілы і шмат беспрацоўных у гарадох і мястэчках. Усё гэта прыходзіцца ўлічваць пры будаваньні гаспадарчых плянаў.

З 1922 г. у нас па Беларусі пачынаецца пэрыод адбудовы народнае гаспадаркі.

Што зрабілі за апошнія часы? У прамысловасьці—к 1 кастрычніка 28 г. асноўны капітал дасягнуў 56 міл. руб. У бягучым годзе ўрадам мяркуецца ўкласьці ў нашую прамысловасьць каля 28 міл. руб. на капітальнае будаўніцтва. Такім чынам на 1 кастрычніка 29 г. ў нашай прамысловасьці асноўны капітал будзе каля 86 міл. руб.

Гэткі ўзрост назіраецца і ў адносінах да сельскае гаспадаркі.

За гэтыя гады маюцца вялізарныя посьпехі і ў справе электрыфікацыі Беларусі. У 1913 г. выпрацавалася электрычнай энэргіі на душу насельніцтва ўсяго толькі 0,9 кілёуат гадзін, а ў 1927 г. 5,5 кілёуат гадзін.

Такім чынам за апошнія гады ўзрост вытворчасьці электрычнай энэргіі павялічыўся ў 6 разоў супроць таго, што было ў даваенныя часы.

Але гэты ўзрост усё-ж такі нязначны: Беларусь адстае ў эканомічных адносінах ад сярэдніх даных усяго Савецкага Саюзу.

Інтэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі і шпаркае разьвіцьцё прамысловасьці і культуры магчымы на базе поўнае электрыфікацыі.

У Беларусі ёсьць поўная магчымасьць зьдейсьненьня пляну электрыфікацыі. У нас ёсьць буйнейшыя энэргетычныя рэсурсы ў выглядзе вялізарных тарпяных масываў і воднай энэргіі.

Па даных НКЗему БССР, на Беларусі ёсьць звыш. 460.000 гэктараў добрых тарпяных масываў.

Паводле экспэртнай ацэнкі, Беларусь уладае багацьцем у 3 мільярды куб. мэтраў паветранага сухога торпу. Калі перавесьці гэта на ўмоўны апал, то выйдзе каля 500 міл. тон умоўнага апалу.

У сучасны момант Беларусь спажывае ў працягу году 2 міл. тон умоўнага апалу, а ў торпе ёсьць каля 500 міл. тон, што складае ў 17 разоў больш умоўнага апалу, чым ува ўсім дравяным апале.

Гэтае багацьце можа быць поўнасьцю скарыстана для электрыфікацыі БССР.

Плян электрыфікацыі Беларусі ўключае ў сябе як пабудову першай раённай электрастанцыі—Асінбуду, гэтак і цэлага шэрагу гарадзкіх станцый агульнага скарыстаньня і невялікіх сельска-гаспадарчых станцый для электрыфікацыі сельскае гаспадаркі.

Па пляну электрыфікацыі намячаецца павялічэньне вытворчасьці электраэнэргіі ў працягу 5 год на 720%.

Магутнейшым і буйнейшым прадпрыемствам у пляне электрыфікацыі Беларусі на бліжэйшыя 5 год зьяўляецца Асінбуд. Ён павінен даць электраэнэргіі ў першую чаргу 22.000 кілёуат, а ў другую—30.000 кіл., у далейшым яго магутнасьць можа быць значна павялічана. Пабудова Асінбуду абойдзецца ў 15.000.000 руб. У 1930 годзе будзе пушчаны ток ад Асінбуду.

Цэлы шэраг прадпрыемстваў, якія зараз будуюцца ў Віцебску, Магілеве і Воршы, чакаюць электрычнага току Асінбуду.

Асінбуд ужо забясьпечаны поўнасьцю спажыўцамі для першай чаргі энэргіі. Пасьля скалчэньня ўстаноўкі першай чаргі Асінбуду прыдзецца адразу паставіць пытаньне аб устаноўцы другой турбіны. Цэлы шэраг прадпрыемстваў, як напр., фабрыка штучнага валакна, віцебскія маслабойні, акулярная фабрыка, мэталічны завод, завод сельска-гаспадарчых машын, а таксама пабудаваныя цяпер трыкатажная фабрыка ў Магілеве і інш. запатрабуюць энэргіі Асінбуду.

Адначасова Асінбуд будзе мець вялізарнае значэньне і для сельскай гаспадаркі. Асінбуд дасьць ток для асьвятленьня, ён таксама дасьць ток і для сельскай гаспадаркі і дасьць магчымасьць нам больш хуткім тэмпам ажыцьцяўляць колектывізацыю і ўзбуйненьне сельскае гаспадаркі.

Асінбуд будзе мець вялізнае значэньне для электрыфікацыі Ўсходняй часткі Беларусі.

Пастановай Савету Працы і Абароны Саюзу ад 20 мая 1927 году было вырашана пабудаваць Беларускую раённую электрастанцыю на Асінаўскіх тарпяных балотах.

Электрастанцыя будуецца каля Арахоўскага возера і вёскі Арахі. Галоўнае месца, якое атрымае Асінаўскую энэргію—гэта Віцебск. Але па ступені патрэбы, па ступені гатоўнасьці да прыёму электраэнэргіі першым можа быць Шклоў. Разам з Шкловам мяркуецца даць энэргію Дуброўне і асьвятліць вакольныя вёскі.

У наступную чаргу будзе пададзена энэргія Воршы, Барані, Копысі і Якаўлевічам. Пры павялічэньні магутнасьці станцыі да 30 тысяч кілёуат мяркуецца перадача энэргіі ў Магілеў.

Лініі перадачы току будуць высокага напружаньня: на Віцебск і Шклоў мяркуецца лінія ў 110 тысяч вольт. У іншыя пункты мяркуецца падача электраэнэргіі ў сярэднім па 6 тысяч вольт у кожны. На Магілеў маецца два варыянты—110 тысяч ад Асінбуду, альбо 38 тысяч ад падстанцыі ў Шклове.

Гэтыя лініі перадач будуць пабудованы на слупох, на драўляных апорах.

Усе лініі будуць падвойныя; гэта значыць, кожная лінія будзе мець рэзэрвную лінію на выпадак небясьпекі.

Па вытворчым пляне намячалася ў першы год пабудаваць памяшканьні для рабочых, злучыць мясцовасьць з чыгуначнымі і шасэйнымі шляхамі, прыступіць да загатоўкі матар'ялаў і пабудовы станцыі.

За гэты пэрыод пабудаваны часовыя памяшканьні для рабочых у в. Выдрыцы, якая знаходзіцца ў 2½—3 кілёмэтрах.

У Арахох заканчваецца пабудова трох трохпавярховых дамоў для рабочых і служачых, па 24 кватэры кожны дом. Гэтыя дамы будуе Белдзяржбуд паводле апошняга слова тэхнікі—(з цэнтральным апалам, электрычным асьвятленьнем і г. д.). У ніжнім паверсе гэтыя дамы ўжо часткова заселены рабочымі.

Таксама былі пабудаваны добрыя часовыя баракі ў Арахох і больш буйныя ў Выдрыцах, — іх можна будзе скарыстаць і ў далейшым.

У Выдрыцах пабудованы невялічкі клюб-кіно, скарыстана і радыё. Таксама пабудаваны лазьні, амбуляторыя і ўсе патрэбныя службы.

У Арахох пабудаваны значна буйнейшы клюб на 500 чалавек. Ён адначасова зьяўляецца і сталоўкай, дзякуючы ўдаламу прыстасаваньню, вынайдзенаму рабочымі-сталярамі, паводле якога ў некалькі хвілін з лавак складаюцца сталы і наадварот.

І ў Выдрыцы і ў Арахох ёсьць крамы цэнтральнай рабочай (Аршанскай) коопэрацыі, якая забясьпечвае рабочых усімі патрэбнымі продуктамі і рэчамі.

Пабудавана чыгуначная ветка ад ст. Хлюсьціна МББ, скончана адна вузкакалейка, якая вядзе да тарпяных балот, зроблена шоса ў 9 кілёмэтраў, якая ідзе ад Аршанск.-Віцебск. гл., пачынаючыся каля в. Грышаны, пабудаваны два масты, часовая але досыць буйная электрастанцыя ў 700 кон. сіл: два лёкамабілі па 300 і адзін лёкамабіль у 120, якія даюць 6000 вольт для тарпяных балот, дзе тарпяныя машыны працуюць на гэтай энэргіі.

Акрамя таго, зараз падрыхтаваны ўсе неабходныя матар'ялы для пабудовы галоўнага будынку.

Спачатку меркавалася рабіць гэтую працу на гаспадарчым разрахунку, але з прычыны адсутнасьці ў БССР неабходнага тэхнічнага

пэрсоналу і добрых спэцыялістых-бэтоншчыкаў, праца перададзена энэргастрою, канторы электрычн. будаўніцтва, якая мае ў сваім распараджэньні неабходных спэцыялістых і добрае мэханічнае абсталяваньне. Праца вядзецца вельмі інтэнсыўна. Програма амаль што поўнасьцю сёлета будзе выканана.

Тарпяныя распрацоўкі праводзяцца па пляне тарпяной гаспадаркі, распрацаванай у Маскве Торпабудам. Зараз праца вядзецца на невялікай плошчы ў 10—12 клм. ад Арахоў, але гэтай плошчы хопіць на 20 год з лішкам дзеля здабычы торпу для электрастанцыі. Пэрспэктывы на торп вызначаюцца ў залежнасьці ад патрэб станцыі—на 85—100 год. Торп надзвычайна добры, ён мае высокую калёрыйнасьць і малую зольнасьць. Паклады яго аграмадныя, і яны ляжаць добра ў адносінах да спуску вады.

Распрацоўка торпу распачалася з такім меркаваньнем, каб да 1930 году было падрыхтавана яго прыблізна тры з паловай мільёны пудоў. У гэтым годзе з прычыны некаторых перашкод (зборка машын, дажджлівасьць) 6 тарпянымі машынамі падрыхтавана 865 тысяч пудоў торпу, які знаходзіцца на балоце. Для падвозу торпу на электрастанцыю заканчваецца вузкакалейная чыгунка, па якой хутка пачнуць хадзіць паравозы і будуць падаваць тарпяны апал на часовую станцыю і тарпяны склад.

У гэтым годзе на торпараспрацоўках працавала да 800 чалавек у 14 арцелях, прычым 2 арцелі беларускія, а астатнія прывазныя. Апошнія ў гэтым годзе былі ня вельмі высокай якасьці. Стаіць задача аб стварэньні ўласных тарпянікоў у першую чаргу.

Таксама паступова прыстасоўваецца мясцовая жанчына да працы на тарпяных машынах—тарпушках. У далейшым удасца павялічыць колькасьць мясцовых рабочых на торпаздабываньні. Зарплата іх у гэтым годзе 2 р. 50 к.—3 р. 50 к. у дзень.

Вельмі важнае пытаньне адносна падрыхтоўкі спажыўцоў будучай электраэнэргіі. Дзякуючы працы спэцыяльнай камісіі, організаванай са згоды ВСНГ і СНК, вызначаны прадпрыемствы для першай чаргі спажыўцоў, і яны ўжо зрабілі ўмовы з ДЭТ на дастаўку і ўстаноўку належнага абсталяваньня.

Падводзячы вынікі ўсяму зробленаму да сучаснага моманту па будаўніцтву Беларускай Раённай Электрастанцыі на Асінаўскіх балотах, можна быць упэўненым, што ў недалёкім будучым сярод багны торпавых балот, у глухіх мяйсцох Беларусі будзе пабудаваны, воляю рабочых і сялян, пры злучэньня навукі і працы моцны асяродак культуры і росквіту прамысловасьці. Каля гэтага асяродку пачнуць будавацца новыя фабрыкі і заводы. Электраэнэргія яго дапаможа разьвіцьцю сельскае гаспадаркі.

---

С. К. Жураўскі.

# Асінторп і Асінбуд.

*(Кароткі географічны нарыс).*

Пабудова дзяржаўнай раённай электрастанцыі каля возера Арахі—Асінбуд—выклікана наяўнасьцю тарпяных багацьцяў і абавязана ўдаламу географічнаму месцапалажэньню Асінаўскіх тарпяных балот. На іх распачалася плянавая тарпяная гаспадарка—Асінторп. Асінбуд і Асінторп—дзьве часткі аднаго цэлага.

Асінаўскія балоты ляжаць на поўнач-усход ад гор. Воршы ў адлегласьці ад яго на 25—30 клм. Яны займаюць плошчу агулам да 100 кв. клм. і складаюць сабою форму вялікага чатырохкутніка (6 клм.× 16 к.), які працягваецца на ўсход-поўнач, амаль роўналежна бокам кута ад М. Б. Б-ай чыгункі і шосы з Воршы на Віцебск. Гэтая балотная нізіна знаходзіцца на вадападзеле рэк Дняпра і Заходняй Дзьвіны і мае два стокі вады: на паўначным усходзе—у рэчку Вярхіту, якая цячэ ўздоўж балота з поўднёвага ўсходу на паўночны захад і ўліваецца ў Бабынаўскае возера, адкуль выцякае Лучоса, прытока З. Дзьвіны; на паўднёвым захадзе вада з балот сьцякае ў рэчку Выдрыцу, якая злучаецца з р. Аршыцай у 3 клм. ад вытаку яе з воз. Арахі. Выдрыца прымае ў сябе канаву, якая была выкапана на балоце гадоў 15 назад. Рэчка гэтая даўжынёй каля 7 клм. мае шырыню ў сярэднім да 3,5 м. і глыбіню да 1,5 м.; раней і яна і канава не ачышчаліся, і сток вады затрымліваўся.

Пасярод балотнай нізіны паверхня крыху ўздымаецца і ўтварае сухадольны востраў, на якім раскінуліся хутары былай вёскі „Востраў Юр‘еў“. Гэты востраў падзяляе Асінаўскія балоты, ці памясцоваму „мхі“, на тры часткі—паўночную, самую вялікую, так зв. Верацейскі Мох, заходнюю і паўднёвую—найменшую. Паўночная частка мае форму амаль квадрата, а заходняя і паўднёвая—маюць выгляд удоўжаных чатырохкутнікаў.

Навокал балот, з усіх бакоў, за выключэньнем самага ўсходняга невялікага кутка, мясцовасьць паступова ўзьнімаецца і ўтварае на захадзе і поўначы пяшчаныя морэнавыя ўзгоркі, з беднай расьліннасьцю,—на поўдні--роўнае ўзвышша, якое з другога боку схіляецца да Дняпра. Нявысокай і няшырокай морэнавай градой, якая цягнецца ад сутокі р. Выдрыцы з р. Аршыцай у паўночна-ўсходнім кірунку, масыў Асінаўскіх балот аддзялецца ад возера Арахі (плошча 221 гэктар., 4,5 м. глыб.) і балота навокал яго. На паўночным усходзе паміж балотамі і рэчкай Вярхітай, за выключэньнем самай верхавіны яе, ляжыць пяшчанае вузкае ўзвышша, пакрытае хваёвымі і ліставымі лясамі.

Разьліннасьць на балотах і навокал іх бедная, асабліва ў паўночнай і ўсходняй частцы; па балоце расьце прыгнечаная сасна, нізкарослая бяроза, елка; на ўскраінах алешына і лаза. Мохавае акрыцьцё на балоце пераважна сфагнавае, па берагох—гіпнавыя мхі і асака. Сярод імхоў найчасьцей сустракаюцца багун, імшарніца (падбел), зязюлін лён і журавіна.

У гушчары балотных зарасьнікоў хаваецца і плодзіцца шмат вадзяной дзікай птушкі, асабліва многа яе наглядаецца ў час асеньніх і веснавых пералётаў. Водзіцца многа ваўкоў, а ў паўночна-ўсходняй частцы яшчэ захаваліся мядзьведзі, якія знаходзяцца пад аховай.

Для чалавека мясцовасьць гэтая была мала даступная,—праз балоты добра праехаць можна было толькі ўзімку. Але навокал балота раскінулася шмат хутароў, якія ўтварыліся тут яшчэ да вайны (па Сталыпінскім пляне зямляўпарадкаваньня) і захавалі за сабой назву тых весак, з якіх вышлі: Халмы, Баўтуны, Верацея, Доўнары, Рудня—на поўначы; Шалашня, Шэры, Пятрыкі, Шаруты—на поўдні; Скуматы, Шэкі, Вазёры—на ўсходзе; Арахі—на захадзе. Глеба тут у большасьці—супяшчаная, забалочаная, хлеб родзіць дрэнна, засевы сыстэматычна вымакаюць,—таму ў насельніцтва ёсьць імкненьне да травазасеву і жывёлагадоўлі. Асабліва гэта заўважваецца на поўначы ад балот, сярод літоўскіх пасяленцаў (Баўтуны, Доўнары). На паўночным і ўсходнім бакох, дзе яшчэ захаваліся лясы, мясцовае насяленьне падтрымлівае свой бедны бюджэт зьбіраньнем і продажам (у г. Воршу і

Дуброўну) ягад,—асабліва брусьніц,—грыбоў, арэхаў, паляваньнем, а таксама рознымі хатнімі сэзоннымі рамёствамі: тут сустракаюцца па вёсках: бондары, калесьнікі, лычнікі (Шэкі), рашотнікі (Рэдзькі) і інш.

Раней—да вайны—вакольнае насельніцтва добра зарабляла навокал хэмічнага заводу ў Выдрыцах, пабудаванага нямецкай фірмай „Шэ-

СХЭМАТЫЧНАЯ КАРТА АСІНАЎСКІХ ТАРПЯНЫХ БАЛОТ

МАШТАБ: 0 1 2 3 4 5 клм.

УМОЎНЫЯ ЗНАКІ

ВУЗКАКАЛЕЙКА ПАБУДАВАНАЯ

„ ПРОЕКТАВАНАЯ

МЕЖЫ ТОРПРАСПРАЦОВАК.

I ПАЎДНЁВАЯ ЧАСТКА ТОРПРАСПРАЦОЎ.

II ЗАХОДНЯЯ „ „

III ПАЎНОЧНАЯ „ „

МЕЖЫ РАЁНАЎ. КАНАВА.

рынг“ у 1899 годзе. Завод здабываў цэлы шэраг (36) хэмічных продуктаў, галоўным чынам формаліну і дрэўнага сьпірытусу—праз сухую перагонку бярозы і асіны. На заводзе працавала да 300 работнікаў, вырубкай і падвозкай лесу і іншых матар‘ялаў займаліся тысячы вакольных сялян. Гэты завод за 20 год свайго існаваньня (з 1914 г. ён

працаваў на патрэбы вайны, зачынены ў 1921 г.) зьнішчыў навокал балота ўсё лясное багацьце і падбіраўся ўжо да Асінаўскага торпу, які пачалі тады ўжо скарыстоўваць спачатку для апалу заводзкіх катлоў.

Плянавая распрацоўка Асінаўскіх тарпяных балот пачынаецца разам з разгортваньнем прац па пабудове элекрастанцыі ў Арахох, у 12 клм. ад тарфяных масываў.

Значныя паклады торпу добрай якасьці забясьпечваюць нясупынную працу Асінаўскай электрастанцыі, паводле проекту Асінаўскай тарпяной гаспадаркі, поўнасьцю да 1964 г. (на 37 г.) і з паступовым зьмяншэньнем—да 1990 г.

Распрацоўка торпу распачалася у меншай—паўднёвай частцы, дзе ўжо да сёлета здабыта да 865.000 п. паветрана-сухога торпу. Гэтая колькасьць паступова ўзрастае па гадох:

1 г. ў 1928 г. 24.600 тон.
2 „ „ 1929 „ 57.400 „
3 „ „ 1930 „ 114.700 „
4 „ „ 1931 „ 164.000 „
5 „ „ 1932 „ 197.000 „
557.500 „
6 „ „ 1932 г. 246.000 т. і г. д.

Паводле памянёнага проекту Асінаўск. тарпяной гаспадаркі—Асінторпу,—агульныя запасы торпу, яго якасьці вызначаюцца наступнымі данымі:

| Часткі Асінаўскага балота | Плошча ў гэктар. | Глыбіня залягань-ня торпу ў мэтр. | | Сярэдняя вільготнасьць | Зольнасьць пры 25% вільготн. | Сярэдняя калёрыйнасьць на кілёграм пры 25% вільготн. | Запас сырцу ў куб. м. | Паветр.-сухога торпу ў тонах | Увагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Найбольш | Сярэдн. | | | | | | |
| 1. Паўднёв. | 715,0 | 6,4 | 2,84 | 91,68% | 5,91% | 3,269 к. | 20,217,960 | 1,828,645 | |
| 2. Заходняя | 1032,8 | 9,0 | 3,04 | 89,98% | 6,99% | 3,350 к. | 31,284.681 | 3.307.530 | |
| 3. Паўночн. | 2633,5 | 9,0 | 3,21 | 93,97% | 3.94% | 3,332 к. | 84,504,213 | 6,123,946 | |
| | 4381,3 | — | 3,11 | | | | 136,006,854 | 11,260,121 | |

Праца на Асінаўскіх тарпавішчах праводзіцца толькі ў летні сэзон,—прыблізна з паловы мая да канца жніўня, каля 75—80 працоўных дзён. Сёлета з прычыны дажджоў гэтая лічба значна зьменшылася. На Асінторпе працавала ўлетку (паводле вестак на 15/VIII, здабытых географічнай экспэдыцыяй ІБК)—552 работнікі і 6 тарпяных машын. Машыны—з электраматорамі па 75 конскіх сіл пры 3000 вольт, якія атрымліваюць электраэнэргію з часовай электрастанцыі ў Выдрыцы праз паніжальную падстанцыю каля рабочага пасёлку (Каралінава—Шыбаны), ад якой на балоце праведзена на слупох 5 рабочых ліній. Распрацаваны торп прасушваецца ў вялікіх доўгіх кучах, якімі ўстаўлена балота на некалькі кілёмэтраў роўнымі шэрагамі. Да месца распрацовак на балота праводзіцца вузкакалейка на 15 клм. на ўсход ад Арахоў. Ужо заказаны паравозікі і вагонэткі на 4-5 тон. На поўдзень у кірунку на ст. Асінаўку (5-6 клм.) і Дуброўну (15-16 клм.) праз балота ад Вострава-Юр‘ева насыпана надзвычайна добрая шыро-

кая дарога; раней тут ня можна было нават прайсьці. Усё балота (у частцы, якая распрацоўваецца) прарэзвае шырокая і глыбокая магістральная асушальная канава, якая ўзбагачвае вадой р. Выдрыцу і робіць апошнюю, пасьля прачысткі яе рэчышча, саліднай рэчкай.

Мясцовае насельніцтва аднак вельмі нязначна скарыстоўваецца на працах Асінторпу, з прычыны непрыстасаванасьці яго да працы пры тарпяных машынах. З ліку 552 работнікаў (на 15/VIII-28 г.) беларусоў (з вакольных вёсак) налічвалася толькі 30 чалавек,—галоўнай масай зьяўляюцца арцелі з губэрань Разанскай (487 ч.) і Тульскай (35). Беларусы галоўным чынам капаюць канавы і расчышчаюць балота ад кустоў і дрэў. Падзённая плата работнікам ад 2 р. 50 к. да 3 р. 50 к. і за расчыстку ад гэктара ад 30 да 60 руб. З будучага году для ачысткі і паліроўкі балота выпісваецца спэцыяльная машына—фрэзэр, коштам 15-16 т. руб., якая будзе мэханізаваць працу.

Значна большы заробак знаходзяць мясцовыя сяляне навокал пабудовы электрастанцыі ў Арахох. Падвозам балясту і на земляных працах, часткова цесьлякамі, занята да 800 чалав. з вакольн. вёсак. З іншых месц, з РСФСР—тутака ўсяго было чал. 100, пераважна ў якасьці кваліфікаванай сілы (бэтоншчыкі, арматуршчыкі і інш.).

Працы на Асінбудзе і Асінторпе зьмянілі надворны выгляд мясцовасьці і надзвычайна ажыўляюць яе. Бедную вёску Арахі з пагорбленымі хаткамі пад саламянымі стрэхамі, з бруднымі дварамі, вёску, якая тапілася ў гразі і цемры,—зараз праразае жоўтае сьвежае палатно новай шосы, пабудаванай паводле апошняга слова дарожнай тэхнікі,—роўнае і гладкае, як стол,—а начную цемру праразаюць ліхтарні электрычнасьці. У вёсцы, якая мае каля 200 душ каранногa насельніцтва (40 гаспад.), зараз цэлы дзень па вуліцах адбываецца вялікі рух сотняў людзей—работнікаў, дзесяткі падвод, якія сьпяшаюцца да адзінага цэнтру—месца, дзе з зямлі, на беразе возера, вырастае паступова жалезна-бэтонны волат.

На поўнач ад в. Арахі на ўзгорку, каля шляху на Бабынавічы, узьнімаюцца белыя, трохпаверхавыя вялікія будыніны для работнікаў на 72 кватэры. Месца абрана надзвычайна ўдала; сухое, здаровае, адчыненае. Гэтыя будыніны відаць з Дуброўны (за 15 клм. па простай лініі). З вакон дамоў відаць шырачэзныя абшары Асінаўскіх балот, куды бягуць слупы з электрычнасьцю поплеч з вузкакалейкай, якія гінуць у мутнавата-сіняй далечыні балотных зарасьнікаў.

Запраўды, воляй і розумам працоўнае клясы, зьмяняецца твар зямлі і тэмп жыцьця!

---

**М. Касьпяровіч.**

# Там, дзе тварыў Каганец.

(*Літаратурная экскурсія*).

„У вандроўцы жыцьце
ўсё мае, у вандроўцы".
*Песьня.*

Карусь Каганец—амаль выключна сялянскі дзеяч. Пасьля яго засталося шмат вершаваных, прозаічных, драматычных і выяўленча-мастацкіх твораў. Пакуль што яны яшчэ, на жаль, у значнай і самай важнай колькасьці не апублікаваны. Каганцова рэволюцыйная чыннасьць вызначаецца ў помніках дзейнасьці Беларускай Социялістычнай Грамады. Але дакладны жыцьцёпіс К. Каганца яшчэ не напісаны і аб

ім шырокім колам таксама яшчэ мала што вядома. Таму ў даным выпадку асабліва вялікае значэньне маюць менш даступныя масам помнікі Каганцовага жыцьця: яго творы ў орыгіналах, месцы, дзе ён пражываў значныя кавалкі часу, яго магіла і д. т. п.

Сыстэматычнага зьбіраньня Каганцовых твораў яшчэ ніхто не пачынаў. Тое, што сабрана—сабралася без азначанай мэтаімкнёнасьці і траты сіл. Вялікую колькасьць Каганцовых рукапісаў яго жонка Ганна Кастусёва Кастравіцкая з Пракаповічаў перадала пасьля сьмерці мужа Язэпу Лёсіку. Апошні шмат якія з іх друкаваў у „Беларусі" (газэта, Менск, 1919, 1920), „Вольным Сьцягу" (часопіс, Менск 1920, 1921) і „Адраджэньні" (навукова-літаратурны зборнік, Менск 1922), але орыгіналы захоўваў надзвычайна акуратна і праз пэўны час здаў іх Беларускаму аддзелу Дзяржаўнай Бібліотэкі (Менск, Савецкая, 97), дзе яны і знаходзяцца да гэтага часу. Гэта—сшыткі звычайнага так званага агульнага памеру, сшыткі журнальнага памеру, аркушы і розныя дробныя кавалачкі паперы. Творы—самай рознай апрацоўкі. Зусім скончаныя ў сшытках і на асобных кавалках мяжуюцца з пачатковымі накідамі. Уласныя творы часамі знаходзяцца сярод запісаў народнай творчасьці і наадварот. На шмат якіх творах можна пабачыць процэс аўтаравай апрацоўкі іх. Частка пісана атрамэнтам, частка—алоўкам. Часамі па атрамэнту зусім новае алоўкам. Прыгожы графічны почарк лістоў першага творчага поэтавага росквіту ў пазьнейшых творах падмяняецца звычайным скорапісным. І ва ўсім гэтым цэлае жыцьцё, жыцьцё-змаганьне беднаты з багацьцем у мінулым і Каганцовым сучасным. Барацьба сялянства з панамі ў поэтычных вобразах, змаганьне за нацыянальнае вызваленьне ў публіцыстыцы, проект перабудовы соцыяльнага ладу ў програмных нататках. І ўсё гэта—адна з рэштак поэты-грамадзяніна і змагара, якая запаляе вас барацьбяным духам нябожчыка. Тут-жа ў папках з надпісам „Каганец" шматлічныя накідкі малюнкаў, сярод якіх асабліва вылучаюцца проекты орнамэнтаваньня ўжытковых рэчаў, а таксама портрэты, што перадаюць моцныя неперсможныя характары політычных арыштантаў менскага вастрогу, нявольных Каганцовых таварышоў па адсідцы за рэволюцыйную чыннасьць. Найбольшая ўвага павінна належаць портрэту Каганцовай маткі, яго-ж работы.

Дзяржаўная Бібліотэка, зразумела, мае абрамаваць найбольш характэрныя Каганцовы творы яе збору для паказу экскурсантам, бо паказваць усе папкі немагчыма.

Некалькі рукапісаў Каганцовых твораў („У іншым шчасьці няшчасьце схована", „Двойчы прапілі" і інш.), перапісаных Я. Лёсікам, знаходзяцца ў зборах Літаратурнае камісіі Інстытуту Беларускае Культуры (Менск, Рэволюцыйная, 21). Яны характарызуюць, як уважліва адносілася беларуская інтэлігенцыя да Каганцовых твораў, захоўваючы нават перапісаныя да друку творы, а ня то што самі орыгіналы. Усё-ж з жалем трэба адзначыць, што зборнік перапісаных Я. Лёсікам Каганцовых твораў для выданьня іх дзесь загінуў у нетрах выдавецкіх устаноў.

Другая значная група Каганцовых твораў захоўваецца ў Дзяржаўным музэі (Менск, Чырвонаармейская, 3). Гэта—малюнкі тушшу. Маленькая вітрынка з гэтымі мініятуркамі прыцягвае вашу ўвагу пры кожным наведваньні музэю. Такое тонкае, рэальна-праўдзівае і тыпова-характэрнае адлюстраваньне беларускай прыроды і жыцьця мог даць толькі сам селянін, якім уласна і быў К. Каганец. Гэтыя так вядомыя

і так блізкія дубы, ільміны, вербы, таполі, хвоі, бярозы, елкі і інш., гэтыя злосныя дзікі і ваўкі, гэтая ўбогая хатка, гэты стралец з сабакам у лесе, старцы на ростаньках і буслы на гнязьдзе, гэты бацька з сынам ля стала, гэтыя людзі на санях у бязьмежнай сьнегавой прасторы, гэтыя выбары дзядзькі Рыгора на мядзьведзя, гэты касар, што скідае Мікалая апошняга—усё гэта цэлая поэма, цэлая эпопея дарэволюцыйнага сялянскага жыцьця. Колькі думак яна выклікае кожны раз! Колькі запалу да перабудовы гэтага жыцьця ўкладвае ў душу кожнага чулага наведвальніка! І як мала людзей яшчэ ведае пра гэтую так маленькую і такую багатую і пакуль што першую колекцыю новага беларускага мастацтва...

Дзяржаўны музэй мае намер экспанаваць яе на сьценах для больш зручнага агляду экскурсіямі, бо цяперака паказаць яе адразу вялікаму ліку асоб немагчыма.

Дзьве надзвычайна цікавыя і характэрныя Каганцовы рэчы захоўваюцца ў т. Скандракова (Менск, Пролетарская, 10). Гэта зімовы краявід алеем, абрамаваны ў палічку і тып селяніна алеем на дубовай кацёлцы. К. Каганец хацеў аздобіць усё тое, чым карыстаецца чалавек і памянёная палічка—найдасканалы ўзор ужытковага мастацтва высока-культурнай вартасьці; нічога з яе композыцыі нельга выняць і нічога немагчыма дадаць, не папсаваўшы мастацкасьці самой рэчы. А якое тыповае, якое тонкае спалучэньне фарбаў! У іх сынтэзавана праца тысяч год і тысяч нашых жанчын-ткальніц, друкароў набіванак, маляроў куфроў... Селянін так, здаецца, і хоча пайсьці з сваёй дубовай кацёлкі, з люлькай у руцэ напагатове. Каганцоў русы каравокі беларус, прайшоўшы пряз значны лік яго літаратурных твораў, паказаў сябе тутака ва ўсёй сваёй прыгожасьці з тым, каб падмяніцца белым сінявокім насельнікам найноўшай літаратуры.

Гэтыя рэчы ня так зручна аглядаць экскурсантам, але і мінаць іх нельга. Тым больш, што ўласьнік, былы прыяцель нябожчыка, вельмі ветла дае магчымасьць іх бачыць.

І, урэшце, апошняя група Каганцовых твораў захоўваецца т. Кастравіцкай (Менск, Сьляпянская, 6). Тутака ўвагу ў першую чаргу зварачваюць на сябе ўласна ня творы Каганцовы, а сама Ганна Кастусёва Кастравіцкая, жонка нябожчыка, якая пражыла з ім 19 год. Калісь стройная красуня Нясьвіска-Менскіх узгор'яў, цяперака выглядае добрай, ветлай кабетай, якая заўсёды рада вас прыняць. Жыве надзвычайна бедна. Шмат расказаць пра свайго чалавека ня можа—гаворыць, гаворыць ды і расплачацца. У яе ёсьць каменны тапор, на якім К. Каганец напісаў алеевымі фарбамі стральца ў лесе. Каганцова карціна алеевымі-ж фарбамі, на якой кабзар сьпявае пад гукі кабзы свае цудоўныя сьпяванкі сялянам, маленькі малюнак тушшу хаты, якую хацеў-бы мець К. Каганец пры жыцьці, і начовачкі, зробленыя і аздобленыя выразным орнамэнтам К. Каганцом. Пражыўшы ўвесь свой век у беднасьці, К. Каганец заўсёды марыў мець сваю хатку, якую і паказаў на памянёным малюнку, 7 × 9 см. Гэта—хата на два каміны і, значыць, дзьве палавіны, з крытым ганкам; страха—саламянная; з фасаду мае 4 вакны; за хатай сад; на прызьбе пад вакном сядзіць чалавек, мабыць, гаспадар; пасярод двара—карыта; двор з вуліцы абгароджаны парканам са звычайнымі варотамі з некалькіх дошчак роўналежна зямлі; на другім баку вуліцы, абгароджаным плятнём, стаіць дрэва з буславым гняздом, а далей—гумно. Толькі пабачыўшы хату,




Вярба




Елка




Дуб




Топаль




Сасонка




Бяроза




Ільміна




Хвоя

*К. Каганец.* Малюнкі са збору Дзяржаўнага Музэю (туш).




1326.

у якой пражыў К. Каганец свае маладыя гады, можна зразумець чаму ў яго быў такі скромны ідэал свайго жытла.

Магчыма, што ў канцы разьбіраньня сваіх колекцый проф. Эпімах-Шыпіла (Менск, Рэволюцыйная, 21) знойдзе якія-небудзь творы нябожчыка; што-колечы ёсьць у вядомага бібліофіла Ромуальда Зямкевіча (Варшава), але ўсё гэта пакуль што яшчэ недаступна для агляду.

Калі пабудзеш ва ўсіх гэтых мясцох і пабачыш усё гэта некалькі раз, то яшчэ больш хочацца пазнаваць К. Каганца, яго чыннасьць і ўсё з ёй зьвязанае найбольш дэталёва. Хочацца пабачыць тыя месцы. дзе ён жыў, працаваў і дзе пахаваны. Але бурная Каганцова дзейнасьць адбывалася на неабсяжных беларускіх прасторах, і пабыць ва ўсіх Каганцовых мясцох (Вільня, Ленінград, Ліда, Жортай на Халапеншчыне, Дулебы і Паток на б. Ігуменшчыне, Табольск, Масква, Рыга, Менск, Засульле на б. Менчшыне, Прымагільле на Койданаўшчыне і інш.) немагчыма. Прышлося абмежавацца на першы час Меншчынай.

У самым Менску ў першую чаргу ўспамінаю домік у глыбі двара, ля садзіку блізка ад Залатой горкі, дзе жыве зараз жонка нябожчыка, займаючы адзін маленечкі пакойчык. Тутака бываў К. Каганец і тут некалькі разоў я, кожны раз з новай цікавасьцю, аглядаў памянёныя яго творы. Іншыя домікі на розных вуліцах, у якіх прыходзілася жыць К. Каганцу, менш цікавыя, бо такіх шмат. Праўда, адшукаць усе іх важна, бо ад таго ці іншага з іх можна будзе больш зручна пачынаць пэўную групавую экскурсію. Дагэтуль мне документальна вядомы толькі некалькі дамоў, у якіх у свой час жыў К. Каганец (Якаўская, 10, кв. 8; Аляксандраўская, д. Трэгера; рог Стара-Віленскай і Міхайлаўскай, д. Стэфановіча; Старажоўская, д. Русецкага; Красная, д. Монроўскага; Міхайлаўская, д. Сарапушчынскага і інш.).

Ня шкодзіла-б, каб уласьнікі гэтых дамоў папрыбівалі да іх дошкі з адпаведнымі надпісамі.

Значную ўвагу розных культурна-гістарычных экскурсій зварачае на сябе Менская турма (вул. Валадарскага). Тутака сядзеў і быў павешаны Пуліхаў за замах на менскага губарнатара Курлова, тут адбываў кару за рэволюцыйную чыннасьць Якуб Колас, тут сядзеў Бонч-Асмалоўскі і г. д. і г. д. І ў даным выпадку, пры экскурсіі па Каганцовых мясцох, нельга абмінуць яе. К. Каганец сядзеў у Менскім вастрозе з 19 сьнежня 1905 г. да 16 мая 1906 г. да суда і з 26 ліпня 1910 г. да 26 ліпня 1911 г. пасьля яго. Тутака ён надарваў сваё здароўе, тут мучыўся за тое, што хацеў лепшай долі беларускаму сялянству. Але і тутака не зламалі яго барацьбянага духу і змушаны былі выпусьціць адсюль ранеңька-ранеңька, каб ухіліць дэмонстрацыю яго таварышоў па камэры, якія моцна любілі яго і былі рады яга вызваленьню.

Але турма... Колькі яна мучыла нашых дзеячоў, колькі так ці інакш выгнала была іх з роднай краіны (А. Гарун, Цётка, Лёсік і інш.)... І хоць гэтая самая турма зараз зьяўляецца добрай выхаваўчай установай, усё-ж яе мінулае ня прымушае экскурсанта доўга затрымлівацца. Далей, далей! Але ў горадзе ўжо амаль усе зьвязаныя з Каганцом месцы агледжаны. Можна пусьціцца толькі па Меншчыне, якая да нас найбліжэй. Прабаваў знайсьці падарожнікаў, але гэта не ўдалося. Наважыў падарожнічаць адзін, не адкладаючы.

Узброены фотографічным апаратам з прыладамі да яго, біноклем, компасам і блёк-нотам а 9 гадзіне раніцы на вакзале шукаў сваёй чаргі і на правялікае дзіва купіў білет да Койданава без пакутнага ста-

яньня ў чарзе. Новы зялёненькі вагон „для курящих“ таксама гасьцінна прыняў мяне на сваю халодную лаўку. Вагонаў, у якіх ня можна-б было забруджваць паветра тытунёвым дымам, на гэтай дарозе няма, але і курцоў на гэты раз амаль ня было. Поезд бяжыць трушком і праз вокны можна любавацца прыгожымі непаўторнымі краявідамі, якія пачынаюцца зараз-жа за Менскам. Каляровая графіка жоўтых аўсянішчаў, чорнай ральлі і зялёнай руні часта перамяжаецца палавымі сенажацямі з залатымі плямамі лёну на іх або кучамі цёмнага лесу. Узвышша, гара хаваецца ў даліну, а даліна раптам вырастае ў узвышша... Кожную хвіліну новы і новы краявід. Чым бліжэй да Койданава—тым прыгажэй. І беларуская рознастайнасьць паказвае сябе ўсё багацейшай і багацейшай, не нагадваючы аднолькавасьці крымскіх гор і украінскага стэпу. А разам колькі ва ўсім гэтым нескарыстаных магчымасьцяй для эстэтычных і прыродных экскурсій... З асалодаю любуешся і ня злуеш на такі павольны бег поезду. У вагоне шмат людзей з Койданаўшчыны, але ніхто нічога ня можа сказаць мне пра маю дарогу.



*К. Каганец*. Тып (алей). Фот. Салавейчыка, уласнасьць Скандракова.

А вось і невялічкі Койданаўскі драўляны станцыённы будыначак. На дрогкіх калёсах накіроўваюся ў мястэчка Койданава. Зараз-жа налева пры дарозе вялізная агульная бежанская магіла з адным крыжам, а далей, пры пачатку мястэчка, абапал дарогі—два дашчаных помнікі ахвярам вызваленчай вайны з белапалякамі. Гэтак усюды па нашай Беларусі раскіданы помнікі так далёкага для Савецкай Беларусі мінулага і так пакутнага для Заходняй сучаснага...

Койданава—мястэчка крыху чысьцейшае за іншыя, але койданаўскі брук мабыць разьлічаны не на тое, каб па ім хадзіць і езьдзіць. Абапал вуліцы—розныя дрэвы; шмат садоў. Новыя будынкі гасьцінна паглядаюць на прыежджых. Пад'яжджаем да беларускай сямігодкі, дзе якраз перапынак. У вялікай настаўніцкай усе настаўнікі і настаўніцы, трохі саромеючыся, але проста і ясна растлумачваюць мне, што нікога з раённага таварыства краязнаўства няма—усё праўленьне кудысь назаўсёды выехала, ды і самога таварыства няма. Летась нехта нешта рабіў, нават успаміны сялян пра К. Каганца запісвалі, але дзе яно ўсё—няма ведама. Паехаць са мной ніхто ня можа, бо няма часу. Урэшце, старэйшы бездапаможна прапануе:

— Можа-б вы вось організавалі ў нас таварыства краязнаўства...

І становіцца бясконца шкода ўсіх гэтых настаўнікаў і беларускай, і яўрэйскай, і польскай сямігодак і інспэктара народнай асьветы і ўсю безьліч койданаўскай інтэлігенцыі, якая ня толькі ня хоча ўзяцца за найкультурную справу пазнаньня свайго краю, але без староньняй дапамогі ня хоча абраць праўленьне і напісаць протокол аб аднаўленьні організацыі.

У раённым выканаўчым камітэце не застаю інспэктара народнай асьветы—выехаў на раён. Яго дзелаводка ня толькі ня ведае ці ёсьць раённае таварыства краязнаўства, дзе яго справы і д. т. п., але ня ведае нават, хто інспэктар (як яго прозьвішча), куды ён паехаў, калі вернецца і г. д. На ўсе мае запытаньні пабеларуску, парускy і папольску яна адказвала адным адказам:

— Не знаю...

Пасьля такой сувязі з мясцовымі організацыямі і ўстановамі прышлося спадзявацца толькі на сябе. Наймаю фурманку. За 10-12 кілёмэтраў хлопец просіць 12 руб. Прапаную 3 (самая дарагая цана, як пасьля выявілася, 2 руб.), заварачваюся і іду к рынку. Хлопец едзе за мной угаварваючы мяне на ўсё лады, і калі я зьвярнуў на двор балагола, ён спалоханым голасам папрасіў:

— Садзіцеся за тры. Звaжу лепш за ўсіх...

І вось мы, асьцярожна па койданаўскім бруку, пакідаем вуліцы і рынак за сабою. Шыльды яшчэ пэўны час стаяць перад вачыма са сваімі жудаснымі надпісамі: „Койданаўскі народны будынак", „Мінская дамская кравчіха", „Рыхтавальнае арцель чырвоны „лучь" і д. т. п. Але хутка і яны зьнікаюць з увагі. Налева развальваецца былы кальвінскі збор з байніцамі, як і круглыя вежы яго каменнай абгарожы, далей за ім прыгожы парк, і мы за мястэчкам. І ўспамінаецца, як у ім трымалі арыштаванага К. Каганца ў 1905 г. за агітацыю сярод сялян і „як (ён) ехаў аднэй марознай ночы па завеенай дарозе між двох жандараў з мястэчка на паўстанак" („Тры алешыны"). Так, з гэтага мястэчка яго везьлі ў Менскі вастрог...

Шляхціц Шалевіч з Навасад падаткнуў...

На полі людзі выбіраюць бульбу. Калёсы мерна бягуць па ўзгорках і нізінах. Вочы прагавіта аглядаюць кожную драбніцу краявіду. Думкі кружаць аб Каганцу.

Мінаем вёску Ярашоўку, што стаіць упоперак дарогі і набліжаемся да Навасёлак, былога маёнтку продкаў Кастравіцкіх, пасьля—Шустава, Леньскага і Зьдзяхоўскіх, а цяпер—савецкай гаспадаркі. Гэта пра гэтага Леньскага ўласна пісаў К. Каганец:

„У нашых Старынак зацьвіла лілея; у нашага Леньскага не вальна нядзеля". А цяперака тутака вольная праца вольных людзей на савецкім полі.

Углядаюся навокал, шукаю вачыма могілак. Далекавата направа, над хмызьняком, высяцца сосны, бярозы і асіны невялічкаю купкаю. Мабыць гэта яны.

У самых Навасёлках хлопчык сьцьвярджае маё меркаваньне і мы накіроўваемся да могілак, пакідаючы з левага боку палацы, а з правага—сад. Другі хлопчык паказвае нам бліжэйшую да могілак хату, гаспадыня якой можа нам што-колечы расказаць пра самую магілу К. Каганца. Заходжу, тлумачу чаго хачу і Аміля Мацьвееўна Марэцкая, старая кабета, ветла згаджаецца дапамагчы мне. Сьцежкаю, праз раўчаёк, падымаемся на могілкі, на якім багата шыпшыньніку і іншых кустоў. Частка сосен высечана. Недалёка ад краю могілак стаіць ка-

плічка, усыпяльня грыцкаўскіх Кастравіцкіх. Крокаў на дзевяць ад сярэдзіны капліцы па лініі роўналеглай яе пярэдняй сьцяне стаіць вялікі пень ад старой хвоі. Калі ступіць два крокі за пень ад капліцы і адзін крок улева, то будзе магіла, якая ляжыць у кірунку прыблізна з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад; побач з ёю, з левага боку, такая самая другая магіла, а за два крокі за ёй дрэва; у правы бок




Алё Ганнуся хитренька! Бытцем при Амброжех нічого не вѕдаё, а показываётца што штось вѕдаёш.
Будѕ Ганнусю ѕдоров и весёла, и Матчины ручки выцалуй
Твой Казус

Лѣта 1899го
березоля 20го дня
у Примоличiв
Заўчора то ё у воўторок вечором приехаў до Мѣнска, алё не посылаў листа бо хотѣў с Амброжем перш дочекатися, котори приехаў учора. Дѕуж, дѕуже тобѣ дя-

*К. Каганец.* Вокладка і аўтограф.

першай магілы ўпіраецца галавамі трэцяя, на якой расьце высокі стройны ясянок. Т. Марэцкая і іншыя, якія зьбегліся глядзець на новага чалавека, сьцьвярджваюць, што першая з памянёных ёсьць уласна тая магіла, у якой ляжыць К. Каганец. Хто-колечы бачыў, як яго хавалі, хто-колечы бачыў, як яе адведвалі блізкія сваякі нябожчыка і г. д.

Магілка ўяўляе сабою абкладзены дзёрнам бугор, на якім бучна разросься куст шыпшыны. Ні крыжа, ні помніка няма. Сьпелыя шыпшыны чырвоным сорамам гарацьь, што за дзесяць год ніхто ні ўдаўмеўся зрабіць якую-небудзь адзнаку аб тым, што тут ляжыць выдатны культурны і рэволюцыйны дзеяч... Успамінаецца, як К. Каганец пісаў пра беларускага казацкага гэроя Галубка („Гадка пра Галубка“).

„Забылі ця Галубочку.
Выцязя таго,
Памяні-ж ты яго,
Хоч ты, магільны квіточку“.

Ї пра самога Каганца на могілках гаворыць ня прыгожы надпіс, а магільныя кветачкі, ды шум адзінокіх, яшчэ ня сьсечаных, як другія, прагавітаю рукою злодзея, сасон, бяроз і асін...

Фотографую магілу з трох пунктаў: ад капліцы, г. зн. з паўднёва-ўсходняга боку, паўднёва-заходняга і паўночна-паўночна-ўсходняга. Гэта раблю, каб дакладней зафіксаваць яе, а таксама, каб мець здымак у тым выпадку, калі адна з фотографій чаму-небудзь ня ўдасца. А ўмовы надзвычайна дрэнныя: то дрэвы перашкаджаюць, то супроць сонца апарат прыходзіцца і г. д.

У савецкай гаспадарцы зазванілі, і натоўп хутка растаў. Фурман пашоў да каня, а т. Марэцкая—дадому. Я яшчэ агледзеў каплічку-усыпяльню грыцкаўскіх Кастравіцкіх.

Драўляны дах і столь згнілі і праваліліся ўсярэдзіну; вокны выбіты, ківот паламаны; у ломе на падлозе ляжаць дубовыя рамы, мабыць ад партрэтаў; у пярэдняй і ў бакавых сьценах умацованы па дзьве пліты з надпісамі („Michał Kostrowicki Podkomorzy Ptt: Mińskiego“ 1775—1853; „Florentyna z Wojniłowiczòw Kostrowicka Podkomorzyna ptu“: Mingo † 1848“, „Karol Kostrowicki marszałek powiatu Mińskiego“ † 1853; „Franciszka z Janiszewskich Kostrowicka“ 1752—1783; „Fabianna z Maszewskich Kostrowicka“ 1828—1878); адна пліта вырвана і валяецца ў ломе, так што надпіс прачытаць трудна; на месцы яе прабіта дзірка і магіла абрабавана. Кажуць, што з яе зладзеі дасталі „шаўковую шаль і яшчэ нешта“; на аднэй з пліт гэрб; у ломе наківоце валяюцца дзьве драўляныя фігуры хрыста—адна афарбаваная ў срэбны колер, старая, і другая натуральнага драўлянага колеру. Высьветліць што-небудзь, што-б з гэтай капліцы Каганцовых аднафамільцаў кінула сьвятло на жыцьцёпіс К. Каганца, без папярэдніх досьледаў і апытваньня мясцовага насяленьня немагчыма.

Пагаварыўшы яшчэ з т. Марэцкай і інш., якія адзываліся аб К. Каганцу, як аб „вельмі добрым чалавеку“, я рушыў далей. Мясцовасьць станавілася ўсё прыгажэйшай і прыгажэйшай. Мінаем вёску Машніцу, якая застаецца з правага боку дарогі і выяжджаем на ўзвышша. Наперадзе, унізе, на рэчцы Вусе, так улюбёнай К. Каганцом, рамантуюць млын, гэта—Бухвалаўшчына. Каля яго пераяжджаем Вусу по зыбкім мосьціку, перабіраемся грэбляй праз крынічнае балотца і зноў узьбіраемся на гару. Краявід—на кілёмэтраў дзесяць радыусам. Ззаду—Навасёлкі з іх прыгожымі могілкамі, сьпераду—лес, з левага боку—вёска ў нізіне, з правага—далі з дымчатымі лясамі. І ўсё ў празрыстым паветры здаецца такім блізкім... А праз некалькі хвілін з правага боку відаць зусім іншыя краявіды, левы паказаў сябе зусім інакш, Навасёлкі пачалі хавацца за гарой, а лес ужо зусім блізка. Ня так даўно гэта быў лес, а цяпер толькі лясок. Але і цяперака дарога, атуленая магутнымі гукамі елак і бяроз, здаецца тунэлем. Далёка сьпераду відаць з яго белая пляма сьвятла. Ня стрымліваюся і фотографую. Пасьля аказваецца, што гэта—прымагільскі лясок. Зараз-жа, як выедзеш з яго, направа—Прымагільле, канцавы пункт маёй падарожы.

Ня ведаўшы, мы яго мінулі, і нейкая цётка вярнула нас ад Юцкоў. З тае дарогі Прымагільле выглядае схаваным у сваім садзе на беразе цёмнага лесу; толькі гумно трохі выдалася. Зноў фотографую і накіроўваюся на двор хутара. На дварэ рубяць зруб новай будовы. Пытаю гаспадара. Міхась Кардэцкі жне авёс блізка будоў, на спадзе. Пачынаю спушчацца ўніз і разумею, чаму К. Каганец мог так дасканала перадаваць хараство беларускай прыроды. Перада мною, у які бок ні павярнуся,—найцудоўныя і самыя розныя краявіды. Прымагільле—гэта скандэнсаванае хараство нашай стараны... І яго так любіў Каганец, яно так моцна зьвязана з яго жыцьцём. Тут ён пражыў шмат і шмат гадоў. Тут ён распрацоўваў сваімі рукамі гэтую зямлю. Тут ён перажываў і гора свайго ўбогага жыцьця і яго радасьці. І пазьней ужо ён сам любіў аглядаць гэтыя месцы („Успамін“):

„А я пайду сабе
Гаем пад гарою.
Дзе, бывала, калісь
Стрычаўся з табою, —
Дзе той крыж, той белы;
Дзе стаяў на той час
Стары дуб на горы,
Адкуль выглядаў я
Сваей любай зоры
З-за кустоў ляшчыны.
Пайду той дарожкай,
Дзе калісь хадзіла,
Праз хвойнік васюцкі
Мая зорка міла
Да маей сястрыцы.
Пайду я на замак,
Дзе й яна бывала.
Пайду на Пасьледы,
Дзе й яна гуляла.
Зайду і ў Карнэж.
Пайду разьвітаюсь
З рэчкай і з гаем,
З горамі, руччамі,
І зы ўсім тым краем
Што яе гадае“...

І я з вялікай увагай аглядаю ўсё, што яго гадае. Далей, мяжуючыся з Прымагільлем, Юцкі і Лісьсі Норы, дзе ён таксама часамі пражываў, а ў Юцкох памёр, але пераважная большасьць яго творчых год зьвязана з Прымагільлем. Ды на месцы Лісьсіх Нор толькі не-



Каганцова хата. Фот. аўтара.

калькі яблынак стаяць. Навасады і Васюкі, дзе нябожчык любіў у свой час бываць, ляжаць—першыя лявей, а другія правей ад Юцкоў.

Т. Кардэцкі ахвотна дазваляе мне фотографаваць усё патрэбнае для мяне і, пакінуўшы працу, тлумачыць і апавядае пра тое, што мяне так цікавіць. Шкадуе, што я без яго і Каганцовага прыяцеля Віктара Адамавіча Зелязея. Абяцаю, што мы яшчэ прыедзем не на некальні хвілін (цяпер я сьпяшаўся) і пачынаю зноў фотографаваць. Вось маленькая хатка з двама ваконцамі, у якой жыў і Каганец. Уваход праз хлеў. Падлогі няма і ня было. Ня йменца веры, што ў ёй прыходзілася жыць такому вялікаму чалавеку... Пазьней да яе прыбудавана крышку большая хатка з крытым ганкам.

Хоць і ўехала ў зямлю Каганцова хатка, але пражыла яго. І актыўна пражыла, бо дрэнна ўплывала на здароўе.

Гэта з яе ў хлеў-прыбудоўку выходзіў К. Каганец у ночы даглядаць жывёлу: „Цяпер вот кабыла, каштанка мае жарабіцца тымі днямі,

то як паеду, некаму будзе паруліцца ўстаць у ночы паглядзець яе. Гнедая, ня ўрокам гаворачы, як-бы ўжо крыху паправілася". (З ліста ад 20.3.1899).

З т. Кардэцкім ідзем на ўскраек лесу, дзе стаіць улюбёная К. Каганцом вялізная хвоя, пад якой ён гадзінамі ў вольны час думаў свае



Каганцова магіла (пад кустом, правей блёкноту). Фот. аўтара.

думы. Гэта мабыць тут гадавалася яго жаданьне змаганьня за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне беларускага сялянства, жаданьне буры („Успамін"):

„Бо я так мяркую,
Што для шчасьця мала
Жыцьця ў давольстве—
Усяго штоб ставала:
І мяса і хлеба.
Памойму для душы
Чагось болей трэба,
Трэба чыну, дзела,—
Душэўнага хлеба;
Пагоды і буры"...

Было такіх тры хвоі; адну сьсеклі; другая, меншая, стаіць непадалёк. Фотографую. Фурман ганашыцць сьпяшацца назад к цягніку. Шчыра дзякую т. Кардэцкага, прашу прыяжджаць і яшчэ раз аглядаю далі, абгаю хутар; гару і нізіну з Вусой; хвойнік, ельнік і алешнік. Як зырка яны мне нагадалі Каганцовы словы аб лесе, што, быць можа, таксама зарадзіліся тутака:

„Лясы, бары і дубровы
Краса нашай бо краіны.
Гаі, пушчы, кнеі, лугі.
Па балотах да й альшыны.
Усё край наш украшаюць.
Вось край лесу дуб магучы
Сваё гольле прасьцірае;
Так сказаў-бы, ня іначай
Той лес веццем абнімае,
Як-бы бацька свае дзеткі.
За плячыма яго сталі:
Хвойка-матка, ель-ўдавіца,

Клён кудравы, ясень сьветлы,
І граб-дядзька, і ільміца,
І арэшнік ўгору пнецца,
І зьляканая асіна,
Як-бы вінна, ўся трасецца.
Вербалоз між іх утуліўся,
Як-бы хоча памаліцца,
У лясной да прахалодзі.
А на дуба спазірае
Белагрудая дзявіца—
У сьвежай зелені бярозка,
Доўгі косы разьбірае.

А пайдзі ты ў гушчу лесу...
Ўся паляна травой зросшы,
Пад нагамі дыван мяккі—
Мох зялёны, як шаўковы;
Там угоры птушкі сьвішчуць;
Воздух сьвежы і здаровы.
Мошкі, пчолкі гудуць недзе.
На паляне да і ў травах
Зацьвітае, чырванее
Смашна ягада суніца;
Далей ў лесе дай чарнее
Буйна, сочная чарніца“...

Так, у гэтых радкох гэта прырода, але ўжо так моцна абшарпаная... І ўсё-ж—прыгажэйшае месца Меншчыны... Фурман зноў кліча. Саджуся на калёсы. З вуснаў рвуцца Каганцовы вершы з падменаю слова „яе“ на „яго“:

„Бывайце здаровы
І вы, кветкі красны,
Што на вас дзівілісь
*Яго* вочы ясны:
Пралескі і смолкі,
Званкі і незабудкі

Рамон, васілёчкі!
Вы ўжо забылі
*Яго* кары вочкі,
Вы кветачкі любы?
Мне-ж бо так ніколі
*Яго* не забыці“...

...Ні яго, ні гэтых прыгожых месцаў...

Крышку новай дарогай, праз Павусьсе і Навасёлкі, узбок мястэчка Койданава, за гадзіны дзьве памаленьку прыяжджаем на ст. Койданава. Трэба чакаць поезда гадзіны дзьве. Тоўстая буфэтчыца апавядае, што К. Каганец „быў вельмі культурны, але трохі самашэдшы чалавек: хадзіў у кажуху і ботах і гаварыў памужыцку; мог жыць палюдзку, а ўсё пападаўся за падбухторваньне сялян. Я яго добра помню—у той час у мае бабулькі была вялікая крама і ўсе памешчыкі бралі ў ёй напавер“—сьцьверджвала яна; і, мабыць, забыўшыся, што я ў яе бяру за гатоўку, ці ўлічыўшы сваю інформацыю, яна садрала з мяне за гарбату неімаверную плату. А можа за тое, што яна „вучылася тры месяцы ў Нямеччыне на курсах дамаводзтва, дзе яе вучылі: „kinder, kuchnia“, як яна хвалілася сваей нямецкай мовай. Але нейкі лясьнічы, з якога, мабыць, яна таксама садрала, вышаўшы, вылаяўся: „Ах, ты, „kinder, kuchnia“...

Праз дзьве гадзіны, зморaны багатымі ўражаньнямі, я дома. Трэба-б было запісаць успаміны тамашніх сялян пра К. Каганца, зьезьдзіць у Жортай Барысаўскі, Дулебы Бярэзінскія і Паток Клічаўскі, але ўжо на лета. На гэты раз добра высьветлена, што Каганцовыя месцы вельмі ўдзячныя для групавых трохдзённых экскурсій: першы дзень (Менск): Сьляпянская, 6—Пролетарская, 10—Савецкая, 97—Чырвонаармейская, 3—Рэволюцыйная, 21—Валадарская; другі дзень: Менск—Койданава—Навасёлкі—Прымагільле; трэці дзень: Прымагільле—ст. Фаніпаль—Менск. Калі хто не захоча начаваць у Прымагільлі,— можна пасьпець к вячэрняму поезду ў Койданава ці Фаніпаль, але лепш на апошнюю, бо будзе ісьці па новых мясцох, кудой хадзіў і К. Каганец. Апроч цягніка ўся падарож памойму павінна адбывацца пехатою. Можа быць і адменьнік паказанага маршруту: Менск—Прымагільле—Навасёлкі—Койданава пехатою і Койданава—Менск поездам. Кіраўнік экскурсіі можа карыстацца наступнымі матар'яламі: *М. Касьпяровіч.* Карусь Каганец. „Маладняк“, Менск 1928, № 10 (там-жа пака-

зана і літаратура); тамсама: надрукаваныя вершы К. Каганца. Недрукаваныя апавяданьні К. Каганца. *М. Касьяровіч.* На Каганцовай магіле „Літаратурны дадатак да „Савецкай Беларусі“ 1928 г., № 17; тамсама: „Недрукаваныя Каганцовы вершы“; *З. Бядуля.* К. Каганец. „Зьвязда“ 1928 г., № 115. *К. Каганец.* Песьня зіме. „Беларускі каляндар на 1914 год“, ст. 11.

Такая літаратурная экскурсія мае вельмі вялікае значэньне ў краязнаўчай справе. Тым больш, што К. Каганец—найвыдатнейшы прадстаўнік у нашай літаратуры паасобнага краю Беларусі, а „ідэолёгія краязнаўства без поэтаў і мастакоў, без найскромных замілаваньнікаў традыцыі лёкальнай, ня здалее папулярызаваць сваіх задач, а таксама пасунуць іх наперад“ (*К. Браун*). Але дасьледаваньне couleur locale, мясцовага, краёвага элемэнту ў Каганцовай творчасьці складае асобную тэму для вывучэньня.

---

**Ів. Сяржанін.**

# З веснавых наглядаяньняў над птушкамі.

Вясна ў гэтым годзе была зацяжная і вельмі халодная. Яна, вядома, не магла не рабіць уплыву і на птушак як прылётных, таксама і пралётных. Апошнія, напрыклад, часта затрымліваліся па некалькі дзён у дарозе, што зьяўляецца ненормальным. Нават можна паказаць прыклад такога яўнага затрыманьня некаторых птушак, ажна яны нават загнязьдзіліся, не даляцеўшы да сваіх месц. Я маю на ўвазе дразда (Turdus iliacus L.), кладку якога (з пяці ледзь-ледзь наседжаных яечак) знайшлі 5 мая ў ваколіцы м. Любані, Бабр. акругі[1]). Гняздо было зроблена акуратна з тонкіх расьлінных сьцяблоў з прымешкай гліны і моху і знаходзілася на струхлелым альховым пні, на вышыні 1,5 мэтр ад зямлі. А. А. Сіланцьеў і Н. А. Халадкоўскі пішуць: „.... дрозд займае паўночную частку палеарктычнай вобласьці і паўдзённая мяжа праходзіць праз паўдзённую аканечнасьць Скандынаўскай паўвыспы, Прыбалтыцкія губэрні і, пэўна, праз Тульскую Казанскую, Уфімскую і Аранбурскую губ. Бліжэй на поўдзень ад адзначанага раёну дрозд гнязьдзіцца, але рэдка....“ Профэсар А. В. Фядзюшын, калі я напісаў яму аб знаходцы дразда ў м. Любані, таксама выказаў дапушчэньне, што дразд загнязьдзіўся ў сувязі з холадам не даляцеўшы да сваіх месц. Але да гэтага пытаньня можна падыйсьці і з другога боку. Папершае, калі зірнем на паўдзённую мяжу дразда, якая праводзіцца Н. А. Халадкоўскім і А. А. Сіланцьевым, то Любань ляжыць больш на поўдзень толькі на 2°—2,5°, апрача таго і яны дапушчаюць, што хоць рэдка, але гнязьдзіцца больш за вышэйпаказаную мяжу ня можа. І, падругое, калі-б дрозд затрымаўся і загнязьдзіўся ў сувязі з халадамі, то прыходзілася-б чакаць знаходжаньня ў адным раёне некалькіх гнёзд, бо гэта птушка ляціць не паадзіночнымі экзэмплярамі, а цэлымі стадкамі. Пры самых старанных шуканьнях болей гнёзд знайсьці не ўдалося. З пабудовы-ж самога гнязда відаць, што яно зроблена акуратна, а не насьпех. Ва ўсялякім выпадку пытаньне застаецца пакуль адчыненым, і толькі бліжэйшыя гады павінны вырашыць гэтае дупушчэньне ў той ці іншы бок.

---

[1]) Гняздо з кладкай адаслана ў Зоолёгічны музэй І. Б. К.

Але цяпер, калі спынім пытаньне аб дразьдзе і нават дапусьцім, што гнездаваньне яго ў Бабруйшчыне нормальна, дык досыць многа яркіх прыкладаў уплыву халадоў пабачым сярод нашых прылётных птушак, параўнаўшы іх паводзіны з леташнімі. Звычайна птушкі пасьля прылёту хутка адпачываюць ад цяжкасьцяй, зьвязаных з прылётам, параўнаўча скора займаюць месцы для гнездаваньня, падымаючы пры гэтым вясёлыя крыкі. У гэтую-ж вясну нічога такога, якраз, ня было заўважана. Птушкі доўгі час не займалі сваіх месц і трымаліся каля лесу невялічкімі групкамі (5—10 штук). Лёталі яны рэдка і моўчкі, а калі часам і крычалі, дык вельмі слаба і коратка.

Толькі, калі трохі пацяплела, каля 30/III, можна было заўважыць невялікае ажыўленьне. Птушкі хутка занялі свае ўлюблёныя месцы, хутка ўзяліся папраўляць старыя гнёзды або будаваць новыя, выдаючы пры гэтым вясёлыя і гучныя крыкі. Гэта можна было добра назіраць над кнігаўкамі, улікамі і берасьцянкамі [1]). І ўжо жыцьцё пайшло-б нормальным шляхам, каб зноў надышоўшыя халады з сьнежнымі мяцеліцамі 12, 13 і 14 красавіка ня ўнесьлі-б у прыродзе новых зьмен. З надыходам халадоў птушкі адразу замоўклі і прапалі. Выпаў глыбокі на той час сьнег (3—4 вярш.). Паводле надвор'я можна было-б сказаць, што ў нас не красавік, а сьнежань. Гэта паказвалі і стадкі сарок, галак і чубатых жаўранкаў, якія зараз-жа пачалі паказвацца каля хат. Яны добра сябе адчувалі. Весела падскаквалі і поркаліся ў сьметніках і гнаі. Іншых птушак пакуль што нідзе ня было відаць. І толькі праз два дні пачалі паказвацца спачатку адзінкавыя экзэмпляры, а пасьля і стадкамі малінаўкі і дразды. Палёт іх быў слабы і палахлівы. Можна было паводле іх выгляду меркаваць, што іх загнала да жыльля няшчасьце, і каб яшчэ некалькі дзён такой сьцюжы і яны загінулі-б. У змаганьні з холадам і голадам яны ўляталі ў хаты. Былі такія выпадкі, калі ў кватэры ўляталі малінаўкі, удоды. Нават, такая параўнаўча трывалая, птушка, як бусел, і той ад голаду і холаду падлятаў да самых дзьвярэй хат і дазваляў браць сябе голымі рукамі. Калі-ж уносілі яго ў хату, ён хутка адаграваўся, прагна еў кавалкі мяса і з прычыны сваіх паводзін прымушаў выкідаць яго на двор. Наадварот, малінаўкі ў кватэры адчувалі сябе добра. Яны весела лёталі, выдаючы бясклопатныя гукі: „тэк, тэк, тэк“ і хутка так прывыкалі, што сьмела апускаліся на стол або нават на галаву чалавека.

Але побач з жывымі экзэмплярамі пачалі прыносіць і мёртвых. Так, з 13—IV па 24—IV прынесьлі 22 птушыных трупікаў, а ўсяго зарэгістравана 37 мёртвых птушак. Мабыць, болей іншых пацярпелі малінаўкі і дразды, бо сярод прынесеных птушак аказалася: малінавак (Erixhcus rubecula) 11, пеўчых драздоў (Turdus musicus) 6, удодаў (Upupa epops) 1, чорных драздоў (Merula merula) 2, буслаў (Ciconia alba) 2. Знаходзілі іх у скляпох, у дровах, па дарозе і нават у хлявох. Абодвы чорныя дразды, якіх мне прынесьлі, былі знойдзены ў хляве. Яны зарыліся там у гнаі. Усе птушкі былі страшна худыя, і ўскрытыя страўнікі ў многіх аказаліся зусім пустымі. Толькі ў дзьвюх малінавак былі знойдзены кавалкі скрыдлачкаў якогасьці жучка.

---

[1]) Адносна берасьцянкі трэба сказаць, што яна, мабыць, у адзінкавых экзэмплярах застаецца ў нас зімаваць. Так два разы (у сьнежні і лютым) я бачыў яе на вуліцы сярод сініц і чубатых жаўранкаў

Такая халодная вясна, вядома, перашкодзіла размножаньню птушак. Гэта рэзка прымячаецца сярод драздоў. У мінулым годзе, напрыклад, я знайшоў 7 гнёзд драздоў, а сёлета ў гэтым самым лесе і раёне толькі 3.

---

Н. Е. Кавалёў.

# Маргель і іншыя карысныя выкапні.

*(Каля в. Кляднявіч Дрыбінскага раёну, Аршанскай акругі).*

Некаторыя будаўнікі па справядлівасьці лічаць наш век—векам цэманту, бэтону і жалезабэтону. З значнай шыбкасьцю гэтыя будаўнічыя матар'ялы пранікаюць усё больш і больш ува ўсе галіны гаспадарчай дзейнасьці чалавека і выціскаюць іншыя. Напэўна, у далейшым яны набудуць яшчэ большае значэньне. А пасьля вайны, у цэмантова-бэтонавай прымысловасьці заўважаецца яшчэ большае ажыўленьне, якое закранула таксама і Беларусь. Яе значная патрэба ў вяжучых матар'ялах і недахоп у апошніх досыць выразна выказана Горным аддзелам ВСНГ[1]). „Гэтыя патрэбы"—знаходзім мы там:—„ня могуць быць задаволены ні існуючымі вапнавымі заводамі, ні тым больш тымі недастатковымі партыямі портланд-цэманту, якія нам прыходзіцца дастаўляць з Наварасійску. (Мальцаўскія заводы праз меру нагружаны запатрабаваньнямі на портланд-цэмант цэнтральнага прамысловага раёну і БССР адпускаюць мала)".

Неадкладная задача, якая стаіць у сучасны момант перад дасьледчыкамі Беларусі ў справе выяўленьня запасаў усіх карысных выкапняў на яе абшарах і пабудзіла мяне гэтай нататкай зьвярнуць увагу на яшчэ мала знаёмыя паклады лугавога марглю і інш., якія знаходзяцца ў адным з куткоў Аршанскай акругі[2]).

Памянёнае месца знаходзіцца каля с. Кляднявіч у забалочанай пойме р. Рэместава-Быстрай, залягаючы ў 3-х урочышчах: Х. Волава[3]), Дзіч і Зазярыньне на вельмі блізкай адлегласьці адно ад другога (самае большае 1 клм.). У сярэдзіне трыкутніка гэтых урочышчаў і разьмяшчаецца на высьпе, сярод поймы х. Забалотных.

У геолёгічных адносінах уся абшырная забалочаная даліна р. Рэмestава-Быстрай, у пойме якой залягаюць гэтыя карысныя выкапні, разьмешчана сярод пасьлятрацьцёвых ледавіковых адкладаў. Тут-жа, каля с. Кляднявіч, па думцы проф. Б. А. Мажароўскага, павінна знаходзіцца мяжа заляганьня сталых адкладаў (Д і Cr) і адклады апошняга цягнуцца к поўдню ад лініі в. Добрая-Крукаўшчына і с. Кляднявічы[4]).

---

[1]) Праца Горнадасьледчых партый ВСНГ. БССР у 1927 г. (папярэднія вынікі).

[2]) Тым больш, як мне стала вядома, што Горны аддзел па сваіх досьледах пакладаў вяжучых матар'ялаў ужо спыніў свае палявыя працы.

[3]) Частка гэтых пакладаў, якія разьмешчаны на поўдзень ад хут. Забалотных у ўроч. Волава, была ўжо знаёма мне з часу досьледаў гэтага раёну (1922 г.) проф. Б. А. Мажароўскага, ужо тады, як і спатканая тут-жа балотная жалезная руда, якая зьвярнула яго ўвагу, што ў свой час ім было адзначана ў яго рабоце: „Послетретичные отложения и водоносные горизонты в верховьях р. Прони". З прычыны скорага пасьля таго яго ад'езду з Горак намер яго больш падрабязна распрацаваць гэтае пытаньне застаўся ня выкананым.

[4]) Па думцы таго-ж аўтара—даліна гэтай ракі зьяўляецца прыблізна месцам выгібу сталых парод, што як-бы супадае з адзначанымі асаблівасьцямі, як у адносінах сталых, так і ледавіковых адкладаў.

Як аб таўшчыні, так і характары заляганьня паасобных складаных частак комплексу ледавіковых адкладаў можна прыблізна судзіць на падставе разьмешчанага тут паблізу, ужо адзначанага ў літаратуры (Г. Ф. Мірчынк і Б. А Мажароўскі) на левабярэжжы ў чыгуначнай выемцы іх поўнага разрэзу. Тут зьнізу „ў аснове былі абголены ў найбольшым пад'ёме на 5 мт. ніжнянакіднёвыя пяскі гліністыя, шэрабялёныя з праслойкамі накіднёвага жвіру і паасобнымі значнымі накіднямі (fg). Мяркуючы паводле: 1) гэтага выхаду, 2) выкліньваньня іх у правым беразе р. Рэместава-Быстрай на вышыні яе межаніннага ўзроўню мт. каля 100 ніжэй млына, 3) адкрыцьця іх на глыбіні каля 8 мт пад алювіяльнымі наносамі сьвідравальнай шчыліны [1]), якая была закладзена пад кіраўніцтвам проф. Ф. В. Люнгерсгаўзэна студ. мэдфаку ў час практыкі ўлетку 1925 г., і ўрэшце 4) неаднакратнага адкрыцьця іх ў пойме: пад алювіяльным каптуром зондыроўкай пры складаньні проекту асушэньня гэтай дзялянкі поймы інж.-агр. П. Чыжыкам [2])—трэба думаць, што гэтыя пяскі зьяўляюцца пасьцеляй даліны, на якой адкладаліся пазьнейшыя пасьлятрацьцёвыя наносы. На падставе прыведзеных Б. А. Мажароўскім у табл. некалькіх даных аб таўшчыні гэтых пяскоў па сьвідравальных шчылінах Арш. Зям. Упр. у іншых мясцох акругі з амплітудай 0,61—13,11 мт.—можна думаць, што непасрэдна падсьцілаючыя гэтыя пяскі *сталыя адклады, і, менавіта, крэйдавыя залягаюць ня глыбока.*

Ніжняя морэна (m.), якая пакрывае гэтыя пяскі ў тэй-жа выемцы таўшчынёю каля 6 мт., прадстаўлена цёмнаафарбованай чырванаватабурай глінай. Таўшчыня гэтай морэны, як адзначана ў тэй-жа працы, вельмі ня сталая, з хістаньнем 2—24 мт.; як і налягаючыя на яе міжнакіднёвыя жоўта-бурыя буйназярнёвыя пяскі з праслойкамі накіднёвага жвіру, дасягаючыя тут таўшчыні каля 6 мт. ($fg^2$), яна таксама прымае ўдзел у пабудове абодвух бакоў даліны. Пачынаючы з апошніх, у геолёгічнай пабудове абодвух схілаў яе заўважаецца ўжо пэўная розьніца. У той час як на правабярэжжы гэтыя пяскі прыкрыты верхняй морэнай і, зьверх таго, лёэсавым на процілеглым—левым беразе—гэтыя адклады (верхнюю морэну, якая дасягае ў тэй-жа выемцы да 9,5 мт. і лёэс) можна спаткаць часта толькі на ўзвышшах, а самыя схілы даліны, у большасьці выпадкаў, прадстаўлены тым-жа верхнім паверхам сярэднязярнёвых міжнакіднёвых пяскоў і супясей з значнай колькасьцю накідняй, якія ўтвараюць месцамі на палёх в. Нікольскае значныя зграмаджэньні [3]).

Урэшце апошняе і найбольш позьняе згуртаваньне пасьлятрацьцёвых адкладаў прадстаўлена поймавымі адкладамі і складзена ў галоўнай сваёй масе з торпу, які дасягае таўшчыні на бліжэйшых дзялянках даліны ў сярэднім каля 2,5 мт.; у верхняй частцы гэтага карыснага выкапню месцамі рэдка спатыкаюцца або вохра інтэнсыўна чырвонага колеру, або балотная жалезная руда, або яшчэ радзей вівіаніт. Больш значнае зграмаджэньне першай заўважаецца ў 2-х гнёздах—хут. Волава і Дзіч, маючы тут ужо мясцовае практычнае значэньне. Унізе гэтая тарпяная маса (згодна тэй-жа тлумачальнай запісцы інж.-агр. П. Чыжыка) больш мінэралізавана і мае контактам з падсьцілаючым яе, як гаварылася, ніжнянакіднёвымі пяскамі, слой (пласт) альбо глея-

[1]) Вусьце якой было разьмешчана ніжэй ніжняй морэны.

[2]) Тлумачальная запіска да проекту асушэньня зямель Кляднявіцкага Мэл. Т-ва Дрыб. р. Арш. акр.

[3]) У тым ліку і на схілах даліны, прылягаючых да адкладу марглю.

вых, альбо марглістых пяскоў; у абадвух выпадках з дамешкаю органічнай матэрыі. Часам гэтыя пяскі пераходзяць ужо ў лугавы маргель з дасяганьнем таўшчыні ў некаторых мясцох да 1,5 мт., (як гэта было выяўлена ў часе тых-жа зондыровак на пікетах 100 і 101-м), а таксама ў вышэйпамянёных урочышчах. Больш значная лёкалізацыя лугавога марглю ў гэтых урочышчах вакол хут. Забалотных, які мае выгляд значнай выспы, сярод шырокай поймы, прадстаўляе не выпадковае зьявішча, а прычыну гэтага трэба шукаць ў фізыка-геолёгічных працэсах, якія тут калісь адбываліся. Непамернасьць велічыні, р. Рэместава-Быстрай, якая тут працякае, яе даліны, якраз наводзіць на тую думку, што рака цячэ па ўжо гатовай, толькі насьледванай даліне, якая ўтворана ледавіковым струменем у эпоху адступаньня апошняга ледавіка, і тэрыторыя х. Забалотных, у даным выпадку зьяўляецца выспай, якая калісьці ўтварылася і ў свой час абмывалася водамі гэтага струменю [1]).

Калі прыняць пад увагу нязначны ўхіл балота (паводле падлічваньня П. Чыжыка, усяго 0,0032) і тую акалічнасьць, што найменш шпаркае цячэньне ў вядзяных струменях бывае якраз непасрэдна перад сустрэчнай перашкодай і зараз-жа пасьля яе, то можна дапусьціць, што ў паказаным урочышчы і ўтварыліся ў свой час тыя спрыяючыя ўмовы, аналёгічныя як-бы плёсам, дзе адбывалася ўтварэньне гэтых пакладаў марглю—якія, такім чынам, зьяўляюцца вынікам ападкаў, перамешаных у нязначнай меры з пяшчана-глінiстым матар‘ялам крэйды, у сваю чаргу быць можа вымытай дзе-колечы вышэй з сталых крэйдавых парод (магчымае няглыбокае заляганьне якіх намі раней падкрэсьлівалася), і якія ў сучасны момант схаваны толькі больш позьнімі адкладамі.

Пасьля гэтай агульнай прадпасылкі, якая закранае і пытаньне умоў генэзісу гэтага месцанараджэньня лугавога вапняку, спынімся зараз на кожным з памянёных уроч. паасобку, як у адносінах іх запасаў, так і якасьці.

### Уроч. Волава.

Першыя паклады лугавога марглю (як адзначалася, вядомыя ўжо з 1922 г.) знаходзяцца на паўднёвы-захад. ад сядзібы хут. Забалотных пры в. Старакожаўцы каля ральлі, на лузе, недалёка ад рэдкага бярэзьніка на плошчы ў 3-х дзесяцінах. Паклады гэтыя абмяжованы з захаду і поўдню дзьвюма канавамі, якія перасякаюцца пад простым кутам і адну з іх яны пераходзяць толькі ў кірунку на поўдзень мэтраў на 20, а з NO абмяжованы ральлёю, таксама заходзячы месцамі ў апошнюю, ад чаго паклады, прымаючы бялявы колер, робяцца падобнымі да моцна ападзоленай глебы. Як характар заляганьня, так і таўшчыня і распаўсюджанасьць была выяўлена на падставе 2-х кар‘ераў, якія тут былі (месца выемкі марглю, адным з гаспадароў хут. Забалотных; маргель ён дастаўляў яшчэ з 1922 г. у хвальв. Іванова для досьледаў, якія ўтварыліся з абвапненьнем глебы) [2]), і апроч таго

---

[1]) Такі-ж погляд выказаў і Чыжык, але-ж у яго гэта зьвязана з адначасовым адкладаньнем лёэсу; лічачы пытаньне аб генэзісе гэтай пароды ня вырашаным да гэтага часу, я ўсё-ж лічу магчымым дзеяньне гэтых працэсаў да эпохі адкладу лёэсу.

[2]) Папярэднія вынікі дасьледваньня ўплыву марглю на павялічэньне ўраджаю, паводле вуснага паведамленьня супр. Дасьлед. Стан. ас. А. У. Бэрліна, характарызуюць яго ў станоўчым сэнсе.

шляхам шматлікавага (каля 10) прашчупваньня лапатай і шчупам у розных мясцох.

Досьледы паказалі парадак заляганьня парод, у агульных рысах, наступны:

У сярэднім, пад тарпяным пластом, каля 0,22 мт. залягае самы маргель сярэдняй таўшчыні каля 0,5 мт (найбольшая таўшчыня сустракалася да 0,85 мт.), які падсьцілаецца пяском тонказярнёвым, featuring рознага колеру, пераходзіць часам у пярэстую супесь, у аснове шызаватага колеру іржавымі плямамі.

Месца заляганьня марглю можна было пазнаць па стану паверхні лугу: там, дзе залягае маргель, лугавая зямля прыпаднята, як кажуць сяляне, „узбучана“, і, паводле іх слоў, пласт марглю набухае вясеньнімі водамі, штогод паднімае лугавую паверхню прыблізна да паўмэтра з тым, каб улетку, у пэрыод найбольш нізкага стаяньня грунтовых вод, прыняць звычайнае палажэньне. Гэтае штогоднае „ўзбучваньне“ паступова і разрыхляе дзярновы пласт. У больш сьвежым з 2-х кар‘ераў памераў 3,6×2,7 мт., адкуль у мінулую зіму тым-жа хутаранінам было вывезена ў хв. Іванова 170 пуд.—Парадак заляганьня парод назіраўся наступны:

а) торп . . . . . 0,24 мт.

б) лугавы маргель . 0,42 і ніжэй.

с) марглістая супесь шызавата-шэрага колеры з іржава-жалезістымі плямамі, з значнай прымешкай кварцавых зёрнаў сярэдняй велічыні.

Скарыстаўшы лічбовыя даныя аб гэтым кар‘еры, г. зн. аб прададзенай колькасьці з яго пудоў марглю, аб яго плошчы, якая была вымерана мною дакладна ў кв. мт. (9,7 кв. мт.), а таксама сярэдняй таўшчыні яго тут заляганьня (0,4 мт.), мною быў падлічаны як аб‘ём гэтага кар‘еру, (3,8 мт.) так і вага аднаго куб. мт.=44 пуды [1]).

Пры сярэдняй таўшчыні торпу каля 0,22 мт. і марглю ў гэтым уроч. 0,5 мт.—агульны запас гэтага ўроч. можна лічыць каля 12.000 тон з коэф. карыснасьці распрацоўкі каля 2-х, з значнай колькасьцю CaO—(54,3%).

Далей, на паўдзень, за канавай, у напрамку да в. Старахожаўкі, на купленай дзялянцы лугу грамадз. тых-жа хутароў забалотных лугавы вапняк паступова выкліньваецца і мт. у 20-ці ад канавы ў закладзеным дробным шурфу ён ужо не зьявіўся. На адлегласьці каля 250 мт., ад гаю ў тым-жа напрамку, на ледзь прыкметна ўзвышанай дзялянцы, сярод лугу, нязначнай плошчы—каля 600 кв. мт., спаткалася залягаючая ў паверхні інтэнсыўна-чырвонага колеру *вохра*, таўшчынёю каля 0,5 мт., якая падсьцілаецца зьнізу жаўтавата-шэрым сярэднязярнёвым вільгатным кварцавым пяском, агульным запасам яе каля 20.000 пуд. [2]). Пачынаючы з гатага месца, яшчэ далей, у тым-жа напрамку спаткаюцца гнёздамі бяз усякай заканамернасьці з рэльефам жалезная дзярновая руда сярэдняй таўшчыні пласту каля 0,20 мт., прыкрываючыся тонкім дзярновым пластам, які дасягае да 0,1 мт.; ніжэй яна налягае на жоўтыя вохрыстыя глíністыя пяскі. У іншых мясцох, дзе не спатыкаецца жалеза, пад пластам тарпянога дзёрну быў зной-

---

[1]) Выходзячы з гэтай лічбы, быў зроблены падлік запасаў пакладаў ва ўсіх 3-х уроч. (Глядз. ніжэй агул. табл.).

[2]) Лічачы вагу кубічн. мт. тэй-жа велічыні.

дзены кварцавы пясок, ужэ ясна-шэрага колеру дробна і сярэднязярнёвы падобны да рачнога і зусім прыгодны для бэтонавай вытворчасьці.

Паводле слоў гр. хут. Забалотнага, такая-ж жалезная руда, пры падобных-жа ўмовах заляганьня спаткалася ім і далей на поўдзень, да мяжы Старакожаўскага лугу; але-ж самастойнага прамысловага значэньня яны мець ня могуць.

Наогул кажучы, жалезныя руды Беларусі (таксама як і фосфарыты), якія сустракаюцца параўнаўча ў нязначнай колькасьці, наўрад каб у бліжэйшы час маглі-б мець якое-небудзь значэньне пры наяўнасьці аграмадных шматлікавых пакладаў больш лепшай якасьці абодвых гэтых карысных выкапняў у дзьвюх суседніх саюзных рэспубліках.

### Уроч. Дзіч.

Другія паклады разьмешчана на процілежным краі выспы—хутароў Забалотных, г. зн. к NO ад яго, з пачатку балотна-тарпянога рукава, які аддзяляе ў гэтым месцы хут. Забалотных ад поля в. Нікольскае; яна магла быць выяўлена толькі з мінулага году, з часу ўкрыцьця яе сеткаю канаў, сярэдняй глыбінёй каля 1,5 мт., якія былі пракапаны з мэтай дрэнажу балота грамадзянамі гэтай вёскі, на плошчы каля 30 дзесяцін. Як па выгляду самага марглю, так і па ўмовах яго заляганьня, параўнаўча з папярэднім—не заўважаецца ніякай розьніцы; глыбіня заляганьня тут таксама розная, але ўсё-ж некалькі большая з хістаньнем 0,7—1,5 мт., дзякуючы большай таўшчыні тут тарпяной покрыўкі; усё-ж, параўнаўча з большай таўшчынёю торпу, на разьмешчаных побач балотных дзялянках к чыгуначнаму мосту (якія належаць да гр. Кляднявіч), выяўленай у часе мэліорацыйных досьледаў у сярэднім звыш 2 мт.—належыць адзначыць паступовае выкліньваньне торпу пры наляганьні яго на маргельныя лінзы. На плошчы да паловы асушанай дзялянкі (г. зн. 10—15 дзес.) у канавах маргель выходзіць: пры большай глібіні на дне іх, а пры меншай—падымаецца на вышыню да паловы іх пакатаў. З найбольшай таўшчынёй ён абгаляецца ў магістральнай канаве (у кірунку на шлях Нікольскае-Дрыбін) на працягу каля 350 мт., і некаторых бакавых канаў; таўшчыня даходзіць тут да 0,9 мт.; прычым спроба паглыбленьня на лапату ў дне гэтай магістральнай канавы выявіла заляганьне таго-ж марглю. Адносна таўшчыні пласту яго сяляне в. Нікольскае, якія прымалі ўдзел у капаньні гэтых канаў, паведамілі, што сьвідраваньнем, якое тут нібіта рабілася, апошняя вызначана каля 1,5 мт., а некаторыя казалі нават каля 3-х мт. Аб утварэньні досьледаў на гэтай дзялянцы ў вышэйпамянёнай тлумачальнай запісцы нічога ня сказана.

Неабходным спэцыяльным туг вышуканьнем быў-бы дакладна выяўлены запас марглю ў гэтым урочышчы.

Аднак, дапускаючы нават 10 дзесяцін, (што пацьвярджаюць і сяляне), і лічачы сярэднюю таўшчыню маргельнага пласту каля 1 мт. пры вылічанай раней вазе куб. мт.—запас гэтага ўроч. дасягае значнай велічыні (глядз. агул. табл.), коэф. карыснасьці распрацоўкі 1. Нідзе не ўдалося высьветліць характар падсьцілаючай пароды, якая, паводле слоў сялян, згодна таго-ж сьвідраваньня, прадстаўлена пяском. Акрамя таго, тут трэба адзначыць, выпадкі частага заляганьня пад дзярновым пластом торпу, таксама інтэнсыўна-чырвонага колеру вохры якая асабліва лёкалізована абапал канавы, разьмешчанай, каля ральлі х. Забалотных, дзе яна, маючы таўшчыню ад 0,25-0,5 мт.,

выходзіць проста на паверхню. Дзялянка прыблізна такая-ж, як і за ўроч. Волава з запасам каля 15.000 пудоў.

Абодва гэтыя паклады могуць быць скарыстаны як фарба, вельмі каштоўная ў сялянскіх патрэбах [1]).

## Уроч. Зазерыньне.

Урэшце апошнія паклады лугавога маргля, магчыма нават найбольш значныя з памянёных, разьмешчаны паласой усьцяж р. Рэмества-Быстрай. У гэтым ур. маргель абгаляецца ў поймавых абодвух берагох гэтай ракі, пераважна ўсьцяж яе правага берагу. Паласа гэтая толькі перарывіста, пачынаецца ўжо між чыгуначным мастом і млынам [2]), цягнецца, таксама з перарывамі, на значную адлегласьць уніз па цячэньні, якая прасочана мною, прыблізна да Кляднявіцкага х. гр. Гарохава.

Супроць-жа самага сяла, як паказвалася ніжэй млыну, на вышыні межанінага ўзроўню ракі, у правым беразе—абголены ніжнянакіднёвыя пяскі, якія зьяўляюцца прычынай пластавога выхаду грунтовых вод; пад імі залягае пласт таўшчыні каля 1,3 мт., значна ажалезьненае вапняковае мяжджэрыцы, прыкрытае глебавым пластам каля 0,3 мт. Большае практычнае значэньне выхад лугавога маргля мае ніжэй па рацэ, каля х. Гарохава, супроць уроч. Дзіч і х. Забалотных, дзе ён месцамі падмыты ў абодвух берагох.

Тут у правым беразе, пад лугавым глебавым пластом таўшчынёю каля 0,5—0,7 мт. ён цягнецца на вялікую адлегласьць, выходзячы над узроўнем вады на 0,8—1,0 мт. Падсьцілаючай яго пароды нідзе не ўдалося ўбачыць і, судзячы па характары заляганьня, лёгка дапусьціць, што ён падсьцілае рэчышча гэтай ракі. Дзякуючы вельмі нязначнай прымешкі ў ім пяшчана-глiністага матар'ялу, мясцовае насельніцтва ўжывае яго для пабелкі сьцен і пячэй [3]). Паводле слоў сялян, якія капалі тут канавы ад правага карэннага берагу ў раку працягам каля 200 мт., маргель імі быў адкрыты таўшчынёю звыш 1 мт., пачынаючы, прыкладам, з сярэдзіны (г. зн. да 100 мт.) гэтай дзялянкі поймы да самай ракі. У некаторых мясцох, па словах сялян, яны дабіраліся да падсьцілаючых гэты маргель пяшчана-глiністых парод. Значную цікавасьць як у навуковых, так, галоўным чынам, і ў практычных адносінах, прадстаўляе выхад маргля ў левым беразе, які выклікае пытаньне аб магчымай сувязі гэтых пакладаў, з адзначанымі вышэй у ўроч. Дзіч і Волава, толькі, магчыма, менш моцнымі пласткамі.

Лічачы плошчу заляганьня ў гэтым уроч. ня менш 12-ці дзесяцін, з коэф. карыснасьці распрацоўкі каля 0,9, пры 1,0 мт. таўшчыні пласту, прыступнага для эксплёатацыі (да грунтовых вод)—запасы гэтага ўроч. будуць нават ледзь перавышаць такія ў папярэднім урочышчы.

---

[1]) Паводле паведамленьня сялян, вопратка, якая была запэцкана ў часе капаньня канаў гэтай вохрай, пасьля не адмывалася.

[2]) У тэй-жа тлумачальнай запісцы адзначана заляганьне маргля ў гэтай дзялянцы. На пікетах 100 і 101-м пад глебавым пластам (таўшч. 0,2 мт.)—пласт каля 1,5 м. таўшчыні.

[3]) Маргель вельмі падобен да крэйды, сяляне так яго называюць і я спачатку думаў тут спаткаць яе ў выглядзе падобнага сталага выхаду (тым больш гэта магчыма, што трохі ніжэй—выхад адзначаны Мажароўскім каля м. Дрыбін).

Такім чынам, агульны запас усіх 3-х урочышч можна прадставіць у выглядзе наступнай табл.

(У круглых лічбах).

| № № | Назва урочышчаў | Маргель | | | | | | Вохра |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Плошча (у дзесяцінах) | Сярдняя таўшчыня пласту | Колькасьць куб. мт. | Запас (у пудох) | Коэфіц. карыснасьц. распрацоўк. | Гідрамодуль | (У пудох) |
| 1 | Волава . . | 3,0 | 0,5 | 16.000 | 700.000 | 2 | 58,4 | 20.000 |
| 2 | Дзіч . . . | 10. | 1,0 | 109.000 | 4.700.000 | 1,0 | 11 | 15.000 |
| 3 | Зазерыньне . | 12. | 1,0 | 130.000 | 5.600.000 | 0,9 | 39 | |
| | | | | 255.000 | 11.000.000 | | | 35.000 |

Значыцца, паводле самага сьціплага падліку, запас вылічаецца ў 11 мільёнаў пудоў. Трэба думаць, што спэцыяльнае больш дэталёвае вышукваньне, якое тут перад пабудовай заводу (хоц-бы і акружнага значэньня), належыць зрабіць, выявіць яшчэ большыя запасы (што асабліва датычыцца ўроч. Дзіч і Зазерыньня). Хэмічны аналіз узораў гэтых маргляў, узятых з паказаных 3-х уроч., які зроблен у лябараторыі неарганічнае хэміі Бел. Дз. С.-Г. Акадэміі ас. І. Т. Івановым—выявіў, пры нязначнай колькасьці гліназему, вялікі % CaO, які дазваляе ўсе гэтыя 3 паклады аднесьці да катэгорыі крэйдавага марглю. Ніжэй прыводзім параўнаўчую табл. хэмічнага складу гэтых маргляў і ўзятых з іншых месц Саюзу.

| № № | Хэмічны склад | Б. С. С. Р. | | | | Саюзных рэспублікі ў сярэдніх лічбах | | | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Паклады каля с. Кляднявіч | | | | | | | | |
| | | Волава | Дзіч | Зазерыньне | *] Крэйдавага марглю ўзор. № 120 каля ст. Камунара [Касьцюковічы] | **] Па 5 узор. Бранскага месцанарадж. [Мальцаўск. цэмантовых заводаў | Па 6 ўзорах Маскоўскіх вапнякоў | 8 ўзорах Разанскіх вапнякоў | 8 ўзорах вапнякоў поўдню | |
| 1 | CaO . . . | 54,3 | 50,0 | 51,6 | 49,79 | 56,34 | 53,47 | 49,79 | 52,10 | *] Праца горнадасьледчых партый ВСНГ. БССР. **] Нерудные ископаемые т. III. изд. Кенс. Всес. Акад, Наук. |
| 2 | MgO . . | 1,04 | 0,75 | 1,15 | 0,36 | (0,48) | 0,43 | 3,4 | 0,53 | |
| 3 | $Al_2O_3$ . . | 0,51 | 0,23 | 0,64 | 1,91 | 0,83 | } 0,165 | } 1,19 | 2,80 | |
| 4 | $Fe_2O_3$ . . | 0,25 | 0,09 | 0,23 | 0,87 | (0,60) | | | 0,78 | |
| 5 | $SiO_2$ . . . | 0,165 | 4,19 | 0,462 | 4,64 | 1,2 | — | — | 1,7 | |
| 6 | $SO_3$ . . . | — | — | сьляды | — | 0,12 | 0,06 | — | — | |
| 7 | Страта ад пракальваньня . . | 0,19 | 3,64 | 2,08 | 40,8 | 43,54 | — | — | 41,98 | |
| 8 | Астача пасьля пракальваньня | 0,20 | 4,69 | 0,65 | — | — | — | — | — | |
| 9 | Нерашчынімая астача | 0,39 | 8,33 | 2,73 | — | — | — | — | 2,58 | |
| 10 | Вільготнасьць . . | 0,82 | 1,23 | 0,95 | — | — | — | — | — | |

Параўнаньне даных аналізаў крэйдавага марглю названых 3-х уроч., каля с. Кляднявіч і вапнякоў некаторых найбольш галоўных месц яго вырабу ў Саюзе, з якіх вырабляюць цэмант зусім добрай якасьці, таксама як і параўнаньне з узорам № 120 крэйдавага марглю, узятага з пакладаў каля ст. Касьцюковічы, намечанай да эксплёатацыі для тэй-жа самай мэты, паказвае, як гэта відаць з прыведзеных табліц, іх блізкую падобнасьць, і значыцца, *задавальняюць запатрабаваньням і з боку іх якасьці.*

Калі прыняць пад увагу, акрамя Кляднявіцкіх пакладаў, яшчэ не дасьледваныя: 1) каля в. Мядзьведзева,—якая знаходзіцца ад гэтых пакладаў клм. каля 5 уверх па р. Быстрай (зручнай для сплаву); 2) у м. Дрыбін і яго бліжэйшых ваколіц (Панечэ, Карэбы[1]) і Палоскі (прычым у апошняй і да гэтага часу робіцца апал саматужным шляхам[2]), з найбольшай адлегласьцю іх каля 8 клм.,—то можна адзначыць у р. м. Дрыбін значную лёкалізацыю, хоць і рознай па генэзысу, але-ж напэўна прыгоднай у тэй ці іншай меры сыравіны для будучага ў гэтым раёне заводу.

Акрамя таго, дзякуючы блізасьці чыгункі, якая зьвязвае гэты раён з больш значнымі Касьцюковіцкімі пакладамі, усе яны могуць быць, як і Журбінскія паклады—разэрвай для цэмантавага заводу, які там проектуецца.

Найбольш-жа мэтазгодна было-б скарыстаць сыравіну гэтых пакладаў дзеля выробленьня бэтонавых колец для калодзежаў, гэтаму спрыяе шчасьлівае злучэньне ў памянёных уроч. вапняку, гліны, пяску (як рачнога, так і накіднёвага) і жарствы. Гэта якраз да рэчы пры тым аграмадным недахопе ляснога матар'ялу, для пабудовы калодзежаў у сялянскіх гаспадарках, што многа ўжо было адзначана, пры дасьледваньні пытаньня вадазабясьпекі Горацкага раёну[3]), дзе насельніцтва пакутуе без вады па прычынах, як прыродна-гістарычнага парадку, таксама ў значнай ступені яшчэ і ад гэтага.

Паспробуем зрабіць хоць-бы прыблізны падлік: калі лічыць, як мінімальную колькасьць вапняковай сыравіны ў Кляднявіцкім раёне—1:1 мільёнаў пуд., то пры апале атрымаецца самае малае 60%, г. зн. звыш 6 мільёнаў пуд. цэманту[4]). Пры сярэднім выдатку цэманту (1:7) каля 66 пуд. на калодзеж 6-ці саж. глыбіні (сярэдняя глыбіня па Гороцкім раёне; глядз. там-жа) гэтага павінна хапіць у круглым на 90.000 калодзежаў. Калі ўзяць лік калодзежаў па Горацкім раёне[5]), акругляючы яго да 900—3 сярэдняй глыбінёй каля 6 саж.—усё гэта сярэдняй лічбай для ўсіх (101) раёнаў Рэспублікі, то цэментовага матар'ялу толькі з гэтых 3-х урочышчаў хапіла-б для зьмены зрубавага ляснога матар'ялу бэтонавым на ўсю існуючую ў сучасны момант колькасьць калодзежаў, што ў аграмаднай меры зьмягчыла-б войстрасьць пытаньня вадазабясьпекі і разам з тым захавала-б для дзяржавы для больш мэтазгоднага скарыстаньня значную колькасьць ляснога матар'-

---

[1]) Гэтыя значныя паклады знаходзяцца паміж в. Панечэ-Карэбы, вышэй возера каля х. Бобрыкава. Ласкава паведаміў мяне аб гэтым агр. М. А. Грамыка, называючы пароду гэтых пакладаў вапняковай мяжджэрыцай. Наколькі ён прыгодны для цэманту—трэба высьветліць.

[2]) Адсюль, напрыклад, у гэтым годзе для будаўнічых патрэб вапну закупала і Акадэмія.

[3]) М. Е. Кавалёў „Прыродна-гістарычныя і экономічныя прадпасылкі забесьпячэньня вадою сялянскіх гаспадарак Горацкага раёну". Працы Навук. Т-ва Б. С. Г. А. IV. т. 1927 г.

[4]) Прапорцыя ўзята паводле літаратурн. даных.

[5]) Глядзі ў тэй-жа працы.

ялу. Зроблены падлік на калодзежы толькі каб падкрэсьліць значэньне гэтых мала прыметных адкладаў. Напэўна, што пры болей блізкім падыходзе да гэтага пытаньня можа быць і ня прышлося-б гэтыя матар'ялы так скарыстоўваць аднабакова. Магчыма, вядома, як у Аршанскай акрузе, так і ў суседняй—Магілеўскай зьявіўся-б значны попыт на розныя іншыя патрэбы (агнястойкае, шляхавае і інш. будаўніцтва).

Значную частку матар'ялу забрала-б, напрыклад, маючае быць у бліжэйшыя гады досыць значнае будаўніцтва Дзярж. Сел. Гасп. Акадэміі, якая знаходзіцца адгэтуль толькі ў 16—18 кілёмэтрах.

На паказаныя ўроч., таксама як і на бліжэйшыя ваколіцы м. Дрыбін Горнаму аддзелу ВСНГ належыць перад вызначэньнем месц пабудаваньня цэмантовых заводаў зьвярнуць увагу і для дэталёвага выяўленьня ўсіх запасаў раёну—зрабіць спэцыяльныя досьледы.

У сувязі з гэтай нататкай лічу сваім абавязкам выказаць падзяку асыст. Катэдры хэміі Бел. Дз. с. г. Акадэміі І. Т. Іванову за зробленыя ім хэмічныя аналізы, а таксама студ. Акадэміі М. Ц. Бартніцкаму і М. Ц. Цімаховічу, якія дапамагалі мне ў аглядзе пакладаў гэтых карысных выкапняў.

---

В. Самцэвіч і П. Стрыгуцкі.

# Прамысловыя прадпрыемствы Барысаўскага Гарадзкога Комбінату[1]).

## I. Месцапалажэньне прадпрыемстваў і іх кароткая гісторыя.

„Комбінат“ Барысаўскіх Гарадзкіх Гандлёва-Прамысловых прадпрыемстваў яднае 19 прадпрыемстваў, галоўнымі з якіх зьяўляюцца: электрастанцыя, пільня з калодачным аддзяленьнем, друкарня, скатабойня, гарбарні, 2 паравыя і 2 вадзяныя млыны і інш. У непасрэднай эксплёатацыі Праўленьня Комбінату знаходзіцца 8 прадпрыемстваў, а апошнія зданы ў арэнду. Асноўнымі сконцэнтраванымі прадпрыемствамі зьяўляюцца: электрастанцыя, пільня і друкарня. Гэтая група сконцэнтраваных прадпрыемстваў знаходзіцца на левым беразе рукава р. Бярэзіны (старога рэчышча), па вул. III-га Інтэрнацыяналу № 3. Месцапалажэньне прадпрыемстваў досыць добрае, бо па рацэ (рукаву) досыць блізка да заводу падганяецца лясны матар'ял (бярвеньне для расьпілоўкі, дровы для паліва). Завод і друкарня знаходзяцца побач з электрастанцыяй, што дае магчымасьць выкарыстоўваць энэргію электрастанцыі для працы як заводу, так і друкарні.

Пабудова пільні ў 1925 г. (на месцы б. запалкавай фабрыкі Саламонава) была выклікана неабходнасьцю забясьпечыць пілаваным матар'ялам будаўнічых запатрабаваньняў комунальнай гаспадаркі гораду і жаданьнем атрымаць таннае паліва (апілкі, абрэзкі і інш.) для паравых катлоў электрастанцыі, якая працуе з 1923 гаду на месцы б. запалкавай фабрыкі Саламонава (з 1918 г. па 1923 г. электрастанцыя знаходзілася ў Нова-Барысаве). Пільня, электрастанцыя і друкарня знаходзяцца цяпер на месцы, дзе раней да 1920 г. знаходзілася

---

[1]) Артыкул напісаны па матар'ялах б. Барысаўскай акруговай Плянавай Камісіі, па справаздачах Гарсавету і Комбінату і матар'ялах дасьледчай экскурсіі з вучнямі 6 і 7 гр. вопытна-практыкавальнае пры Пэдтэхнікуме школы.

досыць вялікая запалкавая фабрыка Саламонава „Вікторыя“, заснаваная яшчэ ў 1885 г. Б. Р. Саламонавым сумесна з Гіршманам.

Рост і пашырэньне фабрыкі даюць нам добрую мясцовую ілюстрацыю таму, як драпежны капітал у руках энэргічных эксплёататараў пад аховай царызму разьвіваў нашу прамысловасьць. У надзвычайна дрэнных драўляных будынках пачынае працаваць прадпрыемства з вельмі прымітыўным абсталяваньнем. Станкі знаходзяцца пад паветкамі і прыводзяцца ў рух рукамі, бо машын яшчэ няма (паравую машыну паставілі толькі ў 1902 г.). Рабочыя працуюць амаль што на адкрытым паветры (пад павецямі) пры 20⁰, завінаючыся ў свае лахманы, расьціраючы рукі, якія дубелі ад холаду. Шляхам цяжкай эксплёатацыі рабочых нажываецца прадпрыемца і „рызыкуе“ будаваць новыя драўляныя будынкі. Але ня доўга яны існуюць і скора ад нейкай прычыны (вядомай больш Саламонаву) яны гараць, як часта гарэлі драўляныя будынкі і іншых барысаўскіх прадпрыемстваў (пільня Бэрмана ў Н. Барысаве—цяпер „Камінтэрн“ і інш.). Атрыманая страхоўка дае магчымасьць Саламонаву пачаць будаваць ужо двохпаверховы будынак. Скора гарыць і гэты. Ад страхоўкі яшчэ больш паўнеюць кішэні Саламонава. Цяпер ужо можна пачаць будаваць і каменныя будынкі. Але Саламонаву ўсё „не шанцуе“, ня раз яшчэ гараць будынкі; прыходзіцца ня раз атрымоўваць страхоўку, пакуль урэшце ў 1902 г. не адбудоўваюцца моцныя каменныя будынкі. Цяжкім шляхам пажараў і пэрыодычнага беспрацоўя рабочых прадпрыемства ў два дзесяткі гадоў з драўлянага паветкавага тыпу ператваралася ў вялікія двохпавярховыя каменныя будынкі.

Прадпрыемства мела тры аддзяленьні: сярніковае, фанернае і лесапільнае. Фабрыка працавала (з некаторымі перапынкамі ў часы забастовак 1905-1906 г.) праз увесь час імпэрыялістычнай вайны, нямецкай і польскай окупацый да 1920 г.[1]). У гэтым годзе фабрыка была спалена адступаўшымі белапалякамі, якія снарадамі зруйнавалі лепшыя кварталы і лепшыя будынкі гораду. У часе пажару зьнішчаны былі машыны і ўсё абсталяваньне. Да 1924 г. Барысаў ляжаў у руінах. Савецкая ўлада змагла прыступіць да адбудовы яго толькі праз 4 гады. Разбураныя і разьбітыя сьцены фабрыкі „Вікторыя“ былі скарыстаны ўжо ў 1923 г. для пабудовы там электрастанцыі[2]); у 1925 г. сюды-ж пераносіцца друкарня, наладжваецца пільня з калодачным аддзяленьнем.

## II. Рабочая сіла.

На прадпрыемствах „Комбінату“ (пільні, электрастанцыі і друкарні) у сучасны момант працуе 125 чал., з іх: 102 мужч., 18 жанчын і 5 падлеткаў. Па паасобных прадпрыемствах рабочыя разьмяркоўваюцца наступным чынам:

| Назва прадпрыемств. | Муж. | Жанч. | Падл. | Усяго |
|---|---|---|---|---|
| 1. Электрастанцыя . | 21 | — | 1 | 22 |
| 2. Пільня . . . . | 61 | 3 | 1 | 65 |
| 3. Друкарня . . . | 20 | 15 | 3 | 38 |
| Разам . . | 102 | 18 | 5 | 125 |

[1]) З матар'ялаў экскурсіі.

[2]) Электрычным сьвятлом Барысаў карыстаецца з 1918 г., да гэтага часу было толькі газавае асьвятленьне.

Рух рабочых на прадпрыемствах відаць з наступнае табліцы:

| Назва прадпрыемстваў / Катэгорыі рабочых і служачых | Пільня | | | | Электрастанцыя | | | | Друкарня | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Рабоч. | Маладняк абслуг. пэрсон. | Служ. | Усяго | Рабоч. | Маладняк абслуг. пэрсон. | Служ. | Усяго | Рабоч. | Маладняк абслуг. пэрсон. | Служ. | Усяго |
| 1924—25 г. . . . . . | 27 | 2 | 6 | 35 | — | — | — | — | 39 | 1 | 5 | 45 |
| 1925—26 г. . . . . . | 47 | 2 | 3 | 52 | 22 | 1 | 3 | 26 | 60 | 1 | 3 | 64 |
| 1926—27 г. . . . . . | 49 | 2 | 3 | 54 | 19 | — | 1 | 20 | 23 | — | 1 | 24 |
| 1927—28 г. . . . . . | 60 | 2 | 3 | 65 | 21 | — | 1 | 22 | 35 | 1 | 2 | 38 |

Як бачым, лік рабочых прогрэсыўна павялічваецца на пільні ў сувязі з пашырэньнем і разьвіцьцём працы прадпрыемства; па электрастанцыі колькасьць рабочых вагаецца ў сувязі з рознымі мерапрыемствамі: правядзеньнем рэжыму экономіі, пашырэньнем сеткі абонэнтаў і інш.; найбольш няўстоўлівы лік рабочых у друкарні. Скарачэньне рабочых на 61% у сакавіку—красавіку 1927 г. тлумачыцца крызісам поліграфічнай прамысловасьці, адсутнасьцю заказаў.

Па кваліфікацыі рабочыя падзяляюцца наступным чынам: кваліфікаваных—65 чал., некваліфікаваных—60 чал.

Па вытворчым стажы: ад 1 да 5 гад.—24 чал., ад 5—7 гад.—2 ч. і вышэй—39 чал.

Папаўненьне прадпрыемстваў ідзе выключна праз пасрэдніцкае бюро. Падрыхтоўка кваліфікаванай сілы адбываецца стажаваньнем у працы на самым прадпрыемстве. Фабзавуча няма.

### III. Зарплата.

Заработная плата рабочым выдаецца два разы ў месяц, згодна ўстаноўленым разрадам тарыфнай сеткі. Рост зарплаты характарызуецца наступнымі лічбамі:

| Назва прадпрыемств. | Месячная зарплата па 1 разраду | | | |
|---|---|---|---|---|
| | 1924 г. | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. |
| Электрастанцыя. . | 13,25 р. | 13,75 р. | 16,25 р. | 19,25 р. |
| Пільня . . . . . | 13,25 р. | 13,75 р. | 16,25 р. | 16,95 р. |
| Друкарня . . . . | — | 13,75 р. | 17,0 р. | 17,50 р. |

Месячны заробак рабочага вагаецца ад 40 да 90 р. у залежнасьці ад кваліфікацыі.

Выдаткі на зарплату (рабочым і служачым) па паасобных прадпрыемствах наступныя:

| Назва прадпр. / Год | Электраст. | Пільня | Друкарня |
|---|---|---|---|
| 1924—25 г. . . . | — | 2879 р. 25 к. (за IV кварт.) | 24600 р. 50 к. |
| 1925—26 г. . . . | 21680 р. 73 к. | 21010 р. — | 39123 р. 18 к. |
| 1926—27 г. . . . | 17813 р. — | 39371 р. 90 к. | 32130 р. — |
| 1927—28 г. I кварт. | 5207 р. — | 10254 р. — | 5691 р. — |

## IV. Маемасьць прадпрыемстваў „Комбінату“.

Каштоўнасьць аснаўное маемасьці прадпрыемстваў Комбінату характарызуецца наступнымі лічбамі:

На 1925—1926 г.

| Назва прадпрыемстваў / Розныя віды маемасьці | Электраст. | Пільня | Друкарня |
|---|---|---|---|
| Будынкі і дапаможныя будовы. . . . | 88270 р. 90 к. | 25685 р. | 38165 р. 47 к. |
| Абсталяваньне і машыны . . . . . . | 61669 „ 25 „ | 20903 „ | 37879 „ 49 „ |
| Інструмант . . . . . . . . . . . . | 261 „ 57 „ | — | 353 „ 60 „ |
| Інвэнтар . . . . . . . . . . . . . . | 157 „ 75 „ | 266 „ | 775 „ 05 „ |
| Разам . . . . . . | 150659 р. 47 к. | 46854 р. | 77173 р. 61 к. |

Комбінат атрымаў для прадпрыемстваў будынкі б. фабрыкі „Вікторыя“ напалову зруйнаванымі белапалякамі ў час іх адступленьня; абсталяваньня ніякага ня было, з прычыны чаго шмат сродкаў было затрачана на адрамантаваньне будынкаў, абсталяваньне і набыцьцё машын.

## V. Сыравіна.

Для *электрастанцыі* на паліва было вырасхадавана розных сартоў паліва ў наступнай колькасьці:

| Гады | Дровы | | Адкіды | | Усяго |
|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць у куб. мэтр. | На суму | Колькасьць у куб. мэтр. | На суму | на суму |
| 1925—26 г. . . . | 3394,54 | 11704 р. 14 к. | 1884,29 | 1707 р. 20 к. | 13411 р. 34 к. |
| 1926—27 г. . . . | 2106 | 15001 „ 86 „ | 4727,24 | 8243 „ | 23244 „ 86 „ |
| 1927—28 г. I квартал . . . | 1390,66 | 5729 „ 52 „ | 409,62 | 524 „ 31 „ | 6253 „ 83 „ |

Дровы „Комбінатам“ закупляюцца ў лясьніцтве, а адкіды (апілкі, абрэзкі і інш.) ідуць з пільні.

Для пільні патрэбны наступныя віды сыравіны: сасновыя і яловыя калодкі—бярвеньне і бярозавыя круглякі для калодачнага аддзяленьня. Лесаматар‘ял закупляецца ў лясьніцтве (па 50 кап. за куб. фут) і дастаўляецца зімой на фурманках, а ўлетку па рацэ. Захоўваецца ўлетку ў вадзе, а зімой на беразе ракі.

Расход сыравіны ў пільні характаразуецца наступнымі лічбамі (у куб. мэтр.):

| Віды сіравіны | 1924—25 г. | | 1925—26 г. | | 1926—27 г. |
|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць | Сума | Колькасьць | Сума | |
| Круглае бярвеньне | 1495,56 | 11409р. 16к. | 5623 | 113132р. | Даных |
| Картон (круглякі) . | 51,55 | 237р. 90к. | 252 | 3115р. | ня |
| Сыравіна заказчыка (бярвеньне) . | 467,34 | 4123р. 17к. | 2500,93 | — | маецца |

Для *друкарні* неабходны наступныя матар'ялы: папера розных гатункаў (для пісаньня, газэтная, для вокладак і інш.), картон, фарбы (чорныя і каляровыя), бязь, малескін і інш. Расходы сыравіны можна бачыць з наступнай табліцы:

| Віды сыравіны | 1924—25 г. | | 1925—26 г. | | 1926—27 г. | | 1927—28 г. 1 квартал | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Кольк. | Сума | Кольк. | Сума | Кольк. | Сума | Кольк. | Сума |
| Папера розных гатункаў - - - | 91,331 тон. | 55782р. 16к. | 120,45 тон. | 76318р. 31к. | 82,046т. | 49546р. 34к. | 26.57 т. | 13569р. |
| Картоп - - - - | 7591 ліст. | 2987р. 59к. | 11,12 клгр. | 4282р. 05к. | 3,1 тон. / 1254л. | 1670р. 80к. | 1,5 т. | 561р. |
| Дапаможныя матар'ялы - - - | — | 3236р. 10к. | — | 3436р. 85к. | — | 8239р. 74к. | — | 645р. |
| Мармуровая папера | 16,469 ліст. | 863р. 84к. | 31905 л. | 1658р. 64к. | 9350л. | 333р. 66к. | — | — |
| Форзасная папера | 7759 ліст. | 192р. 69к. | 31870 л. | 687р. 68к. | — | — | — | — |
| УСЯГО - - | — | 63062р. 38к. | — | 86383р. 53к. | — | 59790р. 54к. | — | 14775р. |

## VI. Энэргія.

Прадпрыемствы „Комбінату“ (пільня і друкарня) патрэбную ім для прывядзеньня ў рух станкоў і машын энэргію атрымоўваюць з электрастанцыі праз 9 электраматораў, сілай ад 7 да 1,2 конскіх сіл, і часткай непасрэдна ад паравой машыны.

*Электрастанцыя* мае 2 паравыя катлы сыстэмы „Вабкок і Вількокс“; першы з іх пабудованы ў Лёндане ў 1903 г., мае 63 кіпяцільныя трубы, даўжынёй 5490 м. м., дыямэтрам—102 м. м. кожная. Даўжыня катла 6875 м. м. роўная паверхня награваньня—1282 кв. фут; ціск—12 атмосфэр. Другі кацёл мае поўную паверхню награваньня 1756 кв. фут.; ціск—12 атм., пабудованы 1913 г. у Лёндане. Катлы апальваюцца дровамі і адкідамі з пільні. За 8 гадз. працы расход паліва (пры пераводзе на дровы) складае 1,5 куб. саж. Катлы працуюць папераменна. Пры катлох ёсьць насосы і інжэктары, якія падаюць ваду з ракі ў басэйны, дзе рачная вада награваецца апрацованай парай з паравой машыны да 45° і потым ужо гэтая нагрэтая вада праз асобны фільтр падаецца ў катлы, у якіх яна ператвараецца ў пару. Праз асобныя трубы пара паступае ў паравую двухцілындровую, васьміклапанавую машыну сыстэмы „Кампаўнд“ (1902 г.); сіла машыны—250 к. с. Паравая машына прыводзіць у рух дынама-машыну сыстэмы „Сіла“ б. „В. Э. К.“—Усеагульная Электрычная Кампанія; машына трохфазнага току (6600 вольт, 17,5 амп.); пабудована ў Харкаве ў 1924 г. Ад

дынама-машыны ток паступае ў трансформатары, якіх у Барысаве і Н.-Барысаве ёсьць 7 і адзін унутры электрастанцыі. Трансформатары паніжаюць напружаньне току з 6600 да 220 вольт.

## VII. Процэс вытворчасьці ў пільні.

З ракі па асобным канале (каля 0,25 клм. даўжынёй) бярвеньне падганяецца да пільні, адкуль бясконцым ланцугом падаецца на




Генэратар электрастанцыі.

другі паверх да лесапільных рам, якіх на заводзе маецца 2 (сыст. Гофмана). Рамы расьпілоўваюць бярвеньне на дошкі рознай таўшчыні ў залежнасьці ад устаноўкі піл у рамах. У рамы бярвеньне падаецца на асобых ваганэтках, якія сьціскаюць бервяно і надаюць яму патрэбнае паземнае палажэньне.

На заводзе ёсьць: 1) 2 цыркулярныя станкі (па 2 пілы кожны), дзе дошкі разразаюцца на меншая часткі і падрыхтоўваецца скрыначны матар'ял; 2) адна канцарэзка для абрэзваньня канцоў і разрэзкі аполкаў на часткі; 3) адна лінейная піла для прадоўжнай абрэзкі бакоў дасок; 4) 3 адзіночныя рэечныя цыркуляркі, на якіх абрэзваюцца рэйкі; 5) 2 канцарэзкі для падрыхтоўкі дошчак для скрынак і 6) адзін станок для абрэзкі дошак.

Кожная з лесапільных рам прапускае ў суткі (8 гадз.) 1600—1700 куб. фут. матар'ялу, прычым прапускная здольнасьць рамы можа павялічвацца (да 2000 куб. фут.) пры рэзцы тоўстага бярвеньня і памяншацца (да 1200 куб. фут.) пры рэзцы тонкага бярвеньня.

Дошкі розных памераў выносяцца рабочымі на двор, адвозяцца на фурманках і складаюцца ў паверхі на дварэ.

Абрэзкі і апілкі ідуць на апальваньне паравых катлоў, што дае значную экономію ў паліве. Апрацованы лесаматар'ял пільня збывае на Украіну (70%) і на мясцовы рынак 30%.

Умовы працы на пільні досыць цяжкія: зімой холадна, маюцца скразьнякі.

*Капыльнае аддзяленьне.* Бярозавыя бярвеньні на беразе ракі рэжуцца на кругляkі, якія падвозяцца да аддзяленьня і тут з іх рабочыя капіравальнага станка падрыхтоўваюць „балванкі". „Балванка" потым устаўляецца рабочым у капіравальны станок, у якім „балванка" асобным нажом абрабляецца ў „калодку" (паўфабрыкат). У аддзяленьні ёсьць 2 такія станкі, якія працуюць у 2 зьмены. За 8 гадз. кожны станок вырабляе 50—55 пар „калодак". Ад капіравальных станкоў „калодкі" паступаюць у сушыльню на 3—4 дні. Калодкі сушацца на асобных сетках парай, якая па трубах падаецца з паравога катла. Высушаныя калодкі ідуць у лентачны станок, дзе спачатку прасьвердліваюцца 2 дзіркі: на гэсцы і на задніку, а потым вырэзваецца гэста і абразаюцца непатрэбныя часткі колодкі (ад наска і пяткі). Далей асобным нажом колодкі абстругоўваюць, і рашпілем у асобных цісках „задзелваюць", г. зн., больш дэтальна згладжваюць усе няроўнасьці непатрэбныя выступы, пасьля чаго на калодках ставяцца нумары (для паказаньня памеру калодкі). Урэшце калодкі праходзяць сыстэму шліфовачных станкоў з валікамі, пакрытымі наждачным пяском (наклееным пры дапамозе сталярскага клею). На гэтых станках калодкі канчаткова апрацоўваюцца, шліфуюцца.

*Процэс вытворчасьці ў друкарні.*

Друкарня мае 20 рэалаў з 50 наборнымі касамі і 7 плоскіх друкарскіх машын: 1 чатырохлістовага, 5 двухлістовага і 1 поўальбомнага памеру. Лік наборшчыкаў ня сталы. У друкарні друкуюцца: блянкі, чэкавыя кніжкі, канцэлярскія кнігі, ведамасьці, афішы, фактуры і інш.; брошуры друкуюцца вельмі рэдка з прычыны адсутнасьці заказаў. Друкарня выпаўняе мясцовыя заказы, заказы з Менску і Масквы.

У друкарні маецца пераплётна-брошуравальнае аддзяленьне. Большая частка пераплётных работ выконваецца ручным спосабам з прычыны адсутнасьці належных машын.

## VIII. Продукцыя вытворчасьці.

Продукцыя вырабу кожнага прадпрыемства характарызуецца наступнымі табліцамі.

*Па электрастанцыі:*

Прадана энэргіі абонэнтам на суму:

| За які час | Асьвятленьне памяшканьняў | | | Асьвятленьне вуліц | | | Прамыслов. маторы | | | Усяго | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Kw. гадз. | Сума | | Kw. гадз. | Сума | | Kw. гадз. | Сума | | Kw. гадз. | Сума | |
| 1925-26 г. | — | — | — | — | — | — | — | — | — | 237983,93 | 54659 | 83 |
| 1926-27 г. | 225073,6 | 52391 | 03 | 17754,8 | 7102 | 52 | 16124 | 1612 | 40 | 258952,4 | 61105 | 95 |
| 1927-28 г. (I кварт.) | 63082 | 14914 | — | 6252 | 2501 | — | 4608 | 462 | — | 73942 | 17877 | — |

Наогул-жа здабыча і расход электрычнай энэргіі за 1925-26 г. былі наступныя: здабыта 260434,5 кілёуат-гадзін, расходавана на ўласныя патрэбы—9705,2 кілёуат-гадз.; страты ў сетцы—12745,37 кілёуат-гадз. і 237983,93 кілёуат-гадз. прадана абонэнтам.

Павялічэньне ўстановак ішло наступным чынам:

| Гады | Лік абонэнтаў | Лямпачак | | Электраматор. | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | Лік | Kw. | Лік | Kw. |
| 1925-26 г. . . . | — | 4550 | 121.2 | 2 | 4,4 |
| 1927 г. (студзень) | 1475 | 4575 | 106,64 | 3 | 7,36 |
| 1928 г. (студзень) | 1588 | 4621 | 119,3 | 2 | 3,7 |

З прычыны паношанасьці машын бываюць досыць частыя спынкі і перабоі ў падачы сьвету. За 1926-27 год электрастанцыя дала прыбытку 1500 руб.

Продукцыя выврабу пільні:

| Час | Пілавы матар'ял | | | Адыходы | | | Калодкі (для ботаў) | | | Усяго на суму | | Увага |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасьць у куб. мэтр. | На суму | | Колькасьць у куб. мэтр. | На суму | | Кольк. пар. | На суму | | | | |
| 1925-26 г. | 3895,4 | 156688 | 07 | 1884,32 | 1707 | 20 | — | — | — | 170554 | 27 | Назоўнікам паказаны заказы з чужога матар'ялу |
| | 1500,55 | 12159 | — | | | | | | | | | |
| 1926-27 г. | 7703,25 | 293429 | 05 | 5343,78 | 7545 | 95 | 18652 | 9794 | 50 | 310769 | 50 | |
| 1927-28 г. (Іквартал) | 1605 | 27153 | — | 1150,29 | 1415 | — | 7223 | 4334 | — | 32802 | — | |

Вытворчы плян у 1926-27 годзе пільня выканала на 82%. З прычыны невыкананьня пляну, паніжэньня прадажнай каштоўнасьці лесаматар'ялу з 1 р. 30 к. да 1 р. 11 к. (у сувязі з пастановай Наркамгандлю) і некаторых страт ад вялікіх паводак улетку мінулага году пільня мае дэфіцыт у суме 11.500 руб.

У вытворчасьці калодачнага аддзяленьня адбыўся крызіс з прычыны загатоўкі неадпаведнага запатрабаваньням рынку фабрыкату (калодак), тэхнічнай непадрыхтаванасьці работнікаў і адсутнасьці забясьпечанасьці цьвёрдымі заказамі. У сучасны момант аддзяленьне перайшло на працу ў адну зьмену і на сыстэму цьвёрдых заказаў, запрасіла спэцыялістага.

Продукцыя выврабу *друкарні.*

Друкарня выканала розных работ у 1924-25 г. на суму 58500 р. 05 к. у 1925-26 г. на суму 63,774 руб., а ў 1926-27 г. на 35,624 руб. 63 кап.

З прычыны крызісу паліграфічнай прамысловасьці і немагчымасьці рэалізаваць усю магчымую продукцыю вытворчасьці друкарні,

на працягу году штат друкарні быў скарочаны больш чым на 60%. Дэфіцытнасьць друкарні за 1926-27 г. выявілася ў суме 15,000 руб. Мясцовых заказаў для друкарні не хапае, і яна бярэ заказы з Менску і Масквы.

### IX. Умовы працы і ахова здароўя рабочых.

Да 1905 г. ўмовы працы на фабрыцы „Вікторыя“ былі надзвычайна цяжкія; рабочыя эксплёатаваліся, наколькі магчыма было, бо трэба-ж было Саламонаву пашыраць вытворчасьць ды жыць у раскошы. Мы ўжо ведаем, што ў першыя часы фабрычныя будынкі былі вельмі дрэнныя, халодныя, і рабочым прыходзілася працаваць пры тэмпэратуры надвор'я. Да рэволюцыі 1905 г. рабочыя працавалі па 12,5—14 гадзін, пасьля рэволюцыі і некалькіх забастовак рабочы дзень паменшыўся да 10 гадзін, за што сталы рабочы атрымліваў 50 кап. На фабрыцы, як сьведчаць старыя рабочыя, каля паловы ўсіх рабочых складалі падлеткі і дзеці, якія працавалі нараўне з дарослымі і часта да таго стамляліся, што засыпалі ў прыбіральнях альбо ля станкоў у часе самае працы. Атрымоўвалі яны ў дзень 10—15 кап. Шырака практыкавалася сыстэма штрафаў за розныя самыя нязначныя праступкі

У сучасны момант усе рабочыя на прадпрыемствах „Комбінату“ працуюць па 8 гадзін (з 7 да 16 гадзін з гадзінным перапынкам на абед). Умовы працы яшчэ нельга назваць здавальняючымі: на пільні маюцца скразьнякі і зімой досыць холадна. У мэтах аховы рабочых ад розных няшчасных выпадкаў праведзены шэраг мерапрыемстваў.

Усім рабочым даецца спэцвопратка, так, напрыклад, рабочым на пільні выдаюцца валенкі, брэзэнтавыя касьцюмы і рукавіцы; электраманцёрам на электрастанцыі—кажух, рэзінавыя галёшы і рукавіцы; рабочым у друкарні—халаты і г. д. На пільні рабочыя больш усяго хварэюць на прастуду, а ў друкарні профэсыянальнай хваробай наборшчыкаў зьяўляецца атручваньне цынаю. Рабочым, умовы працы якіх зьяўляюцца найбольш шкадлівымі, даецца павялічаны водпуск.

Рабочыя карыстаюцца гарадзкой амбуляторыяй.

### X. Умовы жыцьця рабочых і прадпрыемцы.

Умовы жыцьця рабочых паляпшаюцца з кожным годам, аб чым гаворыць нам і рост зарплаты. Адначасна з павялічэньнем зарплаты паляпшаюцца і кватэрныя ўмовы. За апошнія два гады для рабочых праз жыльлёвую коопэрацыю пабудована чатыры новых дамы па 4 кватэры ў кожным. Паводле даных завкому 70% усіх рабочых (ня маючых уласных кватэр) забясьпечаны досыць добрымі кватэрамі. Для асьвятленьня кватэр рабочых электрастанцыі адпускаецца бясплатна электрычная энэргія.

Куды ў горшых умовах жылі рабочыя ў дарэволюцыйныя часы і асабліва да 1905 г. пры нізкай зарабатнай плаце (50 кап. для дарослых), сыстэме штрафаў, адсутнасьці аховы здароўя, бясплатнай дапамогі. Кватэрныя ўмовы былі таксама дрэнныя: жылі ў цесных, цёмных і брудных кватэрах; значная частка рабочых наймалі „куткі“, за якія плацілі каля 5 р. у месяц. У часы перапынкаў у працы фабрыкі рабочыя мусілі шукаць сабе хлеба дзе і як хто мог.

Аб культурных запатрабаваньнях рабочых ніхто і ня думаў. Праўнае палажэньне рабочых было дрэннае. Адзін рабочы ўспамінае: „За тое, што я закурыў папіросу ля станка і не зьвярнуў увагу на прыказчыка, ён даў мне па „мордзе“.

Затое ў вялікаў раскошы жыў Саламонаў, які, апрача фабрыкі „Вікторыя“, меў, як кажуць рабочыя, сярніковую фабрыку і друкарню



Адбудова былой фабрыкі „Вікторыя“ ў 1923 г.

ў Мазыры, два дамы ў Менску і два ў Барысаве [1]). Рабочыя ўспамінаюць, што Саламонаў меў шэсьць рысакоў і аўтомобіль, які дзівіў усе насельніцтва жыхароў Барысава, трымаў сем сабак па 150 руб. кожны. На „дачы“ часта адбываліся балі, на якія прыяжджалі госьці з Менску. На летні час на дачу Саламонава прыяжджаў менскі віцэ-губарнатар з сям'ёю. Дзеля сваёй пацехі сын віцэ-губарнатара з падлеткаў прыгараднай вёскі „Дымкі“ набіраў „пацешных“ ды займаўся з імі „военным строем“.

## XI. Рэволюцыйныя моманты.

На фабрыцы „Вікторыя“ рабочы рух выяўляўся ўжо да 1905 г. У мясцовую організацыю РСДРП, якая ў Барысаве зарадзілася ў пачатку 1904 г., уваходзяць і рабочая фабрыкі „Вікторыя“, прычым партыйная праца мясцовай організацыі яшчэ да кастрычніка 1905 г. адзначаецца сваёй інтэнсыўнасьцю“ (1905 г. на Беларусі. Менск, 1925 г.). Так, напр., ужо 16 студзеня 1905 г. на фабрыцы „Вікторыя“, таксама і на іншых прадпрыемствах адбываецца забастоўка; каля фабрыкі

[1]) Цяпер у адным з гэтых дамоў у Дымкох знаходзіцца 5 школа-сямігодка.

„Вікторыя“ адбываецца сход рабочых у колькасьці каля 200 чал.[1]). На прапанову павятовага спраўніка разыйсьціся і распачаць працу—з радоў рабочых пачуліся крыкі: „далоў самаўладзтва“. 17 студзеня рабочыя зноў зьбіраюцца каля фабрыкі „Вікторыя“, куды прыбывае і невялікі нарад паліцыі, якая і разганяе рабочых. На месцы сходу паліцыяй былі знойдзены раскіданыя проклямацыі „ко всем Борисовским рабочим и работницам“. У гэтых проклямацыях рабочыя прызываліся да скасаваньня існаваўшага дзяржаўнага ладу. Такім чынам бачым, што цэнтрам рабочага руху ў Барысаве зьяўлялася фабр. „Вікторыя“, дзе працавала мясцовая організацыя „Бунду“, якая мела цесную сувязь з Менскай організацыяй. 8 сакавіка „Бунд“ наладжвае дэмонстрацыю па Менскай вул. з чырвонымі і чорнымі сьцягамі, але дэмонстрацыя скора разганяецца паліцыяй. Мэта выступленьня вызначаецца заключнымі словамі гэктографаваных проклямацый, якія пашыраліся дэмонстрантамі і былі знойдзены паліцыяй. У проклямацыях гаварылася: „Потребуем немедленного прекращения войны (японской—С.), демократической республики, при которой нам легче будет бороться за нашу конечную цель—за социализм. На борьбу, товарищи, долой самодержавие! Да здравствует демократическая республика! Да здравствует социализм!“

7 мая 1905 г. Менскі губарнатар паведамляе Дэпартамант Паліцыі (адносіна № 3693), што 25 красавіка а 7 гадзіне раніцы „забастовали рабочие спичечной фабрики „Виктория“, расположенной в пасаде Ново-Борисов (фабрыка знаходзілася ў Барысаве—С.), принадлежащей купцу Соломонову, пред‘явив к последнему требования экономического характера, но, вследствие состоявшегося между владельцем и рабочими обоюдного соглашения, последние вновь приступили к работам“. На вуліцы былі знойдзены раскіданыя проклямацыі: „к товарищам рабочим фабрики Соломонова“. Былі зроблены вобыскі, прычым арыштаваны быў рабочы Абрам Баршай, у якога знойдзена была проклямацыя.

Організавана рабочыя фабрыкі „Вікторыя“ прымаюць актыўны ўдзел у організацыі і правядзеньні ў Барысаве маніфэстацыі протэсту 26-Х 1905 г. з прычыны выдачы маніфэсту 17 кастрычніка.

Паліцыя разагнала маніфэстантаў ужо вечарам (Паведамленьне Менскага губарнатара Дэпарт. Паліцыі ад 26/Х-1905 г. за № 10266).

Працуючыя ў сучасны момант рабочыя, якія працавалі і ў 1905 г., сьведчаць, што ў маніфэстацыях і забастоўках прымалі ўдзел амаль што ўсе рабочыя, а ўсім гэтым кіравала „бундаўская“ організацыя. Іншых організацый на фабрыцы ня было[2]).

Некаторыя з рабочых, удзельнікаў забастовак, засталіся на працы і да гэтага часу: Махлін, Палубінскі, Маклак, Баркан, Бугаёнак; іншыя з рабочых перайшлі (пасьля пажару фабрыкі „Вікторыя“) на сярніковую фабрыку „Чырвоная Бярэзіна“.

## XII. Організацыя рабочых.

Нацыянальны склад рабочых на прадпрыемствах „Комбінату“ ў час абсьледваньня быў наступны:

---

[1]) З данясеньня Менск. Губ. Жанд. Ўпр. ад 22 студз. 1905 г. № 513 у Дэпартам. Паліцыі.

[2]) Больш падрабязна аб рабочым руху: 1) „1905 г. у Беларусі“, зборнік арх. да кум. Менск. 1925 г.; 2) у час. „Наш Край“ № 2 1927 г. арт. В. Самцэвіча „Барысаў“ (Рабочы рух. Барысаў у 1905 г.).

| Нацыянальн. | Электраст. | Пільня і капыльн. аддз. | Друкарня | Усяго | % |
|---|---|---|---|---|---|
| Беларусаў . . . . . . | 13 | 39 | — | 52 | 41,6⁰/₀ |
| Яўрэяў . . . . . . | 7 | 25 | 37 | 69 | 55,2⁰/₀ |
| Палякаў . . . . . . | — | 1 | 1 | 2 | 1.6⁰/₀ |
| Немцаў . . . . . . | 1 | — | — | 1 | 0,8⁰/₀ |
| Літоўцаў . . . . . . | 1 | — | — | 1 | 0,8⁰/₀ |
| Разам. . . | 22 | 65 | 38 | 125 | 100⁰/₀ |

Па партыйнасьці рабочыя падзяляюцца: сяброў і кандыдатаў КПБ—32 ч. (28 мужчын і 4 жанчыны), сяброў і кандыдатаў ЛКСМБ—




Агульны выгляд адбудаваных прадпрыемстваў і склад лясного матар'ялу.

42 чал. (24 мужчыны і 18 жанчын); рэшта 40,8%) беспартыйныя. Сябрамі саюзаў—113 чал.

Рабочыя паасобных прадпрыемстваў Комбінату ўваходзяць у розныя саюзы: рабочыя электрастанцыі—у саюз мэталістых, рабочыя пільні—у саюз дрэваапрацоўнікаў, рабочыя друкарні—у саюз друкароў.

Завком кожнай саюзнай арганізацыі клапоціцца аб палепшаньні ўмоў працы рабочых сваёй арганізацыі; абараняе інтарэсы рабочых, прымае ўдзел у вырашэньні вытворчых пытаньняў.

Пытаньні вытворчага характару падрыхтоўваюцца ў вытворча-тэхнічнай камісіі і абгаварваюцца на вытворчых нарадах. Пытаньняў рацыяналізацыі працы разгледжана мала. Р.К.К. разабрала шэсьць конфліктаў паміж адміністрацыяй і рабочымі.

Грамадзкімі арганізацыямі зьяўляецца ячэйка: „МОПР“, ТД Авіяхэму і шэфскае т-ва. Найлепш працуе арганізацыя МОПР'у; арганізацыя ТДАвіяхэму, у якую ўваходзіць 76 чал., утварылася нядаўна і працы належным чынам не разгарнула. Шэфская сувяз рабочых з вёскай В.-Негнавічы выяўляецца ў пасылцы літаратуры ў чырвоны куток, пастаноўцы дакладаў.

## XIII. Культасьветная праца.

Культасьветная праца сярод рабочых прадпрыемстаў праводзіцца культкамісіяй, у склад якой уваходзяць прадстаўнікі ўсіх 3-х саюзаў. Рабочыя маюць адзін агульны клюб, чытальню і бібліотэку, у якой налічваюцца каля 600 кніг; пераважная большасьць кніг на расійскай мове, частка на яўрэйскай, а на беларускай мове кніг зусім няма. Чытаецца галоўным чынам белетрыстыка. Чытачоў налічваецца 80 чал. Выпускаецца насьценная газэта, у якой высьвятляюцца пытаньні вытворчай і культурнай працы, узаемаадносін рабочых і адміністрацыі. Рабочымі выпісваюцца газэты: „Правда“ „Рабочая газета“, „Рабочий“ і інш., усяго каля 90 экз; беларускія газэты ня выпісваюцца. У клюбе ёсьць часопісі: „Огонёк“, „Крокодил“.

Пры клюбе працуюць гурткі: палітычны і стралковы. Маецца лікпункт, дзе навучаецца 7 чалавек. Перад культкамісіяй стаіць задача пашырыць і паглыбіць працу гурткоў.

## XIV. Барацьба за новы быт.

Культурныя навыкі і элемэнты новага быту прышчэпліваюцца вельмі паступова; найбольш адсталай групай зьяўляюцца рабочыя пільні, больш перадавой—рабочыя друкарні. На пільні найчасьцей сустракаюцца выпадкі лаянкі, некаторыя з рабочых зьяўляюццца часамі падвыпіўшымі. З такімі праявамі вядуць барацьбу саюзныя і партыйныя арганізацыі. Рэлігійныя забабоны трымаюцца яшчэ ў значнай часткі рабочых. У хатах некаторых рабочых можна сустрэць яшчэ абразы. Сямейныя адносіны ў многім застаюцца старымі; спрэчкі з жонкамі, хатнія сваркі. Адносіны рабочых паміж сабой досыць добрыя. Сьвядомасьць рабочых павялічваецца з кожным годам. Уплыў партыі і комсамолу расьце. Рабочыя імкнуцца ўступаць у партыю, і ка дню сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай рэволюцыі 10 рабочых падалі заявы і ўступілі ў партыю. Барацьба за новы быт у значнай меры вядзецца і праз насьценную газэту.

## XV. Пэрспэктывы „Комбінату“.

Кіраўніцтва „Комбінату“ мае намер у бягучым годзе зрабіць на пільні ўстаноўку абрэзнай цыркуляркі з маторам на суму 1300 руб., зрабіць замену матораў сталага току маторамі пераменнага, што

будзе каштаваць каля 1500 р. Намечана таксама правядзеньне вузкакалейкі па складу пільні (на суму 2500 р.) і зрабіць рамонт канавы для падгонкі лесаматар'ялаў (500 р.). Правядзеньне вызначаных мерапрыемстваў будзе каштаваць 5800 р. Таксама ёсьць на ўвазе перанесьці электрастанцыю да фабрыкі „Чырвоная Бярэзіна“, капітальны рамонт машын, пабудова неабходных будынкаў і набыцьцё абсталяваньня, на што патрэбна будзе затраціць каля 90935 р. Пасьля пераносу і пераабсталяваньня электрастанцыя зможа абслугоўваць прамысловыя прадпрыемствы Н.-Барысава і даваць патрэбную электрычную энэргію для асьвятленьня жылых памяшканьняў.

---

І. Г. Мірскі.

# Матар'ялы да вывучэньня рабочага і сялянскага руху на Магілеўшчыне ў пэрыод 1903—1910 гадоў.

## I.

Моцныя хвалі рэволюцыйнага руху пачатку 900 гадоў, чвэрць стагодзьдзя таму назад, залілі і мала прамысловую, але аграрна перанаселеную б. Магілеўскую губэрню, гэты вялікі раён з 11 паветамі, якія мяжуюць з Меншчынай, Чарнігаўшчынай і Смаленшчынай.

Паміж іншым, адзначыўшы Магілеўшчыну, як краіну малапрамысловую, мы павінны зрабіць выключэньне для трох пунктаў з досыць значным пролетарскім складам: Шклоў з дзьвюма вялікімі фабрыкамі (папяровая і сярніковай саломкі), Копысь з яе сеткай кахляных заводаў, млыноў і іншых прадпрыемстваў, на якіх у пачатку 900 гадоў працавала агулам каля 1500 чалавек, і Гомельшчыну (сетка фабрык і заводаў у самым Гомлі і папяровая фабрыка ў б. маёнтку кн. Паскевіча).

Гэтая заўвага вельмі важная, бо Копысь, напрыклад, займае віднае месца ў гісторыі рабочага руху на Магілеўшчыне. Там „гасьцяваў“ вядомы кат Прыбалтыцкага краю, спадручнік Мэльлер-Закамельскага, генэрал Арлоў са сваім карным войскам; Копыскія рабочыя ў значнай меры дапамагалі ліквідацыі пагрому ў Воршы ў 1905 г. і ўрэшце ў рабочым соцыял-дэмократычным друку („Искра“ і інш. выданьні), таксама ў мясцовым друку, мы знаходзім шмат каштоўных матар'ялаў, якія высьвятляюць якраз гэты раён у форме артыкулаў, корэспондэнцый, дробных нататак і інш. У Копысі, між іншым, яшчэ ў 1902 г. была заснавана моцная профорганізацыя—„Саюз рабочых кахлянай вытворчасьці“, прычым перадавыя копыскія рабочыя часта выступалі ў ролі кіраўнікоў забастовачнага руху ў суседнім Шклове.

## II.

Такім чынам, рэволюцыйны рух на Магілеўшчыне яшчэ ў пачатку 900 гадоў ахапіў і ціхую, цёмную беларускую вёску, і гарадзкі пролетарыят—рабочых фабрык і заводаў, і, адным часам (1905 г.), нават дробнае чыноўніцтва (працаўнікоў многіх канцэлярый Магілеўскага Акружнога Суду і інш.

Кішчыцкая справа (б. Чавускі павет), з удзелам аб'яднанай вайсковай і поліцэйскай сілы дала ў выніку да 10 забітых і некалькі дзесяткаў параненых.

Гучная справа Кадзінскіх сялян (Кадзіна Мсьціслаўскага пав.), якія наладзілі шматлюдны мітынг з прычыны разгону 1-ае Дзяржаўнае Думы і вытрымалі запраўдную бойку з поліцыянтамі, прычым было забіта два паліцыянты і некалькі сялян.

Вялікія непарадкі ў маёнтку абшарніка—магната Чачкова (Горацкі павет).

Справа Язерскай, Брыльёна (замах на Магілеўскага губарнатара Клінгэнбэрга); два замахі на поліцмайстра Радзіёнава.

Забастоўкі сельска-гаспадарчых рабочых у Быхаўскім павеце.

Справа аб „Сялянскай рэспубліцы“ (у Клімавіцкім павеце, у сьнежні 1905 г.; на чале руху былі маладыя шахцёры, што прыехалі з Дону на бацькаўшчыну), якая існавала роўна 5 дзён, покуль прыслалі з Магілева карную экспэдыцыю на чале з губарнатарам Гагманам; экспэдыцыю потым узмацнілі эскадронамі драгун, выкліканых з Барысава.

Эпоха тэрору на Магілеўшчыне. Напады на панскія маёнткі (у большасьці пад кіраўніцтвам анархістаў).

Справа гомельскіх тэрорыстых, якая разглядалася ў Магілеве ў сакавіку 1907 г. на сэсіі Кіеўскай Судовай Палаты.

Урэшце, праца на працягу больш году на тэрыторыі Гомельшчыны (з вясны 1908 па травень 1909 г.) „шайкі атамана Савіцкага“, які змог трымацца так доўга, дзякуючы шырокаму спачуваньню ўсяго сялянства.

Усё гэта—этапы рабочага і сялянскага руху. Іх фінал—вялікія процэсы ў выязных сэсіях Віленскага Вайсковага Суду, Кіеўскай Судовай Палаты, у Магілеўскім Акружным Судзе.

Іх фінал—катарга, арыштанскія роты, турма, ссылка ў Сібір, у далёкі Паўночны Край, дзе, як у Дантаўскім пекле, „сонца ня грэе і гукі маўчаць“.

Іх фінал—кара сьмерцю, якая часта адбывалася на двары Магілеўскай Губэрскай Турмы (скараньне двох маладых сялян за напад на панскі маёнтак у 1908 г.; скараньне маладога хлопца анархіста Шэйніна, засуджанага Вайсковым Акруговым Судом за ўдзел у нападзе на вайсковы канвой, які вёў партыю арыштантаў па шляху Магілеў—Орша вясною 1910 г.; скараньне маладога селяніна Падгайскага за напад на панскі маёнтак і забойства папа; селянін Падгайскі скараны згодна прыгавору Вайсковага Акружнога Суду ў траўні 1910 г.).

III.

Нельга пералічыць усе гэтыя шматлікія „крестьянские процессы“, якія праходзілі ў Магілеве, як губэрскім цэнтры, у пэрыод з 1906—1910 г.

У дні разгляданьня гэтых спраў заля Акруговага Суду, дзе засядала Сэсія Кіеўскай Судовай Палаты, альбо памяшканьне Вайсковага Клюбу, казармы і інш., дзе засядала Сэсія Вайсковага Акруговага Суду, былі поўны-перапоўнены сялянамі.

Сяляне—падсудныя; сяляне - сьведкі; сяляне—публіка; сяляне—сваякі і прыяцелі падсудных. Яны з трывогаю і вялікім страхам сачылі за ўсімі дэталямі процэсу, бязупынна марматалі малітвы і хрысьціліся

на абразы, што красаваліся ў кутох. Адным словам, гэта была ўся вёска, якую захапіла рэволюцыйная хваля.

Багаты матар'ял вялікай гістарычнай вартасьці могуць даць нам і докумэнты, якія асьвятляюць рабочы рух на Магілеўшчыне за той самы пэрыод 1903—1908 г., мясцовыя і краёвыя газэты за гэтыя гады, дзе зьмешчаны справаздачы аба ўсіх выдатных процэсах, і інш.

Мы знаходзім тут запраўдную Зубатаўшчыну, якую спрабавала насадзіць у Магілеве губэрская адміністрацыя, а ў Копысі—верхаводы фабрычнай інспэктуры, каб накіраваць непарадкі на пажаданы шлях, прычым на гэтую вуду папалася большасьць рабочых г. Копыся.

Мы знаходзім тут і водгукі соцыял-дэмократычных і эсэраўскіх організацый Магілеўшчыны на розныя моманты няўдалай для Расіі руска-японскаи вайны 1904—1905 г. і каштоўны матар'ял па разьвіцьці профруху на Магілеўшчыне.

Ёсьць таксама вялікі матар'ял, які высьвятляе працу эсэраўскай організацыі ў Рагачэўскім павеце (раён м. Кармы), але мы спачатку спынімся на сялянскім руху эпохі 1905—1906 гг., паколькі гэты рух выявіўся ў некалькіх эпізодах вялікага гістарычнага значэньня.

## 1905 год.

Сакавік месяц 1906 г., цёплая, раньняя вясна. Сэсія Кіеўскай Судовай Палаты, якая без перапынку ўжо пасядае ў Магілеве два тыдні, ліквідуе рэволюцыйны рух 1905 г.—разглядае шэраг політычных спраў. Іх многа, вельмі многа. Палата працуе пры ўдзеле так званых „сословных представителей“ („предводитель дворянства“, гарадзкі галава і, як статысты, валасны старшыня—„прадстаўнік сялянства“) і разглядае цэлую сэрыю спраў тэрорыстых-эсэраў.

Справа жонкі тварыша Магілеўскага Гарадзкога Галавы Лідзіі Паўлаўны Язерскай (страляла ў Магілеўскага губарнатара Клінгэнбэрга, сур'ёзна параніла яго; прысуджана на 8 гадоў катаргі).

Справа рабочага Брыльёна (кінуў бомбу ў таго самага губарнатара, але яна не разарвалася і замах, такім чынам, ня ўдаўся. Прысудзілі Брыльёна, як і Язерскую, на 8 гадоў катаргі.

Справа рабочага Гіцалева (замах на Магілеўскага поліцмэйстра Радзіёнава, таксама засудзілі на катаргу).

Справа малалетняга Ёффэ, якога абвінавачвалі ў намеры забіць гарадавога, цэлы шэраг спраў аб узброеным супраціўленьні поліцыі пры вобысках і разгонах мітынгаў.

Вельмі выдатны процэс, з удзелам лепшых сталічных адвокатаў, аб пагроме ў г. Магілеве ў кастрычніку месяцы 1904 г. у часе мобілізацыі запасных.

Вось прыблізны пералік тых спраў, якія разглядала ў Магілеве Кіеўская Судовая Палата вясною 1906 г. якраз перад склінканьнем Першай Дзяржаўнай Думы.

Заслухаўшы політычныя справы і прысудзіўшы вялікі лік людзей на катаргу, Палата перайшла да разгляду аграрных спраў.

Сярод гэтых апошніх найбольшую ўвагу заслугоўвае справа сялян С. Кішчыц Чэрнеўскай вол. Чувускага павету аб самавольным захопе зямлі ў пана—уласьніка маёнтка Сасноўкі.

Гэтая справа ў офіцыяльным абвінаваўчым акце высьвятляецца так: „Крестьяне села Кищицы, Черневской волости, Чаусского уезда неоднократно делали попытки захватить силой спорные земли, приле-

гавшие к им. Сосновка. Чтобы раз навсегда положить конец этим притязаниям крестьян и точно разграничить все участки спорной земли владелец имения вызвал непременного членана Губернского Присутствия Каханова и уездного землемера для установки межевых знаков между его, помещика, землей и землею крестьянского Общества с. Кищицы. На место работы явилось все решительно население села во главе с сельским старостой. Явились также все женщины, многие из них с грудными детьми на руках. Вскоре образовалась громадная толпа, препятствовавшая всячески работе землемера и установлению межевых знаков. Никакие уговоры, попытки раз‘яснения сущности и необходимости предпринятой работы и ее важности для обеих сторон не помогли, после чего исправник дал распоряжение конным урядникам оттеснить толпу от места работы, но толпа сомкнулась плотной массой, и попытки конной полиции оттеснить ее ни к чему не привели, а еще более озлобили крестьян. Тогда из вызванной для помощи гражданским властям воинской части командиром последней выделен был небольшой отряд в несколько человек для того, чтобы разогнать толпу прикладами. После последовавшего затем сигнала о том, что в ход будет пущено, в случае дальнейшего сопротивления, огнестрельное оружие, толпа ринулась была прочь, направляясь к деревне, но вскоре, кем-то падбадриваемая, вернулась вновь. Крестьяне и крестьянки, даже дети вооружились камнями, палками, и когда затем, после дальнейших попыток уговорить крестьян разойтись и не мешать работе, на толпу двигнуты были конные урядники, сотские, десятские и др. из ближайших селений Горецкого и Чаусского уездов, в чинов полиции полетели камни и палки, им стали наносить побои. Несколько урядников и становых приставов получили серьезные поранения, причем в особенности пострадали сильно Копысский фабричный урядник и др., которым проломили головы. После этого, вследствие выяснившейся полной невозможности прекратить бунт полицейскими силами, власть была передана командиру роты Кадниковского полка, который, после вторичных попыток разогнать толпу прикладами и после того, как в солдат полетели также камни и палки, отдал приказ об открытии действий огнестрельным оружием. В результате нескольких ружейных залпов, произведенных в толпу, на месте осталось 8 убитых. Ранено при этом 18 человек, из них многие тяжело. После этого толпа разбежалась, и работа по размежеванию продолжалась...“

Такім чынам, 8 забітых, 18 параненых і ў дадатак паўтары дзесяткі чалавек на лаўцы падсудных, абвінавачаных „в руководстве дйствиями толпы, в падстрекательстве к беспорядкам, к насильственному захвату помещичьей земли и к оказанию вооруженного сопротивления действиям гражданских и военных властей...“

Ня лёгкай была барацьба сялянства Магілеўшчыны за зямлю і волю ў 1905 г.!

## На парозе 1906 г.

У сярэдзіне студзеня 1906 г. раніцою магілеўцы былі сьведкамі такога малюнку.

Па Дняпроўскім проспэкце, у кірунку да турмы, цягнуліся фурманкі, на якіх ляжалі зьнявечаныя сяляне. Усьлед за гэтым „кортежем“ ішоў вялікі „этап“ і блішчэлі голыя шаблі вялікага ліку канвойных. Гэта ў турму накіроўвалі ўдзельнікаў „аграрных беспорядков“,

якія выявіліся ў разгроме панскіх сядзіб у Чэрыкаўскім і Клімавіцкім паветах у канцы сьнежня 1905 г.

Туды выяжджаў для заспакаеньня і пакараньня вінаватых толькі што прызначаны Магілеўскі губарнатар Гагман, прычым, „по обстоятельствам дела и в виду неслыханно громадных размеров, которые приняли беспорядки в Чериковском и Климовическом уездах“, начальнік губэрні вымушаны быў апрача вайсковай часткі і атраду паліцыянтаў, якія былі з ім, выклікаць яшчэ з Барысава два эскадроны драгун. Аб выніках гэтага заспакаеньня, якое патрабавала такую вялікую вайсковую сілу, красамоўна гаварылі, бяз слоў, гэтыя самыя кучы зьнявечаных сялян, што ляжалі на падводах, і гэты „этап“, які рушыў усьлед за санямі і быў абкружаны вялікім лікам канвойных.

Што-ж адбывалася ў гэтых двох паветах з вельмі моцна разьвітым буйным зямляўладаньнем, дзякуючы чаму тут асабліва гостра адчувалася малазямельле сялян?

Тут панавалі найбуйнейшыя зямельныя магнаты: князь Абаленскі (м. Хацімск, маёнтак князя „Хоцімск“ у гэтыя дні быў разгромлены), Цэханавецкі і інш.

„Над крышами волостных Правлений“—чытаем мы ў „Могилевском Голосе“ ў першыя дні студзеня 1906 году — „развеваются красные флаги. Движением крестьян, охватившим два уезда, т. е. обширнейшую округу, руководят молодые шахтеры, местные уроженцы, вернувшиеся с Юга“.

Аналёгічнае знаходзім і ў афіцыяльных паведамленьнях:

„Огромный рост беспорядков, принявших громадные размеры, сопровождавшихся разгромом имения князя Оболенского „Хотимск“, поджогом имения „Сяливы“, увозом хлеба из помещичьих амбаров и проч., обязан руководству революционным движением вернувшихся с Юга шахтеров, уроженцев вышеназванных уездов, высланных на родину, вследствие прекращения работы на шахтах, благодаря забастовкам и выселению из района шахт всех неспокойных элементов“...

11 дзён цягнулася гэта, мякка кажучы, „заспакаеньне“, якое пасьля сябе пакінула крывавы сьлед і выявілася ў вельмі жорсткай расправе, асабліва ў тых месцах, дзе сяляне праявілі непакорнасьць драгунам. Розгі, біцьцё шампаламі, прыкладамі, расправа з „новымі старастамі“, якія былі абраны сялянствам („в порядке демократии“) і якія былі вінаваты толькі ў тым, што ўзялі ўладу з рук тых, хто прымаў удзел у аграрных непарадках...

Апофэоз гэтага „заспакоеньня“—фурманкі з параненымі сялянамі, якіх вязьлі ў турму, а потым, праз год, некалькі судовых працэсаў...

---

У часе ліквідацыі гэтых сялянскіх непарадкаў у судовым парадку, г. зн. калі пачаўся разгляд справы ў судовай палаце, не абайшлося без таго, каб не пацярпела і шмат такіх сялян, якія нават ня прымалі ўдзелу ў разгроме маёнткаў і экспропрыяцыі маёмасьці.

Як прыклад прыводзім справу селяніна Васілеўскага. Аб гэтым у „Могилевском Голосе“ за сакавік месяц 1906 г. пішацца так:

„Аграрные безпорядки пышно развившиеся на почве крестьянской нужды и голода, с одной стороны, и безвременья и безначалия— с другой стороны, в последнее время, известно, свирепствовали сильно в районе Климовичского уезда. Отклики одного такого дела, связанного с эпидемией беспорядков, имели на днях место в заседании сессии Ки-

евской судебной палаты, в форме процесса о нанесении кр. Василевским ран приставу 3-го стана Климовичского уезда. Вот подробности дела, выяснившиеся на суде.

Близ селения, где проживает подсудимый, был вырублен помещичий лес, в виду чего к указанному Василевскому, как к лицу, заподозренному в утайке вырубленного леса, и нагрянула полиция, совместно с приставом третьего стана означенного уезда, для производства обыска. Василевский, зная обсолютную свою непричастность к инкриминируемому ему преступлению, воспротивился действиям полиции, мотивируя это тем, что компетенция пристава не относится к его селению, входящему совершенно в район пристава другого стана. Когда же действия полиции, несмотря на это, стали выражаться более репрессивно, обвиняемый схватил топор и нанес приставу удар в голову, не давший, однако, серьезных результатов.

Свидетельскими показаниями выяснилось на суде, что обвиняемый, действительно непричастный к утайке леса, в то же время был доведен до состояния высшей запальчивости и раздражения, в каковом аффекте он и действовал.

Судебная палата, принимая во внимание последние показания, приговорила Василевского лишь к арестанским ротам, сроком на три года"...

## 1906 год.

Вясна 1906 г. прынясла сялянству Магілеўшчыны разам з „перадышкай" пасьля бурлівага 1905 г. два падарункі: стражнікаў, якіх густа расьсялілі па ўсіх вёсках і сёлах „для парадку" і тыфус-вальляк. Першыя зьдзекваліся над сялянамі, у п'яным відзе білі жыхароў, а тыфус нішчыў цэлыя вёскі.

„Губернское начальство—пісалі з м. Цяцерына—с особенной заботливостью стало в последнее время относиться к крестьянству: назначили нам урядника и стражника, которые занимаются искоренением „крамолы". Все, дотоле мирные крестьяне, очутились во власти начальствующих лиц, а произвол воцарился полный, безнаказанный. Часто в „крамольные" деревни наезжают табуны стражников и расправляются с крестьянами по своему. Как образчик их „деятельности", привожу событие последних дней.

Приказывают из волости крестьянам д. Липска починить поврежденную дорогу. Крестьяне отказываются, говоря, что они не обязаны чинить барскую дорогу. Наезжают туда стражники с приставом во главе. Крестьяне, завидя стражников и пристава, скрепя сердце, соглашаются исполнить приказание. В это время возвращается один крестьянин с поля и громко заявляет свой протест против этого решения. За это на сьмельчака набрасываются стражники с нагайками и шашками и, избитого и окровавленного, увезли в резиденцию пристава. А затем, в пылу ярости, пристав изволил наградить несколькими пощечинами деревенского старосту.

Этим кончилось столь характерное для наших дней происшествие. Арестованного крестьянина, пять дней спустя, выпустили на свободу.

Пробовали у нас, через посредство волости, распространять воззвания и брошюры партии Правового порядка, но без всякого успеха.

Совершенно индифферентно отношение к Думе, да крестьяне у нас имеют о ней самое смутное представление, разве только то, что вот, мол, придут советовать царю, какие законы издавать, а толку, как видно, выйдет из этого мало. В общем, настроение у нас выжидающе-угнетенное; взявшись за соху, крестьяне мало интересуются политикой"...

---

Травень 1906 г. У Таўрыцкім палацы зьбіраецца Першая Дзяржаўная Дума і перажывае мядовыя дні свойго існаваньня.

Скаранае і задаўленае рэпрэсыямі сялянства Магілеўшчыны прагна цягнецца да Думы, пасылаючы туды шматлічныя заявы, просьбы, хадайніцтвы і ўсё гэта „наконт зямелькі“. Заела сялян гэтая зямельная цясьніна, гэтыя крыўды ад стражнікаў, ураднікаў, земскіх начальнікаў і інш., і яно ўсе свае надзеі кладзе на Думу.

Вось, напрыклад, 800 сялян сяла Бальшая Зімніца Быхаўскага павету шлюць у Дзяржаўную Думу тэлеграму, якая апублікавана ў мясцовым друку: „Собрание крестьянства во главе с сельским старостой выражает свое сочувствие Народным представителям. Требуйте земли и воли, освобождения борцов за свободу народа. Облеченные широким доверием, действуйте, опираясь на нас. Вы—вперед, мы за вами. Просим обнародовать наши желания перед всей страной, через опубликование сего в печати“...

Такія тэлеграмы, пэтыцыі, адозвы вельмі часта сустракаюцца ў мясцовым і краёвым друку за летнія месяцы 1906 г., алс...

Ніякай рэальнай карысьці, ніякіх рэальных вынікаў, як „гарох аб сьцяну“. Так выказаўся адзін з групы сялян, якія паслалі ў Думу сваю, поўную гора, сьлёзьніцу.

І тады гэты самы Быхаўскі павет дае знаць пра сябе, але ўжо ў іншай форме: зноў узьнімаюцца аграрныя непарадкі, якія ў ліпні месяцы прымаюць значныя разьмеры.

„В трех имениях Быховского уезда“,—чытаем мы ў сталічнай газэце „Эхо“ ад 2 га ліпня 1906 г., крестьяне удалили жней и об‘явили забастовку. Жатва не убирается. Забастовка протекает дружно. На место происшествия выехал Могилевский Вице-Губернатор“.

І далей у наступных №№ тэй-жа газэты „Эхо“ знаходзім другую тэлеграму з Магілева: „Забастовка продолжается. На сход бастующие являются вооруженные косами. Арестованные были крестьянами исправник и несколько стражников отпущены на свободу. Вызваны войска“.

Такім чынам, як відаць, да пачатку ліпня 1906 г. хваля забастовачнага руху сярод сялян захапіла значную частку Быхаўскага раёну. Апошні, натуральна, быў абвешчаны „небясьпечным па аграрных непарадках“ і туды было накіравана карнае войска.

---

**Язэп Мазуркевіч.**

# Віцебскае Аддзяленьне Беларускага Дзяржаўнага Музэю.

У цэнтры г. Віцебску, на Ленінскай вул., знаходзіцца старасьвецкая будыніна былой гарадзкой думы - цяпер Віц. аддз. Белдзярж. музэю. Шырокія ўсходы шклянога ганку вядуць у прадпакой з орнамэнтам беларускай вышыўкі на сьценах. Пры ўсходах на другі паверх прытулілася каменная „баба“ з паўднёвых стэпаў, далей патроны і „шклянкі“ артылерыйскіх снарадаў, каля сьцен шафы з кнігамі.

Супрацоўнік музэю т. Красьнянскі запрашае экскурсантаў у

### Архэолёгічны аддзел.

Невялічкі пакой з экспонатамі мінэралёгіі, палеонтолёгіі і каменнага веку. Сярод палеонтолёгічных эсkспонатаў затрымліваюць на сабе ўвагу аграмадныя косьці маманта, тура і насарога, а таксама трылабіт, захаваўшы непарушна сваю форму. На сьценах вісяць малюнкі розных дагістарычных жывёлін у паступовай іх зьмене нашай эры. Па словах т. Красьнянскага мінэралёгічных экспонатаў 1800 штук, палеонтолёгічных 450 і экспонатаў каменнага веку з касьцянымі рэчамі болей 300. Прадстаўнікі каменнага веку належаць да нэоліту. Тут ёсьць каменныя тапары, долаты, наканечнікі пік і інш. Сярод касьцяных рэчаў: шылы, пацеркі і д. т. п.

Уваходзім у другі пакой. Тут знаходзяцца колекцыі раскопак курганоў на Віцебшчыне і на месцы былага Віцебскага замчышча. Тут шмат зброі: тапары, пікі, стрэлы кальчугі з рэшткамі суконнай тканіны. Вось мэталёвыя рэчы — аздобы нашых продкаў X-XV в.в.: грыўні, ланцужкі, бранзалеты, зашпількі, пярсьцёнкі, падвескі. Побач кераміка і касьцяныя вырабы з прыгожым орнамэнтам, а на сьценах разьвешаны фотографічныя здымкі г. Віцебску і паасобных яго відаў, будынкаў і г. д. Тут-жа вялікі малюнак славян XI веку ў вопратцы таго часу і з аздобамі, што намалёваны па знойдзеных экспонатах. Далей ідуць прадметы Віцебскага замчышча, сярод якіх выдзяляюцца мастацкасьцю вырабу кахлі з датамі XIV веку. Колекцыя курганных раскопак па Віцебшчыне складаецца з 700 штук, а колекцыя Віцебскага замчышча перавышае 800 паасобнікаў.

Уваскрасіўшы перад сваімі вачыма жывёльнасьць дагістарычных часоў, старажытны быт насельніцтва Віцебшчыны, і ўявіўшы каштоўнасьць архэолёгічнага аддзелу для ўразуменьня сівой мінуўшчыны,— мы пераходзім у

### Гістарычны аддзел.

Новы невялічкі пакой. Адразу затрымліваемся на цікавых аўтэнтыках докумэнтаў, рукапісаў, проклямацый, лістоў, фотографій і цэлых архівах прыватных асоб. Вось докумэнты з XVI веку, далей рукапісы Баршчэўскага, цэлы шэраг докумэнтаў м. Бешанкавіч. Тут-жа цэлы шэраг прадметаў вядомага гісторыографа Віцебшчыны А. Т. Сапунова: яго бібліотэка, клішэ выданьняў, рукапісы, зборы газэт і інш.

На сьцяне яго портрэт, віды Віцебску, Вяліжа, плян г. Віцебску і інш. Гэты багаты куток чакае свайго дасьледчыка і будзе выкарыстаны ў поўнай меры толькі пасьля адчыненьня аддзяленьня дзяржаўнай бібліотэкі ў Віцебску, што дасьць мажлівасьць узяцца навуковым працаўнікам за распрацоўку гэтага матар'ялу. Агледзеўшы палеографію, мы выходзім у прадпакой і па ўсходах, застаўленых і завешаных зброяй розных вякоў, падымаемся на трэці паверх. Халодная і агнястрэльная зброя, пачынаючы ад XV веку і да нашага часу. Характэрнага для Віцебшчыны тут нічога няма, калі ня лічыць дубовых гармат-гарлачоў, з якімі ў некаторых месцах выходзілі паўстанцы 1863 г. проці расійскіх войск, ад якога часу застаўся іронічны выкліч „pal z gorłacza!“,—бо гэтыя гарматы служылі толькі для салюту (salutówki) у час якой-небудзь урачыстасьці.

Тут ёсьць лукі, стрэлы, тапары, пікі, мячы, панцыры, гарматы, стрэльбы, пісталеты, рэвольвэры, шлемы, латы, маждэры, кулямёты, шашкі, галоўныя ўборы і г. д.

Тлумачэньні дае супрацоўнік музэю т. Дабравольскі. Пры ўваходзе ў новы вялікі пакой бачым прадметы Віцебскіх цэхаў (рамесьніцкіх арганізацый) пачатку XIX веку. На высокіх дрэўках стаяць сьцягі-пратэсы, суконныя, з намалёванымі абразамі і надпісамі якога цэху гэты сьцяг. Тут і маляры, і тынкоўшчыкі, і мэталісты, і канатчыкі. Далей мы аглядаем багатую нумізматыку музэю, якая сьведчыць аб шырокіх зносінах Беларусі з замежамі. Перад намі праходзяць монэты антычнага сьвету: грэцкія, бізантыйскія, рымскія; вось монэты залатой арды, царкоўныя, папскія, арабскія. Вунь беларуска-літоўска-польскія монэты XIV-XVIII в.в., а побач колекцыі масонскіх знакаў, ордэнаў. А яшчэ далей збор крэдытак часоў рэволюцыі.

Агулам Гістарычны аддзел мае 8000 з лішкам паасобнікаў. Далей у гэтым-жа пакоі знаходзіцца

## Мастацкі аддзел.

Тут зьмяшчаюцца малюнкі, гравюры, сярод якіх некалькі італьлянскага мастака XVII веку Кс. Роза (па думцы некаторых Сальв. Роза) і малюнкі Баравікоўскага, Клевера і інш. Ёсьць тут і работы мясцовых „левых“ мастакоў і некалькі добра выкананых скульптур (Скарына, Цяпінскі і інш.) таксама мясцовага мастака Азгура.

Мастацкі аддзел зьмяшчае больш 12.000 экспонатаў, з якіх значную каштоўнасьць складаюць рэчы з тонкай мастацкай парцэляны, бронзы, ювелірныя чаканныя работы, эмаль, жывапіс па парцэляне, сланёвай касьці, штучныя рэчы разьбярства па касьці і дрэву, вышыўкі і інш.

Кіраўніцтва нашым аглядам музэю бярэ на сябе загадчык музэю т. Васілевіч, і мы пераходзім у

## Этнографічны аддзел.

Зноў невялічкі пакой. На сьценах вісяць узоры беларускай сялянскай тканіны, сялянская вопратка і тут-жа знаходзяцца прадметы штодзённага быту сялянскага жыцьця. У большасьці гэта экспонаты быту мінулага часу: дзеравяныя конаўкі, бяроставыя трубы, люлькі, дуда, цымбалы. Побач з колекцыяй паясоў узоры набіванкі і набоечныя клішэ, аб чым можна даведацца з кніжкі А. Шлюбскага „Крашаніна“ пад рэд. М. І. Касьпяровіча (Віцебск, 1926). Вось адзеньне местачковых яўрэяў: гарсэты, каптаны з буфамі, спадніцы, галаўныя ўборы. Большасьць гэтых экспонатаў пашыты з матэрый са слуцкіх майстэрань, дзе ткаліся славутыя *Слуцкія паясы*, узоры якіх пад самымі фантастычнымі назвамі я сустракаў у музэях Масквы, Ленінграду, Кіеву, Днепрапятроўску і інш. гарадоў. Тут-жа працы Высачанскай профтэхшколы: мастацкі выраб палатна розных гатункаў. А вось і „батлейка“—лялечны тэатр, толькі гэты экспонат рэлігійнага характару, як і „гвязда“, што вісіць на сьцяне. Усяго ў гэтым аддзеле 250 экспонатаў, а ў другім пакоі зьмяшчаецца ўжо новы

## Аддзел сучаснай прамысловасьці.

Гэты аддзел зьмяшчае экспонаты фабрык, заводаў і профтэхшкол Віцебшчыны. Вось лён, роўніца, ніткі з ф-кі „Дзьвіна“; тут акуляры розных гатункаў—ад звычайных да шофэрскіх і процігазавых;

панчохі і трыкатажныя вырабы; картон з Пудоця, Сураскага раёну і папера з Чашнік.

Вось экспонаты гнутай мэблі, вырабы скуры, толь, фанэра, іголкі і працы профтэхшкол мэталістых Віцебску і Гарадка. Тут маецца да 700 экспонатаў і 400 дыяграм, якія даюць уяўленьне аб сучаснай прамысловасьці Віцебшчыны. Заканчваючы агляд музэю мы азнаёміліся з

**Царкоўным аддзелам,**

які часткова можа служыць дапамогаю пры вывучэньні гісторыі мастацтва на Віцебшчыне (разьба па дрэву) і мае каля 800 экспонатаў. Тут-жа мы назіралі мошчы „Сьв. Апрасіньні Полацкай“, прототып машчэй вядомага маскоўскага фальшывамонэтчыка. Да агляду гэтай „сьвятыні“ трэба заўважыць наступнае: Мошчы Апрасіньні былі ўрачыста перанесены папамі перад імпэрыялістычнай вайной з Кіева ў Полацак. Пасьля рэволюцыі яны былі ўскрыты і пераданы ў Віцебскі музэй.

Аднак-жа я, будучы ў Кіеве ў гэтым годзе, бачыў у пячэрах мошчы „Св. Евфросинии Полоцкой“, а ў Полацку, кажуць, таксама ёсьць яе мошчы. Якія з іх запраўдныя, бязумоўна ня ведаюць і самі папы, ды, вядома, ім гэта і не патрэбна, абы больш было „сьвятыні“.

Мошчы ў музэі зьяўляюцца добрым экспонатам для працы мясцовых бязбожнікаў. Мы пакідаем напоўзгніўшыя астаткі невядомых людзей (як запэўніваюць дактары—тулава мужчыны, галава жаночая, а рукі з розных асоб), што служылі доўгі час папоўству спосабам нажывы, і накіроўваемся паглядзець памяшканьне аддзяленьня дзяржаўнай бібліотэкі, якая займае 5 пакояў. Ідзе разборка кніг б. Археолёгічнай камісіі. У гэтым памяшканьні месьціцца і акруговы аддзел т-ва краязнаўства. Тут адбываюцца пасяджэньні праўленьня, сьпеўкі краязнаўчага хору, організаванага композытарам М. В. Анцавым. Адчуваецца гуртаваньне мясцовых навуковых сіл наўкол працы т-ва і музэю, які заснаваўся вясною 1925 г. з паасобных музэяў: Віцебскага Губэрскага Музэю, Царкоўна-археолёгічнага, Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, музэю В. П. Федаровіча і музэю нябожчыка А. Р. Брадоўскага, аддаўшага гэтай справе ўсё сваё жыцьцё. Увесь музэй зьмяшчае ў сабе больш за 30.000 экспонатаў і служыць культурнай справе вывучэньня Віцебшчыны і Беларусі.

# ХРОНІКА.

## Дзейнасьць ЦБК.

### Пасяджэньне 29/VI.

Заслуханы даклад т. Жураўскага аб падагульненьні фэннаглядaньняў. Прынята пастанова зьвярнуцца да акруговых т-ваў краязнаўства з прапановай тэрмінова наладзіць справу нагляданьняў і вынікі падагульненьняў пераслаць у ЦБК для апублікаваньня ў друку. Вырашана пытаньне аб экспэдыцыі ЦБК у Дубровенскі раён. Вызначылі склад экспэдыцыі: т. т. Касьпяровіч, Жураўскі, проф. Люнгэрсгаўзэн, Васілеўскі і Грынблят. Заслухана інформацыя старшыні Барысаўскага т-ва аб працы т-ва. Прынята пастанова прасіць Барысаўскі РВК аб матар'яльнай дапамозе т-ву. Вырашана пытаньне аб правядзеньні сіламі ЦБК лекцый па краязнаўству на ўсіх настаўніцкіх курсах. г. Менску. Вылучаны з гэтай мэтай т. т. Жураўскі, Касьпяровіч, Аляксандраў і Даўкша. Вылучаны т. Аляксандраў прадстаўніком ад ЦБК у Камітэт па організацыі Ўсесаюзнага Архэолёгічнага зьезду 1929 г.

### Пасяджэньне 17/VIII.

Канчаткова вырашана пытаньне аб экспэдыцыі ЦБК у Дубровенскі раён. Склад яе: т. т. Касьпяровіч, Сербаў, Жураўскі і Васілеўскі. Разьмеркаваны тэмы вывучэньня раёну: Васілеўскаму даручана гісторыя раёну, Жураўскаму—гаспадарка, Сербаву—жыльлё, і архэолёгія, Касьпяровічу—адзежу і быт. Вызначана орыентовачная сума для экспэдыцыі ў 500 руб. Заслухана інформацыя т. Бабровіча аб стане краязнаўчай працы ў Койданаўскім раёне. Прынята пастанова аб зачыненьні Ўсебеларускай выстаўкі фотографій і зарысовак і звароце прысланых на выстаўку экспонатаў.

### Пасяджэньне 20/XI.

Заслухана справаздача т. Жураўскага аб экспэдыцыі ў Дубровенскі раён. Экспэдыцыя аб'ехала ўвесь раён і сабрала шмат каштоўных этнографічных рэчаў і зусім дастаткова вывучыла гаспападарчае становішча раёну. Экспэдыцыя была разьлічана на два тыдні, але троху зацягнулася з прычыны цяжкай хваробы кіраўніка экспэдыцыі т. Касьпяровіча. Прынята пастанова надрукаваць інформацыю аб выніках і ўражаньнях экспэдыцыі ў час. „Наш Край“, апрацаваныя матар'ялы экспэдыцыі таксама зьмяшчаць у „Нашым Краі“. Разглядалася пытаньне аб зьмесьце „Мазырскага“ № „Нашага Краю“. Зацьверджаны зьмест „Нашага Краю“ № 8—9. Разглядалася пытаньне аб выданьні II вып. „Асіпавіцкі раён“, у якім будуць зьмешчаны працы мясцовых краязнаўцаў: 1) м. Асіпавічы, 2) Зборскі С. С.. 3) в. Журавец і 4) Помнікі старасьветчыны ў Асіпавіцкім раёне. Прынята пастанова аб камандыраваньні інструктароў ЦБК г. Шашалевіча і т. Жураўскага ў раёны Менскай акругі.

### Пасяджэньне 5/X.

Зацьвердзілі плян працы ЦБК на 1928—29 г. г. і каляндарны плян працы на кастрычнік—снежань 1928 г. Разглядалася пытаньне аб выкладаньні курсу краязнаўства ў пэдтэхнікумах Беларусі. Прызнана мэтазгодным даручыць гэта выкладаньне сталым краязнаўцам, аб чым давесьці да ведама Наркамасьветы. Прынята пастанова дэталізацыю гэтых програм даручыць т. т. Жураўскаму, Аляксандраву і Даўкшы. Заслуханы справаздачы т. Жураўскага аб органазацыйнай працы Менскага акр. т-ва краязнаўства і т. Шашалевіча аб працы краязнаўчага гуртка пры Менскім Белпэдтэхнікуме.

### Пасяджэньне 12/X.

Заслухалі даклад рэдактара „Нашага Краю“ т. Бядулі аб зьмесьце чарговага № часопісу і яго далейшым напрамку. Пастанавілі захаваць штомесячны характар часопісу. Заслухана справаздача інструктара ЦБК т. Шашалевіча аб яго камандыроўцы ў Пухавіцкі, Чэрвенскі і Бярэзінскі раёны Менскай акругі.

### Пасяджэньне 19/X.

Заслуханы даклады: т. Марука „Аб летняй працы т-ва краязнаўства пры БДУ і

пляне яго дзейнасьці на бліжэйшы час, 2) т. Невядомскага „Аб выніках экспэдыцыі гэтага т-ва на Полаччыну“ па заслуханых дакладах навукова-краязнаўчага т-ва Б. Д. У. прынята Прэзыдумам Ц. Б. К. наступная рэзолюцыя:

1. Таварыствам за справаздачны пэрыод праведзена значная праца як у організацыйным, так і ў навукова-дасьледчым кірунках:

а) знойдзены пэўныя організацыйныя формы і мэтоды працы;

б) праведзена шырокая популярызацыя пытаньняў краязнаўства сярод студэнцтва і створаны досыць значны актыў краязнаўцаў;

в) уцягнуты ў краязнаўчую працу т-ва цэлы шэраг навуковых працаўнікоў у якасьці актыўных кіраўнікоў паасобных сэкцый т-ва (проф. У. І. Пічэта, проф. М. М. Гайдукоў, доц. А. М. Зьбіткоўскі, доц. Магілеўчык і інш.).

2. Як дасягненьне ў працы Т-ва адзначаецца праробленая т-вам праца па падрыхтоўцы краязнаўцаў праз організацыю ў грамадзкім парадку студыі—курсаў для студэнтаў усіх навучальных устаноў г. Менску.

3. У навукова-дасьледчым кірунку адзначаецца сталая праца паасобных сэкцый, а таксама наладжаньне і правядзеньне т-вам нав.-дасьледчай экспэдыцыі ў Полаччыну (Вушацкі раён), у часе якой, апрача навукова-дасьледчай справы, праведзена шырокая грамадзка-асьветная праца сярод мясцовага насельніцтва.

4. У мэтах пашырэньня і паглыбленьня краязнаўчай дзейнасьці т-ва лічыць патрэбным і своечасовым выданьне т-вам сваіх навукова-дасьледчых прац,—і ў першую чаргу—вынікаў экспэдыцый—у Тураўшчыну і Вушацкі раён,—аб чым узьняць пытаньне перад Праўленьнем БДУ.

5. Прымаючы пад увагу вялікую патрэбу ў падрыхтаваных краязнаўцах для пашырэньня справы краязнаўства на мясцох і ўлічваючы посьпех праведзеных у мінулым годзе краязнаўчых курсаў, а таксама запатрабаваньні студэнцтва,—лічыць мэтазгодным організацыю і правядзеньне падобных курсаў і ў бягучым годзе, але на большы тэрмін і па пашыранай праграме.

6. Лічыць правільным і своечасовым высунутае т-вам пытаньне аб неабходнасьці організацыі краязнаўчага музэю т-ва, паклаўшы ў аснаваньне музэю сабраныя ў час экспэдыцый матар'ялы і экспонаты.

7. У далейшай навукова-дасьледчай працы т-ву зьвярнуць большую ўвагу на ўвязку дзейнасьці з Менскім акруговым т-вам краязнаўства з мэтай пашырэньня краязнаўчага вывучэньня гор. Менску і Менскай акругі.

8. У мэтах узмацненьня сталага навуковага кіраўніцтва сэкцыямі, лічыць патрэбным яшчэ большае ўцягненьне навуковых сіл БДУ ў працу Т-ва.

9. Для сувязі ЦБК з Т-вам прымацаваць да Праўленьня Т-ва ў якасьці сталага прадстаўніка—навуковага сакратара ЦБК — т. М. І. Касьпяровіча.

10. Лічыць мэтазгодным, у мэтах абмену вопытам, заснаваньне сталай сувязі краязнаўчага т-ва БДУ з адпаведнымі організацыямі іншых В. Н. У. БССР і СССР.

11. З прычыны значнай разгорнутасьці працы і пашырэньня складу членаў Т-ва, лічыць своечасовым узьняцьце пытаньня аб вызначэньні сродкаў на ўтрыманьне тэхнічнага сакратара.

## Плян працы Цэнтральнага Бюро Краязнаўства на 1928-29 г.

### I. Організацыйная праца.

1. Дапамагчы разгортваньню краязнаўчага руху на мясцох з такім разьлікам, каб у кожным раёне, апрача раённага таварыства краязнаўства, было 3-4 дзейныя гурткі краязнаўства, а ў буйных гарадох—1-2 работніцкія гурткі краязнаўства пры прадпрыемствах.

2. Наладзіць плянавае мэтодычнае кіраўніцтва гурткамі краязнаўства ў асьветных установах і організацыйна аформіць іх у тых тэхнікумах і сямігодках, дзе гэта яшчэ ня зроблена.

3. Дамагчыся ўвядзеньня выкладаньня краязнаўства ў тэхнікумах і вышэйшых школах.

4. Дапамагчы організаваньню гурткоў краязнаўства пры доктарскіх бюро саюзу мэдсанпрацы ва ўсіх гарадох БССР.

5. Наладзіць сыстэматычнасьць назіраньняў фэнолёгічнай сеткай БССР і організацыя аформіць і роўнамерна выраўняць сетку гідролёгічных наглядальнікаў.

6. Заснаваць пры больш дзейных організацыйных этнолёгічныя станцыі для стацыянарнага вывучэньня этнографіі краю.

7. Склікаць у лютым месяцы краязнаўчую конфэрэнцыю мэтодычнага характару.

8. Дапамагчы правядзеньню акруговых і раённых краязнаўчых конфэрэнцый.

9 Працягваць популярызаваньне краязнаўства як у друку, так і на розных сходах і конфэрэнцыях, а таксама на радыё.

10. Для сувязі з цэнтральнымі краязнаўчымі ўстановамі згодна § Статуту камандыраваць свайго прадстаўніка ў Ленінград або ў Харкаў на краязнаўчыя нарады.

11. Практыкаваць прынцып ударнасьці ў справе вывучэньня паасобных раёнаў кожнай акругі.

12. Дапамагаць навуковым установам у справе зьбіраньня краязнаўчых матар'ялаў для іх мясцовымі організацыямі.

13. Організаваць сетку членаў-корэспандэнтаў ЦБК з такім разьлікам, каб члены-корэспандэнты былі галоўным чынам у

тых мясцох, дзе слабыя краязнаўчыя організацыі.

14. Організацыйна аформіць і ўзмацніць краязнаўчую сетку на Гомельшчыне.

15. Організаваць цыкль мэтодычных лекцый па краязнаўству ў Менску і ў іншых акругах для падрыхтоўкі краязнаўцаў і кіраўнікоў экскурсій.

### II. Мэтодычна-кіраўнічая праца.

1. Апрацаваць зборнік програм для краязнаўчай працы мясцовых працаўнікоў, улічыўшы пры гэтым найбольш простыя віды працы для сялян і работнікаў.

2. Пашырыць мэтодычны матар'ял у часопісе „Наш Край", паранейшаму захоўваючы за ім пісьмовую кіраўнічую ролю ў краязнаўчым руху.

3. Асаблівую ўвагу зварачаць на мэтодычнае кіраваньне ў справе выкананьня першачарговых прац мясцовымі краязнаўчымі організацыямі: а) укладаньне бібліографіі і колекцыі выразак; б) зьбіраньне музэю; в) укладаньне раённых слоўнікаў мовы; г) укладаньне раённых географічных слоўнікаў; д) вывучэньне асаблівасьцяй мовы паводле програм С. Некрашэвіча і Бузука; е) зьбіраньне фольклёру і нагляданьняў: фэнолёгічных, мэтэоролёгічных, гідролёгічных; ж) вывучэньне колектыўных форм гаспадаркі; з) выяўленьне карысных выкапняў; і) заканчэньне ўкладаньня раённых археолёгічных карт і вывучэньне помнікаў прыроды.

4. Дапамагаць навукова-дасьледчай працы мясцовых краязнаўчых організацый і ў першую чаргу тым раённым таварыствам краязнаўства, якія вывучаюць свае раёны ў парадку ўдарнасьці.

5 Камандыраваць інструктароў і членаў ЦБК для абсьледваньня і накіраваньня справы ва ўсе акругі і палову раёнаў БССР, якія не абсьледваны за мінулы год.

6. Наладзіць апублікаваньне больш вартых матар'ялаў у працах розных камісій ІБК.

7. Правесьці перападлік навукова-краязнаўчых організацый БССР.

8. Паклапаціцца ўкладаньнем і апублікаваньнем краязнаўчай бібліографіі, а таксама весьці бягучую краязнаўчую бібліографію і апублікоўваць яе ў часопісу „Наш Край".

9. Працягваць зьбіраньне маршрутаў для пуцяводніка па БССР.

### III. Выдавецкая праца.

1. Выдаць 10 нумароў часопісу „Наш Край" па $4^1/_2$ друк. арк. кожны.

2. Выдаць першы зборнік програмнамэтодычных матар'ялаў па краязнаўству.

3. Дапамагаць выданьню мясцовых краязнаўчых зборнікаў і матар'ялаў на мясцох. а таксама ў працах ІБК.

### IV. Навукова-дасьледчая праца.

У мэтах вывучэньня гісторыі, тэорыі і організацыі краязнаўства распрацаваць наступныя пытаньні:

1. Асноўныя моманты разьвіцьця гісторыі краязнаўства на Беларусі—$3^1/_2$-4 друк. аркушы.

2. Да вывучэньня біоклімату Беларусі—$1^1/_2$ друк. аркушы.

3. Да пытаньня аб вывучэньні этнографіі Беларусі—2-3 друк. арк.

4. Да пытаньня аб вывучэньні ўзаемаўплываў яўрэяў і беларусаў 1—$1^1/_2$ друк. арк.

## Што атрымала ЦБК у ліпні, жніўні, верасьні і кастрычніку месяцах.

*Ад Р. Савецкага* (Жлобінскі р.)—словы жывой мовы.

*Ад Д. Лапіцкай* (в. Хізы Ветк.р.)—словы жывой мовы.

*Ад П.М. Тамілы* (в. Півашы Староб. р.)—запоўненая програма па вывучэньні асаблівасьцяй беларускіх гаворак.

*Ад А. Р. Цышкевіча* (в. Заброцкая Староб. р.)—таксама.

Ад краязн. гуртку Магілеўскага зямляўпарадчага тэхнікуму „Апісаньне разака, які ўжываецца ў Бялыніцкім раёне".

*Ад Я. Казунова* (в. Вераб'ёўка Ветк. р.)—„Апісаньне вясковага вясельля і хрэсьбін у Вераб'ёўцы".

*Ад Магілеўскага Акруговага Т-ва Краязнаўства*—мэлёдыі і словы 100 народных песень, сабраных у в. Гарадзец Быхаўск. раёну ў часе экспэдыцыі т-ва ў складзе т. Чуркіна (запіс мэлёдый) і т. Супінскага.

*Ад Аршанскага Акруговага т-ва*—фольклёр Горац. раёну, сабраны настаўнікам Дзянісенкам і вучнямі Горацкай беларускай 7-кі, усяго 13 сшыткаў.

*Ад Л. Кіслова* (Межынскі р.) *Г. Пісарчыка* (Дукора), *П. Катужэнца* (Кохан. р.), *Х. Клімянка* (в. Абольцы Жлоб. р.)—вясковыя прыпеўкі, песьні калядныя і вялікодныя, вясьнянкі, вясельныя і інш. фольклёр усяго 72 №№.

*Ад краязнаўчага гуртка пры Магілеўскім Зямляўпар. тэхнікуме*—фольклёру 540 №№.

*Ад Я. Казунова* (в. Вераб'ёўка Ветк. р.)—прыпевак 150.

*Ад М. Казакова* (Дрыбін)—словы „шапавальскай" мовы.

*Ад Восіпа Станчыка* (в. Студзенка Бялыніц. р.)—прыпеўкі і народныя песьні—сшытак.

*Ад. Хв. Ванчукевіча* (Староб. р. Жабін) *Г. Астрахана* (в. Рудня, Астрашыцка—Гарадз. р.), *Я. Васкабовіча* (Пухав. р.) *Я. Сякача* (Нараўл. р.). *І. Дзянісенкі* (в. Наркі Чэрык. р.), *Я. Берднікова* (в. Князь возера Староб. р.), *З. Сташонка* (в. Слабада),

*Ц. Дзярнова* (Н. Быхаў)—народныя песьні, прыпеўкі, прыказкі і іншы фольклёр—усяго 57 старонак.

*Ад А. Барод́зіна* (в. Барбарова), *С. Варэніка, З. Касьянчыка* (в. Савічы Азарыц. р.). *Т. Лагуна* (в. Князь возера), *С. Пухоўскага* (Будакашалёўскі р.), *В. Жураўлёва* (Лёзьн. р.). *Е. Максімовіча* (Староб. р.)—фольклёр на 60 стар.

*Ад вучняў Тураўскай 7-кі*—вясельныя песьні—сшытак.

*Ад Л. Антошчанкі* (Мсьцісл. р.)—сорак беларускіх нар. песень.

*Ад П. Стралкова* (в. Хімы Бабр. р.)—Збор вясковых прыпевак „Пад гармонь".

*Ад Бабруйскага Акруговага Т-ва*—фольклёру 1108 №№ і ўспаміны аб рэволюцыі 1905 г. (в. Добысна)—запіс С. Вінаградава ад А. Жукоўскага.

*Ад І. Лепяшынскага* (в. Гурэц Халоп. р.)—прыпевак 62.

*Ад Клімавіцкага райтва*—песень 100.

*Ад Е. Максімовіча* (Стар. р.) і *К. Новікава* (Мсьціслаўскі р.)— народных песень 64.

*Ад Чэрвенскага райтва* (зьбіральнікі: В. Пастарнацкая, В. Сай, К. Маркевіч, Прайдоха, М. Панасенка, І. Пяхота, В. Гаўрыльчык, К. Ганчарык, У. Юркевіч, С. Дзяркач, Ф. Ананіч і інш.)—фольклёр 829 №№, два апісаньні народных абрадаў, адно апісаньне в. Пятроўкі і дзіцячага фольклёру 10 №№.

*Ад Чарэйскага райтва*—нар. песьні 10 №№.

*Ад Я. Хаскіна* —„Апісаньне кірмашу ў м. Лёзна і экономічнага стану мястэчка".

*Ад У. Жука і П. Панкевіча* (Лельчыцкі раён)—„Апісаньне в. Дубровы Лельчыцк с. с."

*Ад Асіпавіцкага райтва*—50 шт. расьлін з р. Сьвіслачы для азначэньня.

*Ад А. Лепяшынскага*—„Апісаньне Лукомльскага возера".

*Ад В. Шавельскага* (Невель) — артыкул „Невельскі павет—этнографічны востраў Беларусі".

*Ад Рагачэўскага Краязнаўчага гуртку пры Пэдтэхнікуме*—„Абсьледваньне вёскі Збароў Рагачэўскага раёну".

*Ад П. Мядзьвецкага* (в. Гарадзішча, Шклоўск. р.)—Прыпеўкі Шклоўшчыны (досьлед) і паясьняльны тэкст.

*Ад П. Чайкоўскага* (Тураў)—Апавяданьні аб мінулым Турава.

*Ад Грэдынгера*—Заметка аб суседзкім праве.

*Ад І. Сержаніна*—Вясновыя нагляданьні над птушкамі.

*Ад Уладзімірава*—нарыс „Торпавае балота „Белае" (Барысаўск. р,) і яго распрацоўка".

*Ад М. Ламакі* (Магілеў)—нарыс „Матар'ялы да гісторыі выдавецкай справы ў Магілеве".

*Ад Архіпава* (Круглае)—Апісаньне в. Воўкаўшчыны.

*Ад Т. Воўкава*—нарыс „Вынікі знаёмства з экономікай Цытвянскага сельсавету".

*Ад М. Зайцанкова* (Мсьціслаў)—нарыс „Казіміра Слабодзкі броварны завод Аршан. акр.".

*Ад Краязнаўчага гуртку пры Рагачэўскім пэдтэхнікуме*—„Рагачэўскі лесазавод".

*Ад Чайкоўскага* (Тураў) — „Апісаньне Сямурадзкіх пяскоў".

*Ад агранома Некрашэвіча* (Мозыр)—Мэліорацыя на Мазыршчыне.

*Ад Тарановіча* (Мозыр)—Гістарычны нарыс Мазыршчыны.

*Ад І. Лакіна* (Мозыр)—Краязнаўчы рух на Мазыршчыне.

*Ад А. Крукоўскага* (Мозыр)—Прыроднагеографічны нарыс Мазыршчыны.

*Ад Т. Кулакова* (Азарычы)—М. Азарычы Мазыр. акр.

*Ад М. Грынблята*—нарыс „Любоўная магія Тураўскіх паляшукоў" і „Матар'ялы да вывучэньня пастушаства на Тураўшчыне".

*Ад Я. Мазуркевіча* (Віцебск)—1) Апісаньне Віцебскага Дзяржаўнага Музэю, 2) Нататкі з падарожы па Дняпры.

*Ад А. Хазанава* (Гарадок)—Гістарычнаэкономічны нарыс г. Гарадка Віцебск. акр.

*Ад П. Самцэвіча* (Барысаўскі р.)—„Хрэсьбіны ў в. Унтальлянцы Барыс. р.".

*Ад І. Мірскага* (Магілеў)—Рабочы і сялянскі рух на Магілеўшчыне 1903—1910 г.г.

*Ад І. Мікіцінскага* (Слуцак)—Падарожніцкая справа Слуцкага раён. т-ва краязн. за летні час 1928 г.

*Ад А. Адзінца*—Нататкі аб асаблівасьцях мовы Тураўшчыны.

*Ад З. Панасенкі*—Нататкі аб рэволюцыйным руху ў Хутарскім с. с. Чэрвенскага раёну.

*Ад С. Марозава* (Пятрыкоў, Маз. акр.)—Сьпіс і апісаньне расьлін, якія ўжываюцца ў якасьці лекавых насельніцтвам Пятрыкоўскага раёну.

## Менская акруга.

### 1. Пухавіцкае раённае т-ва краязнаўства.

Т-ва цяпер налічвае ў сваім складзе 90 сяброў. Праца да гэтага часу вялася галоўным чынам у организацыйным кірунку. Даклады (на настаўніцкіх конфэрэнцыях) сталіся агітацыйнага характару. Т-ва мае невялікія сродкі ад сяброўскіх складак і на іх выпісана краязнаўчая літаратура. Заснавана два фэнпункты, існуе пры Пухавіцкай 7-цы дзейны краязнаўчы гурток. Плян працы т-ва цэнтрам сваёй увагі ставіць вывучэньне зямляўпарадкаваньня, якое праводзіцца ў раёне.

### 2. Чэрвенскае раённае т-ва краязнаўства.

Т-ва цяпер складаецца з 11 краязнаўчых гурткоў і налічвае каля 152 сяброў. З гурткоў працуюць пяць. Да краязнаўчай працы да гэтага часу, асабліва ў мінулым годзе, была зацікаўленасьць. Аб гэтым сьвед-

чыць краязнаўчая конфэрэнцыя, якую склікала т-ва зімою мінулага году і якая з неаслабнай зяцікаўленасьцю праходзіла поўны дзень. Уся краязнаўчая праца як гурткоў, так і паасобных краязнаўцаў праўленьнем улічваецца і рэгіструецца. Нават рэгіструецца праца юных краязнаўцаў—вучняў. Краязнаўчыя вучнёўскія гурткі існуюць ня толькі пры 7-ках, але і пры вясковых школах. Т-ва ў цэлым перайшло на дасьледчую працу. За мінулы год досыць продукцыйна вялася праца па вывучэньні экономікі раёну. Сабрана шмат матар'ялаў, якія даюць магчымасьць уявіць экономічны твар раёну. Для прыкладу пакажам некаторыя з сабраных матар'ялаў: 1) весткі аб лясох дзяржаўнага значэньня ў раёне, 2) ураджайнасьць культур за розныя гады ў параўнаньні з даваенным, 3) статыстычныя лічбы хатняй жывёлы ў раёне, 4) некаторыя даныя аб пашырэньні прыватнага гандлю ў раёне, 5) лічбы пашырэньня пчалярства і гароднiцтва ў раёне, 6) падлік няпісьменных, 7) лічбы зямельнай плошчы ў раёне, 8) матар'ялы аб гаспадарчай дзейнасьці Савецкіх гаспадарак у раёне і іншыя матар'ялы. Т-ва заснавалася яшчэ ў 1923 г. і цяпер ужо споўнілася пяць гадоў працы т-ва. За гэты час т-ва набыло пэўны аўторытэт сярод грамадзкіх, савецкіх і комсамольскіх організацый. У складзе т-ва цяпер ужо ёсьць і сяляне. Паступова расьце краязнаўчы актыў. Некаторыя сябры т-ва ўжо ўзяліся за монографічнае вывучэньне раёну. Так т. Катлінскі вывучае біоклімат раёну і рэгулярна дзень у дзень вядзе адпаведныя нагляданьні, т. Дземяшкевіч падрыхтоўвае экономічны нарыс раёну, т. Панасенка напісаў „Рэволюцыйны рух у Хутарскім сельсавеце" і г. д. 24/IX г. г. адбылася ў Чэрвені краязнаўчая конфэрэнцыя (у часе склікаwhiньня настаўніцкай конфэрэнцыі), на якой быў заслуханы справаздачны даклад Праўленьня, пераабрана новае праўленьне і заслухан інструкцыйна-інформацыйны даклад прадстаўніка ЦБК т. Шашалевіча.

### 3. Бярэзінскае т-ва

Праца т-ва ў гэтым годзе аслабла. Праўда, у мінулым годзе ў часе Кастрычнікавага юбілею ўрачыста ад імя т-ва быў адчынены пры Бярэзінскім Нардоме краязнаўчы музэй, але цяпер ад гэтага музэя, дзякуючы нядбайнасьці т-ва, вельмі мала засталося. Тое, што ёсьць, знаходзіцца пры 7-цы, дзе захадамі школы і т-ва ў апошні момант складаюцца больш спрыяючыя ўмовы для абсталяваньня і запаўненьня музэю. Школа 7-ка адвяла памяшканьне для пэдагогічнага і краязнаўчага музэю, а выкладчыкі школы ўзяліся падрыхтаваць да вясны і вясною экспонаты і колекцыі. Намечаны колекцыі тканін, вышывак, орнамэнтаў на дрэве, па зоолёгіі і ботаніцы і этнографіі. Пры беларускай і польскай 7-ках заснаваны вучнёўскія краязнаўчыя гурткі. 28/IX адбывалася ў Бярэзыні настаўніцкая конфэрэнцыя, на якой быў заслуханы даклад прадстаўніка ЦБК і пераабрана новае, магчыма, больш працаздольнае праўленьне т-ва.

### Плешчаніцкае раённае т-ва краязнаўства.

Гэтае т-ва, заснаванае ў 1925 г., за тры гады свайго існаваньня амаль нічым сябе ня выявіла. Праўда, паасобнымі сябрамі праводзілася такая-сякая праца: зьбіраўся народны фольклёр, праводзіліся фэнолёгічныя нагляданьні (працаўнiком лясьніцтва), пры беларускай 7-цы ўжо 3-ці год вядуцца сыстэматычныя нагляданьні над атмосфэрнымі ападкамі, і весткі акуратна дасылаюцца ў Менск у Мэтэоролёгічнае Бюро, зроблена некалькі чучал дзікіх птушак для Зоолёгічнага Музэю пры Інбелькульце і іншае. Ніякай колектыўнай плянавай працы ня было, краязнаўчых канфэрэнцый і сходаў не праводзілася, і цяпер няма нават вестак, колькі ёсьць сяброў т-ва, а раней іх было 73. Праўленьне таксама распалася: той сам выехаў, таго перавялі. Словам, краязнаўства, як шырокай грамадзкай справы, у Плешчаніцах няма. Між тым краязнаўчая зацікаўленасьць тутака не патухла. Самы раён у розных стасунках зьяўляецца цікавым. Ляжыць ён на вадападзельным узвышшы—паміж рэк Бярэзіны і Вільлі; паверхня ў большасьці пакрыта хваёвымі лясамі, у якіх яшчэ захаваліся дзікі (вяпры), мядзьведзі, гадуюцца стады ласёў і плодзіцца шмат дзікай лясной птушкі. Глеба супяшчаная, надзвычайна камяністая, бедная,—сяляне ў большасьці яшчэ ўжываюць саху, ураджаі дрэнныя, і насяленьне крыху падкармліваецца каля лесу—на лесараспрацоўках. У гэтым годзе за лясныя працы выплачана каля 400.000 руб. Закінутае далёка ад экономічных цэнтраў — Менску (70 клм.) і Барысаву (55 клм.), м-ка Плешчаніцы на свае штотыднёвыя кірмашы—па аўторках—сьцягвае насяленьне з 25 клм. навокал, сюды зьяжджаецца да 1000 падвод у сярэднім. Досыць шпарка ідзе гандаль рознымі сялянскімі продуктамі; прадаецца кожны раз у сярэднім да 100—120 галоў скаціны. На тэрыторыі Плешчаніцкага раёну даўней было шмат панскіх маёнткаў, і двары іх усе захаваліся і скарыстоўваюцца. Багата мясцовасьць і на ўспаміны пра польскае паўстаньне ў 1863 г., многа ёсьць помнікаў сівой старосьветчыны—гарадзішчаў і курганоў, тут ляжаў калісь галоўны шлях з Менску на Полацак. Праз Плешчаніцы на Даўгінаў уцякаў з-пад Барысава Напалеон у 1812 г., і тут былі бойкі. Усе гэтыя факты і помнікі зьяўляюцца цікавымі краязнаўчымі об'ектамі. І калі на сходзе актыву Плешчаніцкіх працаўнікоў 26 верасьня інструктар ЦБК т. Жураўскі намаляваў шырокую карціну конкрэтной краязнаўчай працы ў раёне, адгукнуліся амаль усе прысутныя, і кожны абраў па сваёй спэцыяльнасьці і замацаваў за сабой адпа-

ведную тэму. Працаўнікі лясьніцтва ўзяліся вызначыць дакладную лінію водападзелу і апісаць фаўну раёну. Настаўнік—грамадазнаўца з аграномамі замацавалі за сабой працу па вывучэньні экономікі раёну. Дасьледваць рынак у Плешчаніцах мяркуецца правесьці сіламі вучнёўскага гуртка краязнаўства пры 7-цы. Двое настаўнікаў 7-кі дасьледуюць гісторыю Плешчаніц і рыхтуюць даклад аб гэтым на першым чарговым сходзе краязнаўцаў. Таксама ўхвалена прапанова зрабіць на наступным сходзе даклад аб выніках нагляданьняў над мэтэоролёгічнымі зьявамі. Прадстаўнік Комсамолу і РВК згадзіліся ўзяць на сябе вывучэньне топографіі паўстаньня 1863 г. і сабраць народныя паданьні аб гэтым. Пастаноўлена зарэгістраваць і апісаць усе помнікі старасьветчыны раёну. Доктар узяўся дасьледваць і апісаць хворобы ад глістоў, якія вельмі распаўсюджаны ў раёне. Усе прысутныя згадзіліся на тое, што ўсе матар'ялы і зборы трэба сконцэнтроўваць у краязнаўчым музэі, пачатак якога ўжо ёсьць ў школе 7-цы. Таксама аднагалосна падтрымана прапанова прыступіць да выпуску краязнаўчага часопісу.

Праца знайшлася кожнаму — і кожны ўзяўся за яе з ахвотай.

На гэтым-жа сходзе было абабрана новае праўленьне і пастаноўлена склікаць краязнаўчую конфэрэнцыю і перарэгістраваць ўсіх сяброў. У праўленьне ўвайшлі настаўнікі, аграном, лясьнічы, прадстаўнік райкому ЛКСМ.

Было выказана пажаданьне аб накіраваньні ў Плешчаніцкі раён у наступным годзе якой-колечы экспэдыцыі Інбелькультy.

У той-жа дзень (зранку) была праведзена гутарка ў вучнёўскім гуртку краязнаўства і вызначаны плян яго працы на бягучы год. Вучні пакрыху вялі гэтую працу і раней і выяўляюць да яе вялікую зацікаўленасьць.

### Лагойскае раённае т-ва Краязнаўства.

8 кастрычніка, у мэтах ажыўленьня краязнаўчай працы, быў скліканы сход працаўнікоў розных устаноў м. Лагойску. Пасьля дакладу аб чарговых задачах і пытаньнях раённага краязнаўства (інструктара ЦБК т. Жураўскага) прысутныя актыўна выступілі з рознымі заўвагамі і прапановамі аб далейшай працы. Галоўнымі чарговымі працамі вызначаны наступныя: вывучэньне сельскай гаспадаркі раёну з розных форм зямлякарыстаньня (вёска, хутар, пасёлак, калгас, камуна); саматужная прамысловасьць местачковых яўрэяў; рэволюцыйны рух 1905 г.; паўстаньне 1863 г.; флёра і фаўна лясоў Лагойскага раёну; расьліны ваколіцы Лагойску па згуртаваньнях (поплаў, балота, парк. і іншае). Пастаноўлена пашырыць і папоўніць краязнаўчы музэй пры школе. Кожнаму вызначана конкрэтная праца, адпаведна спэцыяльнасьці і асабістай зацікаўленасьці. Вынесена пажаданьне аб найхутчэйшым надрукаваньні зборніку „Лагойскі раён", які складзены сябрамі т-ва пад кіраўніцтвам раённага інспэктара нар. асьветы, і мае мэтай дапамагчы настаўніцтву ў яго працы па комплексу „Наш раён". Кніжка гэтая перададзена Менскаму акруговаму т-ву Краязнаўства для прагляду і выданьня, якое мяркуецца праз м-цы два.

Наогул зараз пакрыху пачынае вызначацца на раёне ажыўленьне ў краязнаўчай працы, асабліва сярод настаўнікаў, якія часткова прымушаюцца да гэтага запатрабаваньнямі школьных програм. У некаторых вясковых школах вядуцца сталыя краязнаўчыя досьледы (Пуцілаўская школа).

На сходзе 8/Х абрана новае Праўленьне Краязнаўчага т-ва і пастаноўлена склікаць раённую конфэрэнцыю ў студзені м-цы. На конфэрэнцыі, апрача справаздачы праўленьня, будзе заслуханы даклад аб працы па краязнаўству Пуцілаўскай школы, а таксама будуць зроблены даклады на особныя тэмы, падрыхтаваныя паводле заданьня Праўленьня. Да скліканьня конфэрэнцыі пастаноўлена правесьці працу па ўтварэньні краязнаўчых гурткоў пры сельсаветах раёну.

Удзельнікі гэтай краязнаўчай нарады разыходзіліся з бодрым жаданьнем працы і надзеяй, што цяпер яна пойдзе больш пасьпешна, бо вызначаны пэўныя конкрэтныя заданьні, і т-ва становіцца на шлях самастойных досьледаў, а ня будзе выконваць толькі заданьні і прапановы цэнтральных устаноў, як было дагэтуль.

---

Выдавец--Інстытут Беларускае Культуры
Рэдактар—З. Бядуля.

Члены Рэдакцыі: М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.

ВЫШЛА З ДРУКУ

КРАЯЗНАЎЧАЕ АПІСАНЬНЕ:

# АСІПАВІЦКІ РАЁН БАБРУЙСКАЕ АКРУГІ

## ПРЫРОДА

ВЫДАНЬНЕ ІНСТЫТУТУ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

in 8°, 160 стар. Цана 2 руб.

Прадаецца ў Інбелкульце і ў кнігарнях Бел. Дзяржаўн. Выдавецтва

Краязнаўчым організацыям і паасобным краязнаўцам устаноўлена скідка

Друкуецца „АСІПАВІЦКІ РАЁН". выпуск другі: Краязнаўчае апісаньне—1) Мяст. Асіпавічы, 2) Зборскі сельсавет, 3) Вёска Журавец, 4) Помнікі старасьветчыны ў Асіпавіцкім раёне.

Цана 50 кап.


# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА на 1928 г.

НА ПОПУЛЯРНА-НАВУКОВЫ КРАЯЗНАЎЧЫ ЧАСОПІС **„Наш Край“**

**„Наш Край“** зьмяшчае артыкулы популярна-навуковага характару па ўсіх галінах краязнаўства ў БССР.

**„Наш Край“** зьмяшчае кіраўнічыя ўказаньні: анкеты, програмы, інструкцыі і мэтодычныя артыкулы па краязнаўстве.

**„Наш Край“** дае на сваіх старонках адбітак працы ўсіх краязнаўчых організацый БССР.

**„Наш Край“** павінен быць у кожнай школе, нардоме, хаце-чытальні, клюбе і бібліотэцы.

**„Наш Край“** павінен быць настольнай кнігай кожнага краязнаўцы.

## У ЧАСОПІСЕ ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

М. Азбукін, Г. С. Аляксандраў, А. Аніхоўскі, К. Атраховіч, Н. Бываеўскі, З. Бядуля, М. Бялуга, Проф. П. Бузук, Д. Васілеўскі, І. Вітколускі, Проф. Васількоў, М. Грамыка, Г. Гарэцкі, М. Гарэцкі, А. Ганжын, Зьм. Даўгяла, В. Дружчыц, С. К. Жураўскі, М. Зьбіткоўскі, Проф. У. М. Ігнатоўскі, А. Казак, Я. Каранеўскі, Кіпель, М. Кіркевіч, А. Квяткоўскі, А. Крукоўскі, Я. Кісьлякоў, М. Касьпяровіч, Купрэвіч, М. Ламака, В. Ластоўскі, Макарэўскі, Д-р Магілеўчык, Мацьвяёнак, У. Мікіцінскі, М. Мялешка, Натальлін, С. Нікіфаровіч, А. Нямцоў, Г. Парэчын, Проф. В. Пераход, Проф. У. Пічэта, Я. Ракаў, В. Самцэвіч, П. Самцэвіч, Проф. П. Салаўёў, Н. Савіч, А. Сянкевіч, А. Сяргеенка, Я. Траяноўскі, Я. Троська, У. Уладзімераў, Проф. А. Фядзюшын, Е. Цехановіч, А. Шашалевіч, Ал. Шлюбскі, М. Шчакаціхін, Проф. Яцанткоўскі і шмат іншых.

**Умовы падпіскі:** На год . . 4 р. — к. | На 3 м-цы 1 р. 25 к.
На паўгода 2 р. 25 к. | На 1 месяц — р. 50 к.

**Гадавым падпісчыкам выдаецца прэмія — „АСІПАВІЦКІ РАЁН“, выпуск II — узорнае краязнаўчае апісаньне сельсавету, мястэчка і вёскі. Кніжка патрэбная для працы кожнага краязнаўцы, настаўніка і палітасьветпрацаўніка.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА: у рэдакціі часопісу „Наш Край“ (Менск, Рэволюцыйная, № 21, Ц. Б. Краязнаўства), ува ўсіх паштовых аддзяленьнях, у раённых і акруговых краязнаўчых організацыях і ўва ўсіх кнігарнях Бел. Дзярж. Выдав. і інш.**

„НАШ КРАЙ“ прадаецца: у Цэнтральным Бюро Краязнаўства пры Бел. Акадэміі Навук, ува ўсіх аддзяленьнях БДВ і ўва ўсіх аддзяленьнях і кнігарнях іншых выдавецтваў.

Выпісваць можна з Ц. Б. Краязнаўства поўн. комплекты часопісу „Наш Край“ ад 1-га нумару да канца 1928 г. са скідкай для краязнаўчых організацый і паасобных краязнаўцаў у 30%—за 8 руб.

Апрача гэтага ў ЦБК прадаюцца:

„Працы I Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду“—50 кап.
„Працы II Ўсебеларускага Краязнаўчага Зьезду„—50 кап.
Асіпавіцкі Раён — Першы выпуск — 2 р.

У хуткім часе выходзіць з друку 2 частка „Апісаньне Асіпавіцкага раёну“